ЦЭНТРАЛЬНАЯ КАМІСІЯ ЦВК·БССР
ПА АДЗНАЧЭНЬНЮ 10-й ГАДАВІНЫ
КАСТРЫЧНІКАВАЙ РЭВОЛЮЦЫІ
ІГІСТПАРТ ЦК·КП(б)Б

А. ЧАРВЯКОЎ




МЕНСК 1927

ЦЭНТРАЛЬНАЯ КАМІСІЯ ЦВК БССР ПА АДЗНАЧЭНЬНЮ
10-й ГАДАВІНЫ КАСТРЫЧНІКАВАЙ РЭВОЛЮЦЫІ

ГІСТПАРТАДДЗЕЛ ЦЭНТРАЛЬНАГА КАМІТЭТУ КП(б)Б

А. ЧАРВЯКОЎ



# ЗА САВЕЦКУЮ БЕЛАРУСЬ



МЕНСК—1927

## ПРАДМОВА

«За Савецкую Беларусь» ёсьць спроба даць кароткі, конспэктыўны агляд галоўных этапаў барацьбы за Савецкую Беларусь, а разам растлумачыць найбольш зразумела, чаму толькі шлях Савецкай улады, шлях дыктатуры пролетарыяту пад кіраўніцтвам Комуністычнае партыі зьяўляецца адзіна правільным і адзіна адпавядаючым інтарэсам рабочых і сялян Беларусі ў іх барацьбе за лепшую будучыну, за соцыялістычны парадак жыцьця.

Увесь час, калі пісаў гэту кнігу, я думаў пра ўсіх тых рабочых, сялян, інтэлігентаў, разам з якімі мы пад кіраўніцтвам Компартыі вядзем барацьбу за Савецкую Беларусь, будуем новае жыцьцё ў Савецкай Беларусі. Для іх напісана гэта кніга. У сваёй працы я шчыра жадаў быць зразумелым і карысным гэтым шырокім масам барацьбітоў і будаўнікоў Савецкай Беларусі.

На вялікі жаль, брак часу і матар'ялаў не далі магчымасьці як сьлед распрацаваць усе пытаньні беларускай політычнай сучаснасьці.

Добра разумею гэты недахват і згаджаюся даць у друк кнігу толькі па настойных дамаганьнях таварышоў, якія лічаць карысным яе надрукаваньне нават у такім выглядзе.

Хацеў-бы, каб на гэтым ня скончылася праца над маёй кнігай.

Хацеў-бы, каб кожны чытач, прагледзеўшы кнігу, запаліўся-б жаданьнем паправіць яе, палепшыць, дзеля чаго напісаў-бы мне зусім шчыра і адкрыта аб усіх добрых і дрэных баках кнігі, сказаў-бы, што трэба дадаць, што трэба выкінуць.

Разам з рабочымі і сялянамі, разам з працоўнай інтэлігенцыяй мы творым новае социялістычнае жыцьцё, разам трэба пісаць і кнігу нашага жыцьця.

У канцы лічу абавязковым шчыра падзякаваць т. т. Агурскага і Гэльтмана за правільныя заўвагі, на падставе якіх мною зроблены своечасова папраўкі і дадаткі.

Таксама дзякую т. т. Ю. Ігнаценка і Ў. Каліноўскаму за дапамогу ў зьбіраньні і распрацоўцы матар'ялаў.

**А. Чарвякоў.**

---

I

# На перагібе гісторыі.

Мы ўсе добра ведаем, што гаспадарчае жыцьцё разьвіваецца ў залежнасьці ад разьвіцьця продукцыйных вытворчых сіл. Разам з гэтым зьмяняецца экономічны парадак, зьмяняюцца ўзаемаадносіны паміж людзьмі, зьмяняюцца політычныя і праўныя формы жыцьця, зьмяняецца і сьветагляд ды псыхічны склад чалавека. Аб гэтым Кароль Маркс казаў: «На пэўнай ступені свайго разьвіцьця вытворчыя сілы грамадзянства ўваходзяць у супярэчнасьць з існуючымі ў гэтым грамадзянстве вытворчымі адносінамі ці, кажучы тое самае юрыдычнай мовай, з маемаснымі адносінамі, унутры якіх яны дагэтуль разьвіваліся. З форм, дапамагаўшых разьвіцьцю вытворчых сіл, гэтыя адносіны робяцца перашкодай іх разьвіцьця. Тады надыходзіць эпоха соцыяльнай рэволюцыі. Са зьменай экономічнай падставы зьмяняецца больш ці менш хутка ўся агромністая надбудова, што ўзвышаецца над ёй».

Калі мы прасочым за разьвіцьцём чалавечага жыцьця, дык знойдзем яскравую падмогу гэтым словам. Гісторыя Беларусі таксама можа быць добрым прыкладам для вышэйсказанага.

У даўнейшыя часы гісторыі Беларусі, калі нашы прадзічы жылі племянным бытам, іх адносіны характарызаваліся асаблівасьцямі р а д о в а г а  б ы т у: род супольна ўладаў рухомай і нярухомай маемасьцю і кіраваўся сваім старшым у родзе: прадзед, дзед, бацька, старэйшы брат або старэйшы па выбару. Пастановы роду прымаліся на радавым сходзе—вечы.

Далейшае разьвіцьцё гаспадарчага жыцьця Беларусі, пачынаючы з XII веку, адзначаецца значнымі ўплывамі гандлю, які ішоў з Усходу на Захад. Заняткамі галоўнай масы насельніцтва былі пушны або рамесьніцкі промысел; але на поверх жыцьця выплываюць больш матар'яльна дужыя,

тыя, хто захапляе ў свае рукі гандаль, вылучаецца частка насельніцтва, якая верхаводзіць у гандлі.

На падставе свайго матар'яльнага «першынства» гэтая частка насельніцтва, якая пачынае называцца баярамі або купцамі, трымае ў сваіх руках уладу, кіруе і камандуе на вечавых сходах, назначае і праганяе князёў ды г. д. Ужо ў гэтыя старадаўнія часы ёсьць падзел насельніцтва на баяр, мяшчан і простых людзей, паміж якімі ўвесь час ідзе вострая барацьба.

Наступны пэрыод прышоў разам са зьменай матар'яльнай падставы. Роля гандлю, як асноўнай галіны гаспадарчага жыцьця, паступова пачала зьмяншацца, і на першы плян высунуліся пазямельныя суадносіны: багацтва і галеча, а разам з гэтым сіла або слабасьць політычная пачалі залежаць ад земляўладаньня.

Галоўнае багацьце пачынае даваць зямля. Той, хто мае больш зямлі, мае больш багацтва. Разам з гэтым і ўлада пераходзіць у рукі таго, хто ўладае найбольшымі зямельнымі абшарамі. Кляса вялікіх земляўласьнікаў мае старадаўнае прозьвішча баяр, або земян, а потым прымае назву шляхты. Сялянства паступова траціць права на зямлю. У сялянства застаецца толькі права на свабоднае карыстаньне сваёй працай. Але дужэйшая кляса земляўласьнікаў выкарыстала сваю сілу і свае ўплывы, каб пазбавіць сялян нават права на свабоднае карыстаньне сваёй працай.

Так узьнікае прыгон.

Пераход зямлі да шляхты—дваранства даў у яе рукі ўсю дзяржаўную ўладу. Вышэйшая ўлада караля мела сілу і значэньне толькі да таго часу, пакуль кароль быў першым найбагацейшым земляўласьнікам.

Разам са стратай сваёй зямельнай маемасьці, каралеўская ўлада ў польска-літоўска-беларускай дзяржаве страціла ўсе свае правы і права дзейнасьці.

Улада апынулася ў руках шляхты—фэўдалаў, якія ядналіся агульнымі інтарэсамі адзінай матар'яльнай падставы—зямлі.

Сярод фэўдалаў—шляхты выдзелілася 30-40 вяльможных радавітых паноў, якія зьяўляліся ўладарамі вялізарнай часткі дзяржаўнай маемасьці, а разам з гэтым былі фактычнымі гаспадаркамі ды ўладарамі дзяржавы. Да гэтых вяльможных паноў далучаліся меншыя паны; потым ішлі падпанкі і дробная шляхта. Хаця шляхта па стану сваёй гаспадаркі і жыцьця вельмі падыходзіла да сялян, але яе зя-

-мельныя інтарэсы былі аднолькавы з інтарэсамі вялікіх паноў, як аднае клясы ўладароў зямлі ды ўдзельнікаў у дзяржаўнай уладзе супроць паднявольнага і бяспраўнага сялянства.

Гэты пэрыод жыцьця Беларусі носіць назву «фэўдалізму» *).

Наступны пэрыод у гаспадарчым разьвіцьці адзначыўся скасаваньнем прыгону.

Чаму быў скасаваны прыгон? Таму, што ў гаспадарчым жыцьці Беларусі, як і ўсёй Расіі, надышлі зьмены. Раней інтарэсы земляўласьніка і дзяржавы патрабавалі прымацаваньня селяніна да зямлі. Разам-жа з вялікім узростам насельніцтва, а таксама паступовым узростам гандлёвага капіталу і прамысловасьці, прыгон рабіўся нявыгодным для разьвіцьця капіталізму, як новай больш высокай формы грамадзянска-гаспадарчых узаемаадносін, пачаў затрымліваць гаспадарчае разьвіцьцё. Калі-б царскі ўрад ня выдаў закону аб скасаваньні прыгону, дык прыгон усё роўна быўбы скасаваны рэволюцыйна, бо ён ужо ня толькі не адпавядаў, але, наадварот, супярэчыў інтарэсам гаспадарчага разьвіцьця.

Увесь апошні пэрыод гаспадарчае разьвіцьцё Беларусі і Расіі характарызуецца паступовым умацаваньнем капіталістычных узаемаадносін, якія вялі бязупынную барацьбу за пяршынства і паступова зьнішчалі перажыткі фэўдалізму як у гаспадарчым, так і ў палітычным жыцьці. Узрастаньне капіталізму паступова высоўвала на поверх палітычнага жыцьця новую клясу—капіталістых. У 1905 годзе прамысловая і гандлёвая буржуазія вельмі спачувала так званаму закону «17 октября». Гэты закон меў на ўвазе зьнішчыць старыя фэўдальныя перажыткі і расчыніць дарогу для прыходу да кіруючай палітычнай ролі новай капіталістычнай буржуазіі.

Толькі палітычная друзласьць буржуазіі ды залежнасьць яе ад дзяржаўных заказаў далі царскаму ўраду, у якім цар быў першым памешчыкам-фэўдалам, узяць назад закон «17 октября» і гэтым ізноў прыпыніць зьнішчэньне перажыткаў фэўдалізму. Да апошніх дзён свайго існаваньня, царызм зьяўляўся апірышчам так званага ваенна-фэўдальнага імпэрыялізму.

---

*) *Фэўдалізмам называецца такі лад, пры якім гаспадарчыя і дзяржаўна-працоўныя суадносіны вызначаюцца зямельнымі суадносінамі, прычым уладар зямлі мае дзяржаўныя правы ў стасунку да тых, хто карыстаецца зямлёй.*

Наш кароткі і вельмі агульны прабег па гісторыі Беларусі дае досыць прыкладаў для падмацаваньня тае думкі, што ўзаемаадносіны між людзьмі ды клясамі знаходзяцца ў залежнасьці ад існуючага экономічнага парадку.

Гісторыя другіх народаў магла-б даць яшчэ большы лік больш выразных прыкладаў.

З гэтых усіх прыкладаў мы бачым, што экономічны лад замяняецца адзін другім, больш нізкі—больш высокім. У адпаведнасьці з гэтым кіраваньне дзяржаўным і політычным жыцьцём пераходзіць ад аднэй клясы да другой. Паміж рознымі клясамі на ўсім працягу гісторыі ідзе ўвесь час барацьба за пяршынства.

У «Комуністычным маніфэсьце» аб гэтым гаворыцца так: «Гісторыя кожнага існаваўшага дагэтуль (цывілізаванага) грамадзянства ёсьць гісторыя клясавай барацьбы... Вольны і нявольнік, патрыцы і плебэй, пан і прыгонны, цэхавы майстар і чэлядзінец (падручны), карацей—прыгнятальнікі і прыгнечаныя былі ў стане пастаяннай варажнечы паміж сабою, пачалі бязупынную то патайную, то адкрытую барацьбу, якая кожны раз канчалася рэволюцыйнай перабудовай усяго грамадзкага ладу або супольнай гібельлю ваюючых кляс». («Ком. маніфэст»).

Паспрабуем на падставе зазначаных намі законаў аб залежнасьці ўзаемаадносін паміж людзьмі ды экономічным ладам і закону клясавай барацьбы высьветліць агульны сэнс тых падзей, удзельнікамі якіх зьяўляемся мы, людзі сучаснасьці.

У экономічнай навуцы сучасны экономічны лад перадавых краін носіць назву капіталізму, які мае свае асаблівасьці ў параўнаньні з папярэднім фэўдальным парадкам.

«Цяпер экономічнае значэньне і багацьце краю залежыць перш за ўсё ад капіталістычнай вялікай прамысловасьці, якая служыць ужо не раскошы, а масавай продукцыі прадметаў першай патрэбы». («Ком. маніфэст»).

Разам з разьвіцьцём капіталістычнай прамысловасьці, гандлю, чыгунак, плаваньня па моры, расьце, замацоўваецца і пашыраецца роля буржуазіі, якая паступова з узростам сваіх капіталаў адсоўвае на задні плян усе клясы, што перайшлі ў спадчыну ад мінулага.

Сама буржуазія ў залежнасьці ад таго ці іншага стопню свайго разьвіцця займала адпаведнае месца ў політычным жыцьці ды зьменах. «Буржуазія была то станам, прыгнеча-

ным уладай фэўдальнага пана, то ўзброенай суполкай—комунаю*) з самасправаваньнем: тут яна складае незалежную грамадзкую рэспубліку, там зьяўляецца падатковым трэцім станам у монархічнай дзяржаве; потым, у часе мануфактурнага промыслу, была процівагай шляхецтву ў абсолютнай або абмяжованай стопамі монархіі і была галоўнай падвалінай вялікіх монархій наогул; з утварэньнем-жа вялікага промыслу і сусьветнага рынку гэтая буржуазія заваявала сабе, нарэшце, поўнае політычнае панаваньне ў сучаснай конституцыйнай дзяржаве. Сучасная дзяржаўная ўлада (у буржуазных краінах) ёсьць ні што іншае, як камітэт па супольных справах усяе клясы буржуазіі». («Комуністычны маніфэст»).

Гэтыя словы былі сказаны больш 70 год таму назад. Ужо тады было адзначана, што буржуазія адыграла надзвычайную ролю ў разьвіцьці вытворчых сіл. Тыя сілы, што драмалі ў нетрах грамадзкай працы і што не маглі выявіцца ў папярэдні пэрыод фэўдалізму, атрымалі магчымасьці для свайго вызваленьня ды разьвіцьця. Апанаваньне сіламі прыроды, увядзеньне машыннага способу продукцыі, дапасаваньня хэміі да патрэб прамысловасьці і земляробства, пабудаваньне параходаў, чыгунак, электрычных тэлеграфаў і г. д., і г. д., вось усё тое, што дало грамадзтву панаваньне буржуазіі.

Увесь папярэдні пэрыод часоў перад Вялікай сусьветнай вайной быў працягам далейшага разьвіцьця капіталізму. Капіталізм пераходзіць на новую, вышэйшую ступень—імпэрыялізм. Адбываецца аб'яднаньне капіталістых дзеля концэнтрацыі вытворчасьці па вельмі высокай ступені яе разьвіцьця,—ідзе прысьпешаны захват галоўных крыніц сыравіны, прычым гэтага ў першую чаргу дамагаюцца тыя прамыслоўцы вугальнай і жалезнай прамысловасьці, што ўжо аб'ядналіся. Буржуазія дзеліць паміж сабой вугаль, нафту, жалеза. «Хто ўладае нафтай, той уладае сьветам»,—робіцца лёзунгам дня капіталістычных узаемаадносін. Ідзе аб'яднаньне банкаў.

Можна падаць шэраг прыкладаў, як некалькі банкаў перадавых капіталістычных краін, аб'яднаўшыся, сабралі міліярды і мільёны, што фактычна дае ў іх рукі большасьць капіталаў тэй ці іншай краіны.

*) Так называлася ў італійскіх і францускіх гарадох гарадзкая грамада пасьля таго, як мяшчане выкупілі або адваявалі ад сваіх фэўдальных паноў першае права на самасправаваньне.

Нарэшце, ідзе барацьба за аб'яднаньне ў нямногіх руках уладаньня колёніямі. Раней капіталізм меў магчымасьць разьвівацца вольна, бо яму было шмат прасторы. Але па меры свайго разьвіцьця, па меры падзелу багацьця зрабілася патрэбным яднацца—монополізавацца, каб забясьпечваць у барацьбе за першынства, за багацьце перамогу больш дужэйшым групам капіталістых. Гэта політыка монополістычнага капіталізму і ёсьць імпэрыялізм.

Пераход да імпэрыялізму прынёс новыя дасягненьні ў разьвіцьці вытворчых сіл, а разам з гэтым далейшае замацаваньне ўлады буржуазіі.

Аднак сучаснае буржуазна-капіталістычнае грамадзтва не зьнішчыла клясавай барацьбы. Яно толькі паставіла на пярэдні плян новыя клясы, прынясло новыя формы прыгнечаньня і клясавай барацьбы. Буржуазнае грамадзтва спросьціла клясавыя супярэчнасьці: «Усё грамадзтва што раз выразьней і выразьней распадаецца на два вялікія варожыя станы, на дзьве вялікія, заўсёды спрэчныя паміж сабою клясы: буржуазію і пролетарыят». («Комуністычны маніфэст»).

Разам з ростам буржуазіі расьце пролетарыят. Гэта значыць павялічаюцца масы тых людзей, што продаюць сваю сілу капіталістым, працуючы на прадпрыемствах. Каб панаваць над рабочымі, капіталісты вымушаны забясьпечыць ім тыя ўмовы, у якіх яны маглі-б цягнуць сваё хаця-б паднявольнае існаваньне. Але мы бачым, што гэтага капіталізм і яго вышэйшая ступень—імпэрыялізм ужо не даюць. Досыць у якасьці прыкладу прывесьці ўзрост на ўсім сьвеце дарагоўлі і агульнага зьніжэньня матар'яльнага стану працоўных. Тыя супярэчнасьці, што ўвесь час існавалі паміж буржуазіяй і пролетарамі, павялічаюцца і абвастраюцца. Праца рабочага на капіталістычным прадпрыемстве забясьпечана толькі да таго часу, пакуль гэта дае прыбытак капіталістаму, пакуль заработная плата забясьпечвае рабочаму сродкі на пражыцьцё.

Такім чынам, імпэрыялізм, разам з новымі дасягненьнямі ў разьвіцьці вытворчых сіл, яшчэ больш абвастрыў супярэчнасьці паміж капіталістычнымі групамі, з аднаго боку, і паміж капіталістымі ды пролетарамі, з другога боку.

«Усё гэта», кажа Ў. І. Ленін, «спарадзіла тыя асобныя рысы імпэрыялізму, што прымушаюць характарызаваць яго як загніваючы або паразытычны капіталізм».

Значыць, сучасны момант гістарычнага жыцьця, адзначаны надзвычайным разьвіцьцём імпэрыялістычных адносін, зьяўляецца разам з гэтым момантам загніваньня, распаду капіталізму, заменай капіталістычных адносін новым, больш высокім грамадзка-эканомічным укладам.

«Буржуазія ня можа панаваць, бо яна няздольна забясьпечыць свайму нявольніку пражыцьця, нават у межах яго нявольніцтва, бо яна прымушана дапусьціць заняпад яго да таго стану, у якім яна павінна карміць яго замест таго, каб ён карміў яе. Грамадзтва ня можа далей жыць пад яе панаваньнем, іначай кажучы,—жыцьцё буржуазіі ня можа быць пагоджана з жыцьцём грамадзтва». («Комуністычны маніфэст»).

На цяперашняй ступені свайго існаваньня продукцыйныя сілы сучаснага грамадзтва ўвайшлі ў супярэчнасьць з існуючымі ў гэтым грамадзтве маемаснымі адносінамі... З форм, дапамагаўшых разьвіцьцю вытворчых (продукцыйных) сіл, гэтыя адносіны робяцца перашкодай іхнаму разьвіцьцю.

Чалавечае жыцьцё апынулася, такім чынам, перад магчымасьцю або далейшага пераходу на больш высокую ступень грамадзка-эканомічных суадносін, якая задаволіць патрэбы ўсіх людзей, або перад магчымасьцю, пры захаваньні існуючага ладу, заняпаду.

Паўстала пытаньне аб тым, на якіх падставах трэба ў далейшым будаваць жыцьцё, каб перайсьці ў вышэйшую ступень, хто, якая кляса здолее ўзяць на сябе спадчыну капіталістычнай буржуазіі, каб забясьпечыць гэты пераход.

Усе папярэднія клясы, якія здабывалі сабе панаваньне, імкнуліся забясьпечыць сабе сваё панаваньне тым, што падпарадкавалі ўсё грамадзтва інтарэсам сваёй нажывы. Прыватная маемасьць—вось што было непарушнай сьвятыняй пануючых клясаў. Але, як мы бачым, гэтая-ж прыватная маемасьць зьявілася падставай для зараджэньня, умацаваньня ды разьвіцьця капіталістычных узаемаадносін і давяла да сучасных супярэчнасьцяй, пагражаючы самому існаваньню чалавечага жыцьця. Далейшае разьвіцьцё чалавечага жыцьця на гэтай падставе ісьці ня можа.

Далейшае разьвіцьцё можа пайсьці толькі па шляху зьнішчэньня прыватнай маемасьці, прыватнага прыўлашчэнь-

ня і ўсіх ранейшых спосабаў прыватнага забясьпечаньня— гэта значыць па шляху да комунізму.

Буржуазія перастала быць клясай, верхаводзтва якое забясьпечвала паступовае разьвіцьцё вытворчых сіл. Яна павінна ўступіць месца новай клясе. З усіх клясаў, варожых буржуазіі, толькі пролетарыят бязупынна і няўхільна імкнецца да соцыяльнага прогрэсу. Толькі пролетарыят зьяўляецца сапраўды рэволюцыйнай клясай. «Усе іншыя клясы занепадаюць і гінуць пад уплывам вялікай прамысловасьці, а пролетарыят якраз наадварот—ён расьце і дужэе з разьвіцьцём прамысловасьці». («Комуністычны маніфэст»).

Такім чынам, мы бачым, што капіталістычны сьвет няўхільна ўвайшоў у паласу соцыялістычнай рэволюцыі. Нам трэба цяпер знайсьці адказ на два запытаньні: першае, які размах, якую тэрыторыю і якія дзяржавы павінна ахапіць соцыялістычная рэволюцыя, і другое—дзе яна павінна пачацца?

«Раней», адказвае т. Сталін на першае запытаньне аб размаху рэволюцыі, «зазвычай было гаварыць аб пролетарскай рэволюцыі ў той ці іншай разьвітай краіне, як аб самастойнай значнасьці, якая стаіць супраць асобнага нацыянальнага фронту капіталу, як супраць свайго «антыподу». Цяпер гэтага ўжо мала. Цяпер трэба гаварыць аб сусьветнай пролетарскай рэволюцыі, бо паасобныя нацыянальныя фронты капіталу перайшлі ў зьвяны адзінага ланцуга, які называецца сусьветным фронтам імпэрыялізму і якому павінен быць процістаўлены агульны фронт рэволюцыйнага руху ўсіх краін».

Значыцца, пролетарская рэволюцыя ня можа абмежавацца межамі толькі аднэй дзяржавы. Яна павінна ахапіць увесь сьвет, бо цяпер няма паасобнае нацыянальнае гаспадаркі, а ёсьць адзіная сусьветная гаспадарка. Пролетарская рэволюцыя зьяўляецца вынікам разьвіцьця супярэчнасьцяй у сусьветнай сыстэме імпэрыялізму, вынікам разрыву ў тэй ці іншай краіне агульнага ланцуга імпэрыялістычнага фронту.

Дзе павінна пачацца ў першую чаргу рэволюцыя? Зусім памылкова будзе, калі мы для адказу на гэта запытаньне паспрабуем разьбіраць паасобку кожную краіну і даходзіць, прышоў, ці ня прышоў час соцыялістычнай рэволюцыі ў залежнасьці ад ступені разьвіцьця продукцыйных сіл данай дзяржавы. А тымчасам так звычайна і адказваюць: Рэволю-

цыя пачнецца там, «дзе больш разьвіта прамысловасьць, дзе пролетарыят складае большасьць, дзе большыя культурнасьці, дзе большая дэмократыя». Так, напрыклад, памылкова казаў вядомы тэорэтык марксызму Плеханов. Ленінская-ж тэорыя рэволюцыі на гэта запытаньне адказвае так: «Не, *неабавязкова там, дзе прамысловасьць больш разьвілася* і г. д. Фронт капіталу прарвецца там, дзе ланцуг імпэрыялізму слабейшы, бо пролетарская рэволюцыя ёсьць вынік разрыву ланцуга сусьветнага імпэрыялістычнага фронту ў самым слабым яго месцы, прычым можа здарыцца, што краіна, пачаўшая рэволюцыю, краіна, прарваўшая фронт капіталу, зьяўляецца менш разьвітай з капіталістычнага боку, як другія, больш разьвітыя краіны, якія застаюцца, аднак, у рамках капіталізму». (Сталін).

*У 1917 годзе царская Расія зьявілася найбольш слабым* зьвяном капіталістычнага ланцуга. Пасьля Лютаўскай рэволюцыі расійская буржуазія ня мела сілы ўтрымаць уладу ў сваіх руках. Буржуазная Лютаўская рэволюцыя перайшла ў Пролетарскую Кастрычнікавую. Сусьветная пролетарская рэволюцыя пачалася ў Расіі. Чаму? «Таму, што ў Расіі пачыналася агромністая народная рэволюцыя, на чале якой ішоў рэволюцыйны пролетарыят, маючы такога сур'ёзнага хаўрусьніка, як многамільённае сялянства, прыгнечанае і экплёатаванае памешчыкамі. Таму, што супраць рэволюцыі стаяў там такі брыдкі прадстаўнік імпэрыялізму, як царызм, ня маючы жаднага моральнага ўплыву». І таму, хаця Расія з боку вытворчых сіл стаяла далёка ніжэй, як Францыя, Англія і г. д., аднак, у ёй першай пачалася соцыяльная рэволюцыя.

Гэтак сама будзе і далей. Імпэрыялістычны фронт будзе паступова прарывацца ў найбольш слабых сваіх мясцох, там, дзе ня толькі пролетарыят здолее ўзяць у свае рукі кіраўніцтва, але і там, дзе буржуазія страціць магчымасьць утрымліваць кіраваньне дзяржаўным жыцьцём у сваіх руках.

Такім чынам, Расійскую Кастрычнікавую Рэволюцыю трэба разглядаць, *як пачатак* сусьветнае пролетарскае рэволюцыі. Сутнасьць Кастрычнікавай рэволюцыі ў тым, што яна дала ўладу ў рукі пролетарыяту і тым забясьпечыла перамогу соцыялізму праз бязупыннае соцыялістычнае будаўніцтва. Кастрычнікавая рэволюцыя, перадаўшы ўладу ў рукі пролетарыяту, гэтым самым дала магчымасьць пролетарыяту разам з агромністымі масамі бяднейшага і сярэдняга

сялянства будаваць социялістычныя адносіны ў нашай краіне, зьяўляючыся ў той-жа час дапамогай пролетарыяту іншых краін у іхнай барацьбе з сусьветным імпэрыялізмам. У свой час, калі пролетарыят іншых краін падолее сваю буржуазію і праз рэволюцыю захопіць уладу ў свае рукі, наша праца па будаўніцтву соцыялізму пойдзе ўперад больш шпарка.

Чалавечае грамадзтва ў бягучы момант знаходзіцца на перагібе сваёй гісторыі, у паласе сусьветнай Кастрычнікавай рэволюцыі, пачатак якой палажыла Кастрычнікавая рэволюцыя ў б. Расіі.

Сусьветны Кастрычнік—вось сэнс тых рэволюцыйных падзей, сьведкамі і ўдзельнікамі якіх зьяўляемся мы, людзі сучаснасьці.

---

II

# Беларусь перад Кастрычнікавай рэволюцыяй.

Официыяльна Беларусі перад рэволюцыяй ня было, а быў «Северо-Западный край» Расійскай Імпэрыі. Праўда, урачыстыя маніфэсты цара, якія звычайна пачыналіся пералікам яго тытулаў, мелі заўжды прызнаньне, што «цар масковускі» ёсьць таксама і «вялікі князь літоўскі». Але гэта было толькі для ўрачыстасьці, каб выклікаць большую павагу да цара па-за межамі Расійскай імпэрыі. Сапраўды-ж усё тое, што так ці іначай гаварыла аб былой гісторыі Беларусі, што так ці іначай магло напамінаць, што Беларусь, гэта ня ёсьць Расія,—усё гэта нішчылася, перасьледвалася, выпальвалася агнём ды жалезам.

Царскі ўрад, захапіўшы ў свае рукі Беларусь пасьля падзелу Польшчы, упэўніў сябе і стараўся ўпэўніць другіх, што Беларусь ёсьць «ісьціна-рускі» край. Гора было таму, хто з гэтым не згаджаўся і думаў іначай.

Гістарычныя падзеі ў Беларусі за апошні век унесьлі ў жыцьцё страшэнную блытаніну. Простаму чалавеку было вельмі цяжка разабрацца ва ўсіх хітрыках пануючых клясаў. Да таго-ж стан большасьці сялянства, а таксама жыхароў гораду і мястэчак—рабочых, саматужнікаў, рамесьнікаў, быў надзвычайна цяжкі з матар'яльнага боку, бяспраўны і паднявольны.

Беларусь была далучана да Расіі ў тыя часы, калі Польшча знаходзілася ў экономічным, політычным і культурным заняпадзе. Польскае панства—шляхта, асабліва яе вяльможная частка, трацілася на шыкарнае жыцьцё, выціскаючы на гэта апошнія сокі з сялянства. Сялянства знаходзілася ў стане поўнага заняпаду, бо пан быў ня толькі гаспадаром, на якога працаваў прыгонны селянін, але ён быў таксама і гаспадаром жыцьця і сьмерці свайго хлопа—прыгоннага. Цар-

скі ўрад пасьля далучэньня Беларусі да Расіі пастараўся выкарыстаць цяжкое становішча сялян: каб паслабіць уплывы польскага панства ў Беларусі, цар і яго губарнатары зрабілі выгляд, што яны не спачуваюць адносінам паноў да сялянства і клапоцяцца аб долі селяніна. Напрыклад, царскі ўрад яшчэ задоўга да агульна-расійскага закону аб скасаваньні прыгону, прапанаваў паном на Беларусі «добраахвотна» адмовіцца ад прыгону. Прыгон, як вядома, быў скасаваны ў 1861 годзе маніфэстам цара. Большасьць панства была проціў гэтага і доўгі час не хацела выконваць гэтага закону. Мой дзед апавядаў, што яго пан пасьля агалашэньня маніфэсту 1861 г. сабраў сваіх хлопаў у царкве і казаў: «Дурні будзеце, калі паслухаеце маніфэсту, з голаду падохнеце бяз пана. Ведайце, што гэты закон усё роўна скасуюць, і дрэнна будзе потым таму, хто паслухае закону і кіне адбываць паншчыну. І, паводле слоў дзеда—ткача ў панскім двары, з усёй грамады народу ён толькі адзін адважыўся сказаць пану, што больш на паншчыну ня пойдзе.

Значыць, абставіны складаліся так, што цар выходзіў абаронцам сялян. Адсюль выходзіла і тая думка, што палепшаньне стану гаротнага сялянства ідзе з Расіі і што, наадварот, усё тое, што вядзе барацьбу супраць Расіі, накіравана супраць інтарэсаў сялян. Гэту думку царскі ўрад стараўся ўсялякім спосабам пашырыць і замацаваць. Каб паслабіць матар'яльнае становішча польскага панства, царскі ўрад конфіскаваў панскую зямлю і раздаваў яе часткай сваім чыноўнікам, а часткай бяднейшаму сялянству, былым дварным і г. д. Царскі ўрад, каб зьвязаць рукі панству, заводзіў так званае сэрвітутнае землякарыстаньне, пры якім інтарэсы селяніна сустракаліся з інтарэсамі землеўласьніка. І ў той час, як земляўласьнік імкнуўся зьнішчыць сэрвітут, царскі ўрад зноў выступаў, як абаронца сялян, абараняючы для сялян гэтыя сэрвітуты. І таму, калі ў 1863 годзе пачалося новае паўстаньне на землях былой Польшчы, а гэта значыць і ў Беларусі, дык яно ўжо ня мела такога размаху, як у 1831 годзе. Царскі ўрад кінуў думку ў сялянскія масы, што гэта ёсьць паўстаньне паноў, якія хочуць вярнуць прыгон, што, вядучы барацьбу супраць прыгону, царскі ўрад вядзе барацьбу дзеля абароны сялянства ад паноў. Такія думкі знаходзілі сабе глебу сярод сялянства і мелі значны ўплыў на сялянскія настроі. Гэта можна падмацаваць прыкладамі нават з найноўшых часоў. Вядомы польскі буржуазны дзеяч,

Станіслаў Грабскі, надрукаваў у 1923 годзе кнігу: «Увагі да бягучай гістарычнай хвіліны Польшчы», дзе ён кажа так: «Урадавая дэмагогія... пакінула ў настроях і поглядах вёскі Каралеўства значныя сьляды. Ёсьць ваколіцы, дзе яшчэ нядаўна былі чутны ад старых сялян словы няверы ў Польшчу: «рускі нас выхаваў, рускі нас і пахавае».

Такім чынам, дзякуючы таму, што, з аднаго боку, становішча сялян Беларусі было вельмі цяжкае і што, з другога боку, царскі ўрад напружваў усе сілы, каб зьнішчыць усё нярускае, а ў першую чаргу найбольш культурна-політычна сьвядомую польскую буржуазію, барацьба супраць польскага панства пераносілася наогул на барацьбу супраць Польшчы і ўсяго польскага, а барацьба за палепшаньне долі селяніна злучалася з барацьбой за Расію і за ўсё рускае. Царскі ўрад ішоў да сваёй мэты цьвёрда і проста. Тых, хто не хацеў скарыцца, ён пасылаў на шыбеніцу або ў Сібір.

Уся політыка царскага ўраду праводзілася для таго, каб замацаваць канчаткова Беларусь за Расіяй, як «Северо-Западный Край».

Царскі ўрад трапна выкарыстоўваў настроі сялянства супраць панства ў барацьбе за замацаваньне сваёй улады над Беларусьсю.

Але ад гэтага сялянству ня было лепей. Яно стагнала ад малазямельля, ад агульнага зьбядненьня пасьля прыгону, ад самаўладзтва адміністрацыі, ад някультурнасьці, ад зьдзекаў над сваім жыцьцём, сваёй мовай, сваёй культурай. Фактычна клопаты царскага ўраду аб беларускай вёсцы абмяжоўваліся тым, каб даць замест польскага пана—расійскага. Вядомая політыка Мураўёва ажыцьцяўлялася пад лёзунгам: «Заваяваць Беларусь для Расіі расійскім самаварам». Гэта значыць шляхам колёнізацыі Беларусі расійскімі элемэнтамі. Царскі ўрад сурова абыходзіўся, сурова караў за ўсялякую праяву незадаваленьня існуючым ладам ды імкненьня да вызваленьня ад уціску. Вядома, што ў 1863 годзе, калі на Беларусі ўтварыўся «Чырвоны жонд» пад старшынством Кастуся Каліноўскага для вызваленьня беларускага сялянства ад панаваньня і польскіх і рускіх паноў, дык царскі ўрад вёў з ім барацьбу і як з супраціўнікам расійскага царызму, і як з клясавым ворагам буржуазіі. Урад, які рабіў выгляд, што ён спачувае цяжкому жыцьцю сялян, паслаў К. Каліноўскага на шыбеніцу.

Усё тое, што так ці іначай напамінала аб Беларусі і яго гаротных жыхарох гораду і вёскі, перасьледвалася, усіх тых,

хто паднімаўся на абарону матар'яльнага становішча, а таксама нацыянальных, культурных асаблівасьцяй Беларусі, каралі, або праганялі. Так, шыбеніцамі, царквой ды казармай царская Расія імкнулася зьнішчыць Беларусь, як самабытную краіну.

З другога боку, Беларусь знаходзілася пад хвалямі польскіх уплываў. Польская нацыяналістычная буржуазія на Беларусі ў сваёй барацьбе за вызваленьне Польшчы з-пад царскага ўладаньня імкнулася ўцягнуць у гэту барацьбу і Беларусь. Беларусь, на думку паноў-абшарнікаў і наогул польскіх нацыяналістычных элемэнтаў, гэта «Крэсы Ўсходнія» Польшчы, гэта Белапольшча, гэта спрадвечная польская краіна. Цар сваё права даводзіў шыбеніцай, катаргай, грашыма, «чынамі і ордэнамі», а польскія нацыяналістыя нелегальна таксама імкнуліся даводзіць сваё. Памятаю такі выпадак з дзіцячых гадоў у Вільні, мне было гадоў 8-9. Прыходзяць да мяне таварышы і кажуць: «Ці ня хочаш кожны дзень атрымліваць шклянку малака і булку з маслам? Хто-ж ня хоча? Умовіліся, што заўтра пойдзем на пляцоўку, дзе гэта даюць. Адна толькі было ўмова: сказаць, што ты паляк, гаварыць толькі папольску і калі прыдзе ксёндз, дык перажагнацца паводле каталіцкага абраду. І гэта было не выпадкова. Гэта была цэлая сыстэма паступовага ўцягваньня ў арганізацыі баявога польскага нацыяналізму мясцовых элемэнтаў.

Становішча заблытвалася тым, што ў барацьбу расійскага і польскага нацыяналізму ў Беларусі ўмяшалася рэлігійнае пытаньне: праваслаўны—рускі, каталік—паляк. Расійскі ўрад выкарыстоўваў праваслаўнае духавенства для барацьбы за ўплывы Расіі: польскі нацыяналізм, як вядома, на ўсім працягу свайго гістарычнага разьвіцьця карыстаецца каталіцкім косьцелам дзеля сваіх інтарэсаў. Беларускае-ж сялянства разьбілася па веры на 2 часткі—праваслаўных і каталікоў—і ўцягвалася ў барацьбу расійскага ды польскага нацыяналізму.

Абодва бакі—і расійская і польская буржуазія, будучы варожымі адзін да другога, аднак сходзіліся і рабіліся хаўрусьнікамі *ў барацьбе супраць працоўных Беларусі. Усякая* думка аб тым, што Беларусь гэта і ня Польшча, і не Расія, і што беларускае сялянства аднолькава няпрыхільна да польскага і расійскага панства, ваража сустракалася як польскай, так і расійскай буржуазіяй. Расійскі нацыяналісты

крычаў, што ідэі аб Беларусі паднімаюцца польскімі нацыяналістымі ў іх барацьбе супроць Расіі і што гэта ёсьць «польская інтрыга». Польскія нацыяналістыя, наадварот, паднімалі гоман, што гэта ёсьць паход супраць польскасьці ў Беларусі, што гэта ёсьць «расійская інтрыга». Сапраўды-ж абодва бакі баяліся зьяўленьня такіх думак аб Беларусі, бо яны добра бачылі, што падставай для гэтых думак было паступовае нарастаньне разуменьня працоўных, патрэбы барацьбы супраць панства і прыгнечаньня.

Разабрацца, як відаць, у складаных палітычных ды нацыянальных пытаньнях беларускага жыцьця простаму чалавеку было вельмі цяжка. Да ўсяго гэтага дамешвалася і яўрэйскае пытаньне. Расійскі ўрад да далучэньня Беларусі да Расіі не дазваляў жыць яўрэям у Расіі. Калі-ж, разам з далучэньнем Беларусі, у склад жыхароў Расіі ўвайшлі і яўрэі, дык перад расійскім урадам паўстала пытаньне, што рабіць з гэтым насельніцтвам? Яўрэі трымалі ў сваіх руках мясцовы гандаль і прамысловасьць. Значыць, з гэтага боку яны былі карысны нават царызму, бо плацілі падаткі. Але, з другога боку, яўрэйскі капітал быў конкурэнтам для расійскага і таму трэба было яго ўсялякімі спосабамі абмяжоўваць. І мы бачым, што расійскі ўрад усялякімі спосабамі імкнецца прыціснуць яўрэйскае насельніцтва. «Черта оседлости», процантная норма ў школах, забарона працаваць і карыстацца зямлёй, забарона працаваць на дзяржаўных пасадах, прымаць удзел у мясцовых самаўрадах—гэта і шмат што іншае, што прыходзіла ў галаву губарнатарам, спраўнікам, земскім,ураднікам, стражнікам і г. д. зьяўлялася законам для яўрэйскага насельніцтва. Але ў гэтай барацьбе супраць яўрэяў удары фактычна траплялі ў яўрэйскую беднату, бо яўрэйская буржуазія купляла гільдыю, здабывала «почетное гражданство», дабівалася профэсій, якія выводзілі яе з гэтага зачарованага кола. Становішча-ж яўрэйскай беднаты ад гэтага было яшчэ горшае, было немагчымае, даводзіла да выміраньня яўрэйскага насельніцтва. А царскі ўрад імкнуўся выклікаць сярод беларускага ды іншага насельніцтва варожыя адносіны да яўрэяў. Ува ўсім ён стараўся вінаваціць яўрэя. Так выходзіла, што Беларусь паступова рабілася арэнай барацьбы розных нацыянальнасьцяй, што вельмі ахвотна падтрымліваў і чым вельмі хітра карыстаўся ўрад.

Такім чынам, калі перад рэволюцыяй уся Расійская імпэрыя стагнала пад уціскам вайскова-бюрократычнага бота

царызму, дык гэты стогн у Беларусі быў яшчэ горшы, як у Расіі.

Гаспадарчае становішча Беларусі было ўвесь час цяжкое. Пасьля скасаваньня прыгону беларуская вёска, гарады і мястэчкі доўгі час не маглі ўстаць на ногі. Селянін атрымаў зямлю, але большая і лепшая частка яе засталася ў абшарнікаў. На селяніна налажылі выкуп за зямлю па такой высокай ацэнцы, што селянін заплаціў і за зямлю, і за сябе, і за даўгі пана.

Жыць рабілася ўсё цяжэй. Пасьля таго, як сялянская гаспадарка трохі падужэла, паачлося натуральнае выдзяленьне ў ёй невялікага ліку багацейшых і вялізарнай колькасьці бяднейшых. Багацейшыя сяляне гатовы былі згадзіцца з царскімі расійскімі парадкамі, бо і ўрад імкнуўся дапамагаць багацейшым праз банкі, каб гэтым зрабіць багацейшых сваімі прыхільнікамі. Але бедната выйсьця ня мела. Досыць сказаць, што перасяленьне ў Сібір толькі з чатырох губэрань— Магілеўскай, Менскай, Віцебскай і Смаленскай—за 20 год з 1896 па 1915 дало сёмую частку перасяленцаў з усёй Расіі.

Каб палепшыць сваё становішча, сялянства вяло барацьбу з панствам за зямлю, за павялічэньне свайго землякарыстаньня.

З кожным годам барацьба супроць панства рабілася ўсё вастрэйшай, даводзіла да непасрэднага наступу і захопу панскай зямлі. Але, з другога боку, гэта выклікала карныя вайсковыя, паліцэйскія ды іншыя экспэдыцыі расійскай улады супраць сялянства. Сялянства паступова праходзіла школу барацьбы супраць буржуазіі, даходзіла да ўсьведамленьня, што расійскі царскі ўрад ёсьць урад буржуазіі, што селяніну дабра чакаць ад гэтага ўраду няма чаго і што толькі праз зьнішчэньне царскага ўраду, як абаронцы буржуазіі, магчыма забясьпечыць перамогу над панамі.

Гарады Беларусі расьлі вельмі слаба. Процант гарадзкога насельніцтва з 12,1 проц. у 1863 годзе зьнізіўся ў 1897 годзе да 11,5 проц., а перад вайной 1914 г. падняўся толькі да 13,4 проц.

Прамысловасьць у Беларусі пачала разьвівацца позна: ня было мясцовых капіталаў. Адыграла тут пэўную ролю і палітыка расійскай буржуазіі. У гэтыя часы польскі капітал і польская прамысловасьць пачалі расьці досыць хутка. Польская прамысловасьць зьявілася конкурэнтам расійскай прамысловасьці. Барацьба між польскім і расійскім капіталам выявілася на Беларусі ў тым, што яна затрымала і

фактычна перашкаджала будаваньню прамысловых прадпрыемстваў у Беларусі. Толькі ў Горадзеншчыну пасьля паўстаньня 1831 году ў сувязі з павышэньнем мытных падаткаў прабраўся польска-нямецкі капітал.

Зразумела, што лік рабочых у Беларусі быў нязначны і знаходзіўся ён у асабліва цяжкіх умовах жыцьця. Слабасьць гаспадарчага жыцьця гарадоў і мястэчак выкідала на рынак працы значныя масы народу, вёска з свайго боку таксама давала вельмі танную сілу. Усё гэта выклікала надзвычайную конкурэнцыю сярод прапанаваўшых сваю працу і давала магчымасьць іх страшэнна эксплёатаваць. Да гэтага далучалася і тое, што ў шэрагі рабочых уносілася атрута нацыянальнага і рэлігійна фанатызму, што яшчэ больш іх аслабляла і ў яшчэ большай меры аддавала іх у рукі капіталістых.

Але клясавая самасьвядомасьць вельмі рана пачала ўмацсўвацца сярод працоўных Беларусі. На барацьбу за палепшаньне свайго стану, на барацьбу за зьмену ўсяго соцыяльнага ўкладу і, у першую чаргу, за зьнішчэньне царызму пачалі заклікаць політычныя рабочыя організацыі ў Беларусі, якія думкай аб інтэрнацыянальным аб'яднаньні ўсіх рабочых адказвалі на імкненьні буржуазіі выкарыстаць дзеля сваёй выгады рабочых, уцягнуўшы іх у нацыяналістычную барацьбу.

Значнае месца ў Беларусі займала рамесьніцкая прамысловасьць. Усіх рамесьнікаў у Беларусі налічвалася ў 1913 годзе каля 200 тысяч чалавек. Роля рамесьніцка-саматужнае прамысловасьці ў агульным вырабе продукцыі вельмі значная. Так, у 1913 годзе рамесьніцкая прамысловасьць дала 70,1 проц. усяго вырабу, тымчасам, як ў Эўропэйскай Расіі яна займае толькі 23,8 проц.

Рамесьніцкая прамысловасьць складалася з беднаты, якой вельмі цяжка было забясьпечыць сабе кавалак хлеба. У большасьці сваёй рамесьнікі—гэта бяспраўныя яўрэі, для якіх рамесьніцтва зьяўлялася адзіным выйсьцем і паратункам ад галоднай сьмерці. Ня дзіва, што політычныя рэволюцыйныя рабочыя партыі Беларусі знаходзілі сярод рамесьнікаў добры грунт для сваёй працы па організацыі сіл для наступу на царызм.

Каб ахарактарызаваць агульны экономічны стан Беларусі перад вайной, а разам з тым сказаць і аб матар'яльным стане насельніцтва, падамо лічбы аб народным прыбытку Беларусі.

Малады беларускі вучаны Г. Гарэцкі дае гэткія лічбы народнага прыбытку на 1 чалавека ў рублёх.

| КРАІНЫ | 1900 | 1913 | + % |
|---|---|---|---|
| Аўстралія . . . . . | 374 | — | — |
| Злуч. Штаты . . . . | 346 | — | — |
| Злуч. Брытанскае Каралеўства . . . | 273 | 463 | + 70 |
| Францыя . . . . . | 233 | 355 | + 52 |
| Нямеччына . . . . | 184 | 292 | + 59 |
| Аўстрыя . . . . . | 127 | 287 | + 80 |
| Італія . . . . . . | 104 | 230 | +109 |
| Балканскія дзяржавы . | 101 | — | — |
| Эўроп. Расія . . . . | 62 | 101 | + 51 |
| Беларусь . . . . . | 54 | 83 | + 55 |

Г. Гарэцкі кажа: «Прыбытак беларускага насельніцтва зусім мізэрны ў параўнаньні з прыбыткам жыхароў Амэрыкі ды Заходняй Эўропы, і з часам адносна іх ён робіцца яшчэ больш мізарнейшым, бо ўзрост яго ніжэйшы, чым у замежных народаў».

Культурны стан Беларусі таксама быў вельмі цяжкі. На 1.000 чал. насельніцтва ў 1914 годзе пісьменных прыпадала: па Эўропэйскай Расіі—434, на Паўночным Каўказе—356, на Украіне—416 і на Беларусі толькі—327. Пісьменных-жа ў сельскіх мясцовасьцях на 1.000 душ насельніцтва налічалася 276 разам з вучнямі. Гэта ў той час, як у некаторых Заходня-Эўропэйскіх дзяржавах няпісьменных ужо няма або ёсьць вельмі мала.

На фоне экономічнага і культурнага заняпаду ды нацыяналістычнага змаганьня польскай, расійскай, яўрэйскай буржуазіі адна з другой і ўсіх іх разам супроць працоўных мас рабочых, рамесьнікаў і сялян Беларусі—панавала адміністрацыйнае, чыноўніцкае свавольства расійскага царскага ўраду.

Як відаць ужо з вышэйсказанага, на Беларусі меў ход толькі рускі, толькі праваслаўны. Беларус, паляк, яўрэй, наогул ня-рускі, а тым больш не-праваслаўны ня мог атрымаць нават невялікай пасады. Калі-ж ішла справа аб вышэйшай пасадзе, дык і праваслаўны, але ня-рускі працаваць на Беларусі ня мог.

Усім вядома, што нават на пасаду архірэя ў Беларусі прызначалі *толькі* рускіх. Калі-ж беларус і канчаў духоўную акадэмію, дык яму трэба было служыць раней пэўны лік год у Расіі, зарэкомэндаваць сябе з «ісьціна»-рускага боку і потым ужо можна было клапаціцца аб пасадзе ў Беларусі. На ўсе больш-менш адказныя пасады садзілі хоць і дурняў, але людзей стойкіх і верных «расійскаму прастолу і веры праваслаўнай». Ня дзіва, што калі ў Беларусі быў недарод, голад, а ад гэтага і хваробы, дык адзін губарнатар пісаў: «беларускі селянін мае дрэнную прывычку есьці, заместа чыстага хлеба, усялякую мешаніну з мякіны, крапівы, бульбы і г. д. Ад гэтага селянін і хварэе». Далей гэты мудры кіраўнік прапанаваў папярэдзіць сялян, каб яны елі толькі чысты хлеб, якога, з прычыны недароду, ня было.

Мясцовы чалавек толькі ў тым выпадку дапускаўся да працы, калі ён даводзіў, што ён шчыра-рускі і што ён веры праваслаўнай. Уся сыстэма асьветы ў Беларусі была прыстасавана, каб рабіць з «тутэйшых»—рускіх людзей і каб, прапусьціўшы іх праз фільтр поліцэйска-царкоўнага догляду, дапускаць на некаторыя пасады: школы, дробнае чыноўніцтва і г. д. для працы на карысьць расійскаму прастолу.

Цікавіцца, як жыве насельніцтва Беларусі, што трэба, каб дапамагчы яму выйсьці з цяжкіх абставін жыцьця, каб, нарэшце, пачалавечаму падняць дух працоўнага народу ў яго цяжкой барацьбе за палепшаньне свайго матар'яльнага і культурнага стану, ня было каму з вышэйшых адміністратараў. Дый гэта і ня трэба было. Пецярбурскае начальства вельмі скрыва паглядзела-б на такога адміністратара, які адважыўся-б сказаць, што сучаснае кіраўніцтва на Беларусі не адпавядае ўмовам жыцьця, інтарэсам ды імкненьням насельніцтва Беларусі. Лепшым быў той з чыноўнікаў, хто лічбамі даводзіў, што ён ажыцьцяўляе «рускую» політыку. Кожны год рабіліся справаздачы, што каталікі, іудэі ды іншыя пераходзяць у праваслаўную веру, мова ўрадовых, грамадзянскіх, прыватных установ руская, зямлю давалі ў першую чаргу расійскаму чыноўніку або «ісьціна»-рускім элемэнтам з адстаўных салдат, засноўваліся саюзы рускіх людзей з

усялякіх адкідаў, каб падносіць вернападданьніцкія адрасы ды весьці барацьбу з крамолай і г. д.

Усё, што магло гэтаму перашкаджаць, нішчылася. Беларуская мова была абвешчана выдумкай, няіснуючай і карыстаньне ёю было забаронена. Друк новых кніжок пабеларуску быў забаронены, а старыя нішчыліся.

Мовы польская, яўрэйская ды іншыя хаця і лічыліся існаваўшымі, але проста забараняліся. «Я сабачай мовы не разумею»—адказаў адзін выдатны віленскі чыноўнік, калі да яго зьвярнуліся папольску з запытаньнем.

На шчасьце, трэба сказаць, што ўсё гэта было вельмі штучнае, не адпавядала патрэбам, сутнасьці і напрамку жыцьця, а таму плавала на поверху і асабліваго ўплыву на масы народу ня мела. Шырокія масы рабочых і сялян жылі самастойным жыцьцём і пад уціскам дзікага царскага самаўладзтва яшчэ хутчэй пачыналі выходзіць на шлях барацьбы за сваё экономічнае і політычнае вызваленьне.

Цікава, што нават земскія начальнікі ў гэтыя часы характарызуюць стан і настроі вёскі вельмі сумнымі фарбамі. Беднасьць, забітасьць, цемната народу, недахват зямельнага надзелу, адсутнасьць лесу, пашы. Панская эксплёатацыя пераходзіць ўсё магчымае, адносіны паноў да сялянства «дзікія». Адсюль агульнае нездаволеньне, варожасьць да заможных станаў. Вось што кажуць пра сябе сяляне, даючы наказ у першую Думу ад Віцебскай губ.: «Жыцьцё наша цяжкае... Калі пры такіх абставінах, як цяпер, працягнецца наша жыцьцё яшчэ 15-20 гадоў, дык мы будем паміраць з голаду. Ня кажучы ўжо пра багатых, нават у сярэдняга жыхара сабака ня будзе есьці таго, што павінны есьці мы». Сяляне Смаленскай губ. кажуць: «Зямлі няма, лесу няма, пасьвіць быдла няма дзе. Хлеба не хапае. Сяляне пападаюць у няволю. Селянін век працуе, а жыве ў брудзе, абадраны, няпісьменны і есьці няма чаго. Школ няма. Закон абмяжоўвае правы сялян, пажаліцца няма каму». Ня дзіва, што селянін пачаў дабівацца лепшай долі праз рэволюцыйную барацьбу. Асабліва шырокае разьвіцьцё сялянскага руху ў Беларусі было ў 1905-7 г. г.

Сялянскі рух ішоў па шляху зруйнаваньня панскіх двароў, зьнішчэньня панскага дабра, разьдзелу панскае зямлі. Гэты рух у большай сваёй частцы меў стыхійны, неорганізаваны характар. Але ўжо і ў той час былі спробы накіраваць сялянскі рух у адзінае рэчышча барацьбы супраць царызму.

«Організацыі РС-ДРП прымалі вялікі ўдзел у аграрным руху, маючы асобныя сялянскія організацыі» (Агурский. Очерки по истории КП(б)Б).

«Пры Віцебскай групе Паўночна-Зах. Камітэту яшчэ ў 1904 г. была сялянская с.-д. організацыя. У сакавіку 1905 году Полацкая організацыя выпусьціла гектографаваны лісток «К крестьянам», які заклікаў да барацьбы з царскім урадам за скончэньне вайны, скасаваньне выкупаў, зварот абрэзкаў, вызваленьне беднаты ад падаткаў ды інш.» (Мароховец).

«Менская група РС-ДРП на працягу ўсяго 1905 г. пасылала ў вёску агітатараў і пропагандыстых і праз местачковыя організацыі распаўсюджвала ў вёсцы літаратуру, організоўвала мітынгі...» (Е. Беленькі).

«Пры Віленскім Камітэце ў 1905 годзе таксама была створана організацыя для працы ў вёсцы. У студзені 1906 г. ў Вільні адбылася конфэрэнцыя, у якой прымалі ўдзел Віленская, Смаргоньская, Горадзенская, Ашмянская і Лідзкая групы РС-ДРП» і на якой была прынята асобная рэзолюцыя аб працы на вёсцы. (Агурский. Очерки по истории КП(б)Б).

Партыя бальшавікоў, такім чынам, ужо ў тыя часы ставіла пытаньне аб патрэбе злучыць рабочых і сялян у адзінай барацьбе супраць царызму.

Побач з гэтым, былі і такія організацыі, якія лічылі, што сялянская рэволюцыя можа ісьці зусім самастойным шляхам, дзеля чаго організавалі самастойныя сялянскія організацыі, чым рэволюцыйны рух сялянскі фактычна проціставілі руху рабочаму.

Асабліва яскрава гэта вызначалася ў чыннасьці партыі социялістых-рэволюцыянэраў і Беларускай Социялістычнай Грамады.

Беларуская Социялістычная Грамада, якая заснавалася пад уплывам Польскай Партыі Социялістычнай (ППС), імкнулася заняць на беларускай глебе тое месца, якое займала ППС у Польшчы. Гэта значыць, БСГ ставіла сваёй мэтай утварэньне нацыянальнай Беларускай дзяржавы, пасьля чаго лічыла магчымым вырашаць социяльныя пытаньні. Але змагацца за нацыянальную дзяржаву можна было абапёршыся на захаваўшых нацыянальныя асаблівасьці сялян. Каб выкарыстаць сялянства, трэба было мець пэўную сялянскую програму, і гэта програма БСГ была вельмі радыкальная.

Такім чынам, паставіўшы перад сабою мэту ўтварэньня Беларускае Дэмократычнае Дзяржавы, БСГ радыкальнымі

фразамі хацела прыцягнуць пад свае ўплывы ўсе нездаволеныя царызмам элементы, галоўным чынам, сялянства.

Вось чаму ў часы рэволюцыі 1905-6 году БСГрамада робіць крокі, каб організаваць сялянства. Дзеля гэтага склікаўся сялянскі зьезд Віленшчыны, быў організаваны «Мужычы саюз Меншчыны». Але праца БСГрамады наогул і імкненьне да організацыі асобных сялянскіх саюзаў значных уплываў на сялянства ня мелі.

Барацьба 1905-1907 году паказала беларускім сялянам, што толькі ў тым выпадку селянін дабіваўся свайго праз Думу, праз суды, праз непасрэдную барацьбу з панам, калі ён знаходзіў падтрыманьне з боку рабочага, з боку рэволюцыйных рабочых партый ды організацый. Рух сялянства гэтых гадоў мае значэньне таму, што ён, з аднаго боку, канчаткова паказаў селяніну, што без рашучых крокаў у барацьбе супраць буржуазіі выйсьця з цяжкога становішча ня будзе, і паставіў селяніна, як клясу, супраць буржуазіі, а з другога боку, паказаў, што барацьба сялянства сама па сабе, без організуючай сілы, без правадыра значнай карысьці ня дасьць.

Лік рабочых у пачатку разьвіцьця беларускай прамысловасьці быў нязначны, але рабочыя вызначаліся значным разьвіцьцём пачуцьця згоднасьці і былі досыць організаваныя. Рэволюцыйнасьць рабочых Беларусі нарастала як у залежнасьці ад цяжкога экономічнага стану іх, так і таму, што значная частка рабочых былі яўрэі. Яўрэй знаходзіўся ў бязвыхадным стане: работы ў Беларусі было мала, а выехаць за «черту оседлости» ён ня меў права. Вось з гэтых прычын рабочы рух у Беларусі пачаўся вельмі рана.

Першыя стачкі рабочых адбыліся яшчэ ў 80 гадох. Так, у 1874 годзе ў Ландварове баставаў цьвікова-драцяны завод, у 1877 годзе ткачы ў Беластоку з посьпехам вялі барацьбу.

Палова дзевяцьдзесятых гадоў адзначаецца значным уплывам забастовачнага руху. Забастоўкі былі ў Вільні, Менску, Віцебску, Горадні, Брэст-Літоўску, Гомлі і па ўсіх гарадох ды значным ліку мястэчак Беларусі. У 1892 годзе ў Вільні ўжо ўпяршыню сьвяткуецца 1-е мая.

Барацьба рабочых хутка набывае організаваныя формы. Ствараюцца партыйныя організацыі.

З 1893 г. ў Заходняй Беларусі працавала Соцыял-Дэмократычная Партыя Польшчы і Літвы, якая адразу стала на шлях рэволюцыйнага марксызму.

Блізка што ў гэтыя-ж гады пачала сваю працу Партыя Польскіх Соцыялістых, якая ставіла галоўнай мэтай адраджэньне Польскай дзяржавы ў гістарычных межах, каб праз гэта мець магчымасьць перайсьці да соцыяльнай перабудовы. ППС распаўсюджвала свае нацыяналістычныя ўплывы ня толькі сярод рабочых Польшчы, але і сярод рабочых Горадзеншчыны, Віленшчыны і Меншчыны.

У 1897 годзе ў Вільні на агульным зьездзе яўрэйскіх соцыял-дэмократычных організацый быў організаваны «Аб'яднаны Яўрэйскі Рабочы Саюз» (БУНД).

1-га сакавіка 1898 году ў Менску заснавана Расійская Соцыял-Дэмократычныя Партыя, ад якой вядзе свой пачатак Бальшавіцкая Партыя.

Абставіны жыцьця Беларусі з яе дробнай прамысловасьцю, шырокім разьвіцьцём рамесьніцкага і саматужнага промыслаў стварылі добрую глебу для ўмацаваньня мяшчанскіх і дробнабуржуазных настрояў ды імкненьняў. Таму ў Беларусі значныя ўплывы мелі політычныя партыі, якія адпавядалі гэтым настроям: БУНД, меншавіцкія партыі, народніцкія, нацыяналістычныя і г. д.

Царскі ўрад ўважліва сачыў за разьвіцьцём рэволюцыйнага руху і імкнуўся выкарыстаць усялякую магчымасьць, каб яго разьбіць, зьнішчыць. Яскравым прыкладам таго, як царскі ўрад хацеў выкарыстаць экономічныя і нацыянальныя асаблівасьці Беларусі для барацьбы з рэволюцыяй, можа зьяўляцца так званая «зубатаўшчына» і політыка царскага ўраду адносна сыёніцкіх організацый.

Кіраўнік маскоўскай ахранкі, Зубатаў так пісаў аб сваім пляне барацьбы супраць рэволюцыйных настрояў і барацьбы яўрэйскіх рабочых: «Трэба яўрэяў «огладить». Пасьля гэтага з іх можна шнуры віць. Дзякуючы іх аб'яднанасьці, маленькая да іх увага ўраз-жа перадаецца ва ўсе куты і пра гэта ведаюць усе. Распалеце натоўп (толпу) вашай увагай, маса пойдзе за вамі, а, дзякуючы іх аб'яднанасьці, рэволюцыянэраў яны самі вам выдадуць з галавой»... (Агурскі. Нарысы па гісторыі КП(б)Б.).

Зубатаў і Трэпаў дамагаліся, каб урад узяў у свае рукі клопаты аб некаторым палепшаньні стану рабочых і праз гэта, папершае, зрабіў выгляд перад рабочымі масамі, што ён

апякуецца аб рабочых, а падругое, адбіць рабочых ад політыкі. (Гл. падрабязна Агурскі: Нарысы па гісторыі КП(б)Б).

Прыхільнікі Зубатава ў Менску пачалі весьці шырокую працу, і ў 1901 г. ўтварылі «Незалежную яўрэйскую рабочую партыю». Зубатаўшчыне ўдалося было на пэўны час здэмаралізаваць рабочы рух у Менску. У Вільні «незалежнікам» усталявацца не ўдалося.

Канчаткова вочы на сутнасьць «зубатаўшчыны» адкрыў кішынёўскі пагром і загад аб забароне ўсіх легальных рабочых арганізацый.

Што да «сыёнізму», дык той самы Зубатаў пісаў аб яго ролі так: «Трэба сыёнізм падтрымаць і наогул сыграць на нацыяналістычных імкненьнях... Мае прыяцелі (незалежнікі) кінулі політыку і вянцом сваёй легальнай працы зрабілі нацыянальны ідэал. Ці ня выйгрыш гэта для нас?» (Агурскі).

Аднак рабочыя ў Беларусі былі настроены рэволюцыйна і, ня гледзячы на ўсе закіды царызму ды яго прыхільнікаў, адкідалі заклікі да згоды з буржуазіяй. Пасьля таго, як соцыялдэмократычная партыя падзялілася ў 1903 годзе на бальшавікоў і меншавікоў, на Беларусі пачалі ствараццa бальшавіцкія рэволюцыйныя арганізацыі.

Рабочая кляса Беларусі прайшла добрую політычную навуку. Усе моманты рэволюцыйных выбухаў адзначаюцца стойкай барацьбой рабочых. Ахвяры рабочай клясы замацавалі яе згоднасьць ды арганізаванасьць і забясьпечылі ёй перамогу ў барацьбе.

Бальшавіцкая партыя вяла рабочых па пэўнаму шляху. Ня гледзячы на тое, што лік сяброў бальшавікоў быў невялікі, ня гледзячы на тое, што большасьць свайго жыцьця яны праводзілі ў турмах і высылках, іх уплывы на рэволюцыйную барацьбу рабочых увесь час ня зьнікалі. Уплывы бальшавікоў былі такія вялікія, што калі іншыя партыі хацелі весьці рэволюцыйную працу сярод рабочых, дык яны павінны былі пераймаць програму, лёзунгі і тактыку бальшавікоў. Вельмі рана, як сказана вышэй, пачалося збліжэньне рабочага рэволюцыйнага руху з сялянскім. Першыя соцыял-дэмократычныя арганізацыі ўцягвалі ў свае шэрагі сялян, распаўсюджвалі па вёсках літаратуру, дапамагалі сялянам распрацоўваць патрабаваньні да ўраду, кіравалі барацьбой сялян з панамі ды адміністрацыяй. «Дэмократ» было вельмі знаёмае імя на вёсках Беларусі.

Рэволюцыя 1905 году яшчэ больш замацавала гэту сувязь сялянскага і рабочага руху. Калі, з аднаго боку, селянін пачаў імкнуцца да таго, каб атрымаць раду, дапамогу, кіраўніцтва ад

больш арганізаванага, больш сьвядомага рабочага, дык з другога боку, рабочы бачыў стыхійны ўзрост сялянскага руху, бачыў, як пад ударамі сялянства дрыжыць царскае самаўладзтва, бачыў у селяніне свайго хаўрусьніка, падарожніка, і таму імкнуўся дапамагчы сялянам у іхнай барацьбе, увесьці сялянскую барацьбу ў арганізаванае рэчышча, зьвязаць барацьбу сялян за свае інтарэсы з агульна-пролетарскай барацьбой за перабудову грамадзтва на новых соцыялістычных падставах.

Апошнія гады перад вайной адзначыліся ў Беларусі страшэнным разгромам усіх рэволюцыйных арганізацый. Але чым большы быў уціск царызму, тым большыя рэволюцыйныя сілы і настроі нарасталі сярод рабочых ды сялян Беларусі, тым з большым выбухам яны зьбіраліся прарвацца на барацьбу супраць царскага самаўладзтва.

---

III

# Кастрычнік на Беларусі.

Перад Лютаўскай рэволюцыяй 1917 году сярод усіх грамадзкіх колаў Расіі адчувалася вялікае незадаволеньне.

Дваранства і генэралітэт лічылі цара Мікалая II за няздольнага, няўдалага і марылі, каб на месца Мікалая II паставіць лепшага ды больш разумнага цара.

Буйная гандлёва-прамысловая буржуазія марыла, каб зьнішчыць усе перашкоды з боку царскага вайскова-бюрократычнага апарату, якія заміналі ёй свабодна разьвіваць гандаль і прамысловасьць, марыла, каб іграць пераважную ролю ў жыцьці новай Расіі незалежна ад таго—будзе гэта Расія царская конституцыйная монархія, ці буржуазна-дэмократычная рэспубліка.

Рабочыя лічылі момант вайны найлепшым для пачатку рэволюцыі, якая несла зьнішчэньне царызму, як першай і галоўнай сілы, абараняючай буржуазны лад.

Нарэшце, сялянства жадала канца вайны і таксама лічыла, што пасьля скончэньня вайны ўдасца прагнаць абшарнікаў ды забраць іхнюю зямлю.

Усе настроі ды імкненьні таго часу можна падзяліць на дзьве часткі: папершае, настроі ды імкненьні буржуазіі—абшарнікаў, дваранства, генэралітэту, прамыслоўцаў, банкіраў, папоў, якія імкнуліся ўмацаваць буржуазны лад, зрабіць яго лепшым, мацнейшым; падругое—настроі ды імкненьні рабочых і сялян, якія лічылі, што толькі рэволюцыя дасьць перамогу ў барацьбе з буржуазіяй за ажыцьцяўленьне сваіх спрадвечных жаданьняў.

Паміж гэтымі дзьвюма асноўнымі групамі было шмат міжклясавых груп, якія імкнуліся знайсьці сярэднюю позыцыю, каб памірыць буржуазію з працоўнымі, але якія фактычна былі на баку буржуазіі, бо яны не станавіліся на бок работніцка-сялянскіх мас.

Беларусь сустрэла Лютаўскую рэволюцыю ў страшэнным заняпадзе. Імпэрыялістычная вайна падзяліла Беларусь расійска-нямецкім фронтам на дзьве часткі. У Заходняй Беларусі гаспадарылі нямецкія окупанты, Усходняя Беларусь знаходзілася цалком у паласе фронту расійскай арміі.

Насельніцтва Беларусі перажывала часы страшэннага прыгнечаньня, зьдзеку і агульнага заняпаду.

Гарады, вёскі, мястэчкі Беларусі былі ў значнай меры зруйнованы. Сялян царызм высяляў у Расію, каб паказаць усяму сьвету, што народ выяжджае з Беларусі, бо ня хоча застацца з нямецкімі окупантамі; яўрэяў высялялі, бо царскі ўрад, каб скінуць віну за свае няўдачы з сваіх плеч, распаўсюджваў думкі, што яўрэі прадаюць немцам расійскую армію, шпіёняць, перавозяць праз фронт золата і г. д.

Усё гэта, разам узятае, давяло, кажа т. Кнорын у сваёй кніжцы «1917 год в Белоруссии и на Западном фронте», папершае, да поўнага падрыву сілы рабочае клясы ў краіне, да распыленьня яго асноўных і найбольш бояздольных кадраў і да фактычнай ліквідацыі ўсіх рэволюцыйных і соцыялістычных рабочых організацый краіны; падругое—да распыленьня сялянства і нацыяналістычнай сялянскай інтэлігенцыі, якая ішла на чале беларускага нацыянальнага руху, і да падрыву і дэзорганізацыі самога беларускага нацыянальнага руху ды яго найбольш яскравых і левых «праяў».

У першыя-ж дні пасьля Лютаўскай рэволюцыі ў Беларусі пачалася барацьба за тое, па якому шляху павінна пайсьці далейшае разьвіцьцё рэволюцыі: соцыялістычнаму або буржуазна-дэмократычнаму.

Невялічкая групка бальшавікоў з т. т. Мясьніковым, Кнорыным ды іншымі на чале, якая апынулася ў шэрагах арміі на Заходнім фронце, узяла на сябе ініцыятыву па барацьбе за соцыялістычную рэволюцыю.

Паступова бальшавіцкая організацыя пачала расьці: у яе шэрагі пачалі ўваходзіць салдаты фронту, а таксама рэволюцыйныя беларускія рабочыя ды сяляне. 4-га сакавіка 1917 г. організаваўся Менскі Савет рабочых і салдацкіх дэпутатаў, які ўзяў на сябе цяжар зьбіраньня сіл, падрыхтоўкі да барацьбы за захапленьне ўлады ў рукі рабочых і сялян. 15-га сакавіка організаваўся Савет рабочых і салдацкіх дэпутатаў ў Віцебску. У красавіку быў скліканы Зьезд сялянскіх дэпутатаў.

20-га красавіка фронтавы Зьезд салдацкіх дэпутатаў вылучыў выканаўчы камітэт Заходняга фронту для організацыі,

контролю і кіраваньня жыцьцём Заходняга фронту. Нарэшце, 19, 20 і 21 лістапада адбыўся Зьезд рабочых і сялянскіх дэпутатаў з усіх беларускіх губэрань. Ён паставіў перад дэлегатамі вострыя пытаньні аб вайне, аб уладзе, аб зямлі. Па ўсіх гэтых пытаньнях Зьезд вынес пэўныя пастановы: вайну скончыць, уладу ўзяць у рукі рабочых ды сялян, зямлю перадаць сялянству. Так паступова ішла организацыйная праца бальшавікоў. Бальшавікі зьвярнулі сваю ўвагу, галоўным чынам, на салдат, рабочых, сялян, самі сталі на чале і буйнымі крокамі вялі да захапленьня ўлады працоўнымі.

У гэты час буржуазныя элемэнты Беларусі стараліся стрымаць няўхільнае імкненьне рабочых, сялян і салдат да соцыялістычнай рэволюцыі.

Організацыя супрацьрэволюцыйных сіл ішла каля двух цэнтраў: першы—адбіваў настроі ды імкненьні расійскай і зрусыфікаванай буржуазіі і меў сваімі абаронцамі дробна-буржуазныя, мяшчанскія, інтэлігенцкія і соцыял-згодніцкія зрусыфікаваныя элемэнты: ён хацеў захаваць Беларусь, як «Северо-Западный край» новай дэмократычнай Расіі; ён імкнуўся пры дапамозе каманднага складу Заходняга фронту наладзіць у Беларусі «дэмократычны» парадак, каб забясьпечыць працяг вайны да «пабеднага канца», адлажыўшы вырашэньне ўсіх пытаньняў аб уладзе, зямлі і г. д. да скліканьня Ўсерасійскага Ўстаноўчага Збору.

Да прыхільнікаў гэтага напрамку трэба аднесьці гарадзкія думы, земствы, партыі расійскіх соцыялістых-рэволюцыянэраў, расійскіх соцыял-дэмократаў (меншавікоў), БУНД і г. д.

Але нават ужо ў першыя дні рэволюцыі гэта быў штаб бяз арміі. Камісары Часовага Ўраду Керанскага, «дэмократычныя» думы, земствы жаднага уплыву на масы ня мелі. Каму трэба было зрабіць справу, той ішоў у Савет. Таксама і соцыял-згодніцкія партыі трацілі сваіх сяброў, заставаліся пры камітэтах без сяброў, бо рэволюцыйны элемэнт з гэтых партый ішоў да бальшавікоў.

Другім асяродкам, дзе зьбіраліся сілы супраць пролетарскай рэволюцыі, зьявіўся беларускі нацыянальны цэнтр.

У першыя дні пасьля Лютаўскай рэволюцыі беларускія нацыяналістычныя элемэнты ня мелі пэўнай пляцформы. Сабраўшыяся ў сакавіку 1917 г., беларускія організацыі абралі Беларускі Нацыянальны Камітэт, у склад якога ўваходзэў абшарнік Скірмунт, ксёндз Годлеўскі, земляўласьнік Кастравіцкі, інтэлігенты, чыноўнікі, настаўнікі.

Беларускі Нацыянальны Камітэт у сваёй пастанове прызнаў: «найлепшай формай дзяржаўнага ладу Расіі фэдэрацыйна-дэмократычную рэспубліку», заявіў, што «зямельная справа будзе разьвязана на Ўстаноўчым Расійскім Сойме»... патрабаваў «далучэньня ўсёй Беларусі да дэмократычнай Расіі»... і дабіваўся «нацыяналізацыі школы»...

Гэта была звычайна буржуазна-дэмократычная пляцформа з некаторым нацыянальным адценьнем.

Організацыя беларускага нацыянальнага цэнтру сама па сабе пашкодзіць рэволюцыі не магла, бо як склад Камітэту, так і яго пляцформа адразу гаварылі рабочым і сялянам Беларусі аб яго клясавай сутнасьці. Але небясьпекай было:

1) Тое, што Камітэт адразу заявіў, што ён абараняе агульна-беларускія інтарэсы і зьяўляецца прадстаўніком усяго Беларускага народу, ад імя каторага ён усюль пачаў рабіць заявы. Скірмунт, напр., падаваў ураду Керанскага дэклярацыю ад імя Беларускага народу.

2) Тое, што існаваўшыя ў Беларусі агульна-расійскія буржуазна-дэмократычныя організацыі вялі і пасьля рэволюцыі старую ісьціна-рускую політыку ў Беларусі, лічылі Беларусь за «Северо-Западный край». Вось гэта давала ў рукі Беларускага Камітэту козыр, бо ён мог паказваць на нібы рэволюцыйныя расійскія элемэнты і гаварыць, што пакуль беларус, як беларус, ня возьмецца сам за справу свайго жыцьця, дык яму ад расійцаў чакаць няма чаго.

3) Тое, што сярод комуністых, якія працавалі ў Беларусі ў першыя часы рэволюцыі, было вельмі мала мясцовых элемэнтаў, і гэта давала магчымасьць нацыяналістычным элемэнтам абараняць сваю нацыянал-дэмократычную пляцформу, кажучы, што за бальшавікамі ісьці няма чаго, бо яны чужынцы на Беларусі, ня ведаюць жыцьця, патрэб і г. д. беларускага насельніцтва і таму ня могуць правільна кіраваць далейшым разьвіцьцём жыцьця Беларусі.

Значнага ўплыву Беларускі Нацыянальны Камітэт ня меў. Але ён рушыў зьбіраньне нацыяналістычных сіл. Па ўсёй Беларусі, а таксама ў Расіі, сярод беларускіх уцекачоў пачалі організоўвацца гурткі, партыі ды організацыі, якія так ці інакш хацелі прыняць удзел у політычным жыцьці Беларусі.

Аднаўленьне старых дэмократычных беларускіх організацый выклікала пэўную дэмократызацыю беларускага цэнтру. Рада беларускіх організацый, абраная ўлетку 1917 году, выключыла з свайго складу абшарнікаў, ксяндзоў і складалася пераважна з сяброў Беларускай Социялістычнай Грамады.

Дэмократызаваная Рада беларускіх організацый зрабілася больш небясьпечнай для пролетарскай рэволюцыі. Рада імкнулася сваю пляцформу будаваць так, каб падладзіцца пад рэволюцыйныя настроі сялянства. Самы склад яе быў больш дэмократычны. Хаця па сутнасьці Рада ня ішла далей нацыянал-дэмократычнае програмы, але з надворнага боку яна мела рэволюцыйны выгляд. Гэта дало ёй магчымасьць павесьці працу па заваяваньні інтэлігенцыі і сялянства. Работа пайшла, у першую чаргу, сярод вайсковых беларусаў. Адбыліся Зьезды Заходняга, Паўднёвага, Паўночна-Заходняга, Румынскага фронту. На гэтых зьездах Рада і Беларуская Социялістычная Грамада адыгрывалі першую ролю. Абіраліся Вайсковыя Рады. Рэзолюцыі гэтых Зьездаў складваліся так, каб, з аднаго боку, задаволіць рэволюцыйныя настроі ды імкненьні салдат (сялян), а з другога боку, каб правесьці пункты аб падтрыманьні і ўзмацненьні політычнага стану Рады.

Такім чынам, побач з паступовым зьбіраньне сіл, каля бальшавікоў і Саветаў Беларусі дзеля захапленьня ўлады беларускімі рабочымі і сялянамі ішла зусім самастойна праца беларускіх нацыяналістычных організацый, якія імкнуліся зьбіраць навакол сябе сілы пераважна сялянства і сялянскае інтэлігенцыі, каб накіраваць іх супраць Саветаў, супраць Социялістычнае рэволюцыі.

Галоўным пунктам барацьбы між рэволюцыйнымі і супрацьрэволюцыйнымі сіламі Беларусі за далейшыя шляхі рэволюцыі было Н а ц ы я н а л ь н а е п ы т а н ь н е.

Замест усіх пытаньняў социяльнай рэволюцыі, у тым ліку і нацыянальнага, як гэта робіць Компартыя, на першы плян высоўвалася нацыянальнае пытаньне, як зусім самастойнае, як тое пытаньне, вырашэньне якога павінна стаяць наперадзе вырашэньня ўсіх іншых пытаньняў рэволюцыі. Такая тактыка была тым больш лёгкай, што социяльныя і нацыянальныя ўзаемаадносіны ў Беларусі былі надзвычайна заблытаныя.

Нацыянальны склад жыхараў Сав. Беларусі ў проц. такі:

В я с к о в а г а н а с е л ь н і ц т в а:

Беларусаў—75,90, рускіх—16,20, палякаў—2,05, яўрэяў—5,24, інш.—0,61.

Г а р а д з к о г а:

Беларусаў—40,74, рускіх—10,65, палякаў—2,46, яўрэяў—44,14, інш.—2,01.

У с я г о:

Беларусаў—70,79, рускіх—15,41, палякаў—2,10, яўрэяў—10,88, інш.—0,32.

Цяжка высьветліць сучасны нацыянальны склад Заходняй Беларусі, бо польская ўрадовая статыстыка імкнецца да таго, каб давесьці, што на Крэсах ёсьць польская большасьць. Але думаецца, што мы зробім невялікую памылку, калі пасьля параўнаньня ўсіх лічбаў скажам, што нацыянальны склад Заходняй Беларусі такі:

Беларусаў—64 проц., палякаў—16 проц., яўрэяў—12 проц., іншых—8, беларускае насельніцтва зьяўляецца пераважна сялянскім, а ў гарадох большасьць складаюць яўрэі.

Ня гледзячы на гэта, у царскія часы пануючае становішча ў Беларусі займалі расійцы ды палякі, першыя—ў якасьці прадстаўнікоў адміністрацыі, а другія, як найбольш буйныя зямляўласьнікі.

З усяго гэтага відаць, што нацыянальнае пытаньне ў Беларусі ўвесь час стаяла вельмі востра. Соцыяльныя супярэчнасьці паміж клясамі пераблытваліся з нацыянальнымі—і наадварот. Важнейшая перашкода па аб'яднаньні рабочых і сялян для рэволюцыйнай барацьбы ўвесь час была з боку вельмі заблытаных нацыянальных узаемаадносін.

Зразумелая рэч, што супрацьрэволюцыйныя цэнтры імкнуліся выкарыстаць нацыянальнае пытаньне ў сваёй барацьбе за тое, каб прыпыніць пераход Лютаўскай рэволюцыі, рэволюцыі буржуазна-дэмократычнай у рэволюцыю Кастрычнікавую—пролетарскую, соцыялістычную.

Кастрычнікавая рэволюцыя прысьпешыла канчатковае аформленьне палітычных пляцформ. Супраць Комуністычнае партыі і Саветаў рашуча выступілі, паклаўшы ў аснову сваёй барацьбы нацыянальнае пытаньне, два цэнтры: «Беларускі Абласны Камітэт», як ідэёвы кіраўнік і організацыйна-палітычны цэнтр расійскай і зрусыфікаванай буржуазіі, дробнабуржуазных, мяшчанскіх, інтэлігенцкіх і соцыял-згодніцкіх зрусыфікаваных элемэнтаў, з дамаганьнем Краявой (абласной) аўтономіі, і «Беларуская Рада», «Беларускі Нацыянальны Камітэт» ды іншыя блізкія да іх організацыі, як ідэёвыя кіраўнікі і організацыйна-палітычныя цэнтры нацыянальных дэмократычных беларускіх элемэнтаў з праграмай «дэмократычнай дзяржаўнай незалежнасьці Беларусі».

Беларускі Абласны Камітэт організаваўся ў 1917 годзе з сяброў 1-га Ўсерасійскага Зьезду сялянскіх дэпутатаў у Ленінградзе. Ён стаяў на грунце дэмократычнага, гэта значыць бур-

жуазнага парадку. Ён ні ў якім разе не дапускаў аддзяленьня Беларусі ад дэмократычнай-жа, гэта значыць буржуазнай Расіі. Ён ня верыў у магчымасьць будаваньня соцыялізму.

Ён пакідаў бяз зьмены соцыяльныя, маемасныя ўзаемаадносіны. Калі «Камітэт» і гаварыў аб перадачы бяз выкупу зямлі сялянам і, такім чынам, нібы станавіўся на рэволюцыйны грунт, дык гэта быў толькі агітацыйны сродак: канчатковае вырашэньня зямельнага пытаньня, як і ўсіх іншых пытаньняў, «Камітэт» адкладаў да Ўсерасійскага Ўстаноўчага Збору, які павінен быў быць абраны шляхам агульнага, роўнага, тайнага і простага галасаваньня, значыць з удзелам буржуазіі. Камітэт нічога не гаварыў аб прамыслоўцах, банкірах, іх ён не чапаў. Але ў той-жа час ён ня мог не зачапіць прамыслоўцаў, банкіраў і г. д., раздаўшы бяз выкупу зямлю сялянам, бо ўся абшарніцкая зямля была ў закладзе ў банках, лясы запраданы прамыслоўцам, воды адданы ў арэнду і г. д., і г. д. Неяк ня зыходзяцца канцы з канцамі.

Агульна-нацыянальнай справай «Камітэт» лічыў «спасеньне» Беларусі ад Кастрычнікавай рэволюцыі. Буржуазна-дэмократычныя сілы, настроі ды імкненьні якіх адбіваў «Камітэт», бачылі, што буржуазная Расія развалілася, і таму, прыкрыўшыся агульна-нацыянальнай справай, яны паставілі пытаньне аб тым, каб самім заняць пануючы стан у Беларусі замест страціўшай панаваньне расійскай буржуазіі.

«Цяпер надышоў момант», кажа «Камітэт» у сваёй дэкларацыі: «калі Беларусь, як цэлая вобласьць у асобе свайго працоўнага сялянства, павінна сказаць сваё слова. Але не дзеля таго, каб зрабіць Расіі новы боль ці ўнесьці ў яе разруху новую палку, а дзеля таго, каб сваёй організаванай сілай памагчы сабе самой і ў той-жа час падтрымаць сілы многапакутнай Расіі».

«Мы зварачаемся», кажа далей дэкларацыя: «да працоўнага беларускага сялянства, да земскіх і гарадзкіх самаўрадаў Беларусі, коопэратываў, да саветаў сялянскіх дэпутатаў, да ўсіх беларусаў-вайсковых, да беларускай сялянскай інтэлігенцыі ў асобе настаўнікаў і да ўсяго насельніцтва нашае бацькаўшчыны»...

Не да рэволюцыі клікаў «Камітэт», а супраць рэволюцыі.

«Камітэт» стварыўся не дзеля дапамогі расійскім рабочым ды сялянам у іхняй барацьбе супраць буржуазіі, але дзеля таго,

каб пайсьці супраць Кастрычнікавай рэволюцыі на дапамогу многапакутнай Расіі—Расіі паноў, капіталістых, абшарнікаў. Таму і сілы, на якія хацеў абаперціся «Камітэт», былі варожыя Кастрычнікавай рэволюцыі. «Камітэт» хацеў шырокім каркам сялянства закрыць свой сапраўдны буржуазны твар, ён высоўваў наперад сялянства, сялянскія саветы, сялянскую інтэлігенцыю, і гэтым прыкрываў контр-рэволюцыйныя земствы, гарадзкія самаўрады і ўсё насельніцтва Беларусі—гэта значыць і буржуазію.

«Камітэт» заклікаў да аб'яднаньня «ўсіх сіл» для барацьбы за *«автономно-свободную Белоруссию, как часть Российско-Федеративной Республики»*, ён высоўваў барацьбу за «аўтономію» замест барацьбы за соцыяльныя інтарэсы рабочых і сялян, ён хацеў нацыянальнае пытаньне выкарыстаць для барацьбы супраць рэволюцыі.

«Беларускі Нацыянальны Камітэт» быў абраны 25 сакавіка 1917 году на зьезьдзе беларускіх організацый у Менску. Ён выкінуў лёзунг нацыянальна-культурнай аўтономіі. «Асноўны, прынцыповы грэх гэтай програмы», кажа тав. У. І. Ленін: «той, што яна імкнецца правесьці ў жыцьцё самы ўдасканалены і самы абсолютны, да канца давведзены, нацыяналізм. Сэнс гэтае програмы: кожны грамадзянін запісваецца ў якую-колечы нацыю і кожная нацыя складае юрыдычнае цэлае з правам прымусовагаападаткаваньня сваіх сяброў, з нацыянальнымі парлямантамі (соймамі), з нацыянальнымі статс-сакратарамі (міністрамі)».

Беларускія нацыянал-дэмократычныя сілы шукалі ў той час магчымасьці забясьпечыць сабе панаваньне ў Беларусі пакуль што ў межах «дэмократычнай» Расіі. Абмяжоўваючы свае патрабаваньні дамаганьнем нацыянальна-культурнай аўтономіі, яны імкнуліся стварыць агульна-нацыянальны беларускі фронт, замацаваць праз гэта сваю кіруючую ролю, каб потым ужо больш выразна паставіць пытаньне аб «сувэрэнных правах» беларускага народу, гэта значыць аб правох нацыянальнай буржуазіі на панаваньне над народам. І мы бачым, як нацыяналістычная буржуазія і нацыянал-дэмократычная інтэлігенцыя Беларусі ў 1918 г. абвясьці Беларускую Народную Рэспубліку і клікалі да стварэньня адзінага нацыянальнага фронту, або да стварэньня «аднэй вялікай партыі з усіх беларусаў» для барацьбы за «дэмократычную незалежнасьць» Беларусі. Галоўнай мэтай, такім чынам, ставілася стварэньне «сваёй незалежнай, на-

цыянальнай дзяржавы»: усе іншыя пытаньні павінны былі служыць гэтай галоўнай мэце. Аб'яднаньне ўсіх беларускіх сіл, незалежна ад іх соцыяльнай, клясавай прыналежнасьці ды імкненьняў да барацьбы за незалежнасьць,—вось што праводзілася ў шырокія масы рабочых і сялян. Соцыяльнаму руху проціставіўся рух нацыянальны. Гаварылася пра тое, што ўсе соцыяльныя пытаньні Беларусі здолеюць быць правільна і без перашкоды вырашаны ў адпаведнасьці з патрэбамі ўсяго насельніцтва толькі ў тым выпадку, калі Беларусь організуецца, як самастойная дзяржаўная адзінка. Беларускія буржуазна-дэмократычныя элемэнты імкнуліся пры дапамозе рабочых і сялян (бо супраць расійскага і польскага імпэрыялізму яны хацелі організаваць беларускія палкі з рабочых ды сялян) замяніць сабою расійскую буржуазію, хацелі сэнс нацыянальнага пытаньня, права нацый на самавызначэньне абмежаваць сваім правам, заняць пануючае месца ў Беларускай «сваёй» нацыянальнай дзяржаве.

Такім чынам, дамаганьне і аўтономіі, і незалежнасьці мае імкненьне аддзяліць нацыянальны рух ад соцыяльнага і забясьпечыць рукамі ўцягваемых у нацыянальную барацьбу рабочых і сялян камандуючае становішча нацыянальнай або краёвай буйной і дробнай буржуазіі. Розьніца толькі ў тым, што імкненьне да аўтономіі закрывае сабой барацьбу краёвай буржуазіі за параўнаньне праў у мясцовых справах краёвай буржуазіі з агульна-імпэрскай, а імкненьне да незалежнасьці хавае барацьбу нацыянальнай буржуазіі за пануючае становішча яе—нацыянальнай буржуазіі—у мясцовых «нацыянальных» справах.

Агульным для разуменьня нацыянальнага пытаньня з аднаго і другога боку зьяўляецца імкненьня аддзяліць, адмежаваць і закрыць агульна-нацыянальным фронтам соцыяльныя пытаньні, соцыялістычную рэволюцыю, перавесьці на шлях буржуазна-дэмократычнай.

Такое разуменьне нацыянальнага пытаньня адбівае клясавыя інтарэсы, настроі ды імкненьні буржуазных, капіталістычных элемэнтаў гораду і вёскі, і знаходзіцца ў супярэчнасьці з тымі сіламі, якія забясьпечылі перамогу Лютаўскай рэволюцыі і пераход буржуазна-дэмократычнай рэволюцыі да соцыялістычнай.

Галоўныя сілы Лютаўскай рэволюцыі—рабочыя і сяляне, і таму зразумела, што буржуазія, высоўваючы наперад нацыянальнае пытаньне, манілася гэтым закрыць тыя галоўныя пы-

таньні, у імя якіх рабочыя ды сяляне прымалі ўдзел у рэвалюцыі і без вырашэньня якіх немагчыма вырашэньне нацыянальнага пытаньня.

Лік рабочых у Беларусі нязначны. Па сваім нацыянальным складзе гэта—беларусы, яўрэі, палякі, латышы, рускія ды інш. Для кожнай з гэтых груп рабочых агульны экономічны ўціск ды эксплёатацыя з боку капіталістых пагаршаўся яшчэ і нацыянальнай бяспраўнасьцю. *Значыць, для ўсіх рабочых Беларусі востра стаяла і нацыянальнае пытаньне як частка агульных пытаньняў соцыяльнай клясавай барацьбы.* Соцыял-згодніцкія партыі, якія карысталіся некаторым уплывам сярод рабочых, самі ў большасьці стаялі на нацыяналістычным грунце і клікалі за сабой рабочых. Сярод гэтых партый асабліва значным уплывам карыстаўся «Бунд». Рабочаму даводзілася самому клясавым пачуцьцём шукаць і знаходзіць правільную дарогу. Гэту правільную дарогу паказвае ўвесь час рабочаму яго правадыр—Комуністычная партыя, якая кажа, што ня супольныя з буржуазіяй, нацыянальныя, але супольныя для рабочых усіх нацыянальнасьцяй клясавыя інтарэсы, барацьба за гэтыя клясавыя інтарэсы здолеюць зьнішчыць і экономічнае, і нацыянальнае прыгнечаньне.

Другая сіла рэвалюцыі—гэта сялянства. Звыш 75 проц. сялянства Беларусі—беларусы.

Да рэвалюцыі сярод беларускага сялянства вызначаўся досыць значны падзел на багатых, сярэдніх і бедных (дыфэрэнцыяцыя). Ня гледзячы на гэта, перад рэвалюцыяй усё беларускае сялянства мела шэраг супольных інтарэсаў, якія супярэчылі інтарэсам абшарнікаў, паноў ды царскай адміністрацыі.

Усе сяляне хацелі прыдбаць сабе больш зямлі за лік абшарніцкіх маёнткаў.

Усе сяляне хацелі скасаваць сэрвітут на сваю карысьць.

Усе сяляне хацелі паменшыць або зусім скасаваць падаткі, арэнду.

Усе сяляне імкнуліся зьнішчыць сьляды прыгону, якія ўвесь час яшчэ былі знаць, і абмяжоўвалі правы сялянства ў грамадзкім і політычным жыцьці.

Нарэшце, усе сяляне адчувалі страшэнныя зьдзекі над сваёй мовай, сваёй культурай, сваім жыцьцём. Значыць, перад рэвалюцыяй усё сялянства мела супольныя інтарэсы ў барацьбе супраць буржуазіі, супраць царызму.

Барацьба гэта мела соцыяльную падставу, але адначасна яна была і нацыянальнай барацьбой, бо была барацьбой беларускага сялянства супраць польскага, расійскага ды іншага абшарніка, урадоўца, капіталістага.

Польскае, літоўскае, латыскае сялянства Беларусі знаходзілася ў аднолькавых умовах з беларускім сялянствам, і таму займала аднолькавае з ім становішча ў рэволюцыі.

Расійскае сялянства Беларусі, хаця яго царызм і клікаў на барацьбу за Расію, супраць «бунтаўшчыкоў» не маглоісьці з царызмам, бо яно знаходзілася ў такім-жа самым цяжкім матар'яльным стане, як і ўсё іншае сялянства.

Папярэдні пэрыод рэволюцыйнай барацьбы паставіў сялянства ў барацьбе супраць буржуазіі побач з рабочым, рабочы стаў організатарам і кіраўніком сялянскага руху.

Вось чаму Лютаўская рэволюцыя была рэволюцыяй рабочых і сялянства супраць царызму і супраць абшарнікаў.

У Лютаўскую рэволюцыю сэнс нацыянальнага пытаньня ў Беларусі ў першую чаргу быў у тым, каб зьнішчыць экономічнае, політычнае і нацыянальнае прыгнечаньне рабочага, каб вызваліць селяніна ад абшарніка, каб зрабіць селяніна «чалавекам», бо сяляне захацелі ўжо «людзьмі звацца».

Але правільна кажа тав. Сталін: «Нацыянальнае пытаньне ня ёсьць нешта такое, што само праз сябе вызначаецца і само для сябе існуе ў формах, раз назаўсёды даных. Зьяўляючыся толькі часткай агульнага пытаньня аб перамене таго ладу, які існуе ў даны момант, нацыянальнае пытаньне цалкам адзначаецца ўмовамі соцыяльных адносін, характарам улады ў краіне і *наогул усім поступам грамадзкага разьвіцьця»*.

Таму і сэнс нацыянальнага пытаньня ў Беларусі паступова, з разьвіцьцём рэволюцыі, пачаў зьмяняцца, як пачалі зьмяняцца адносіны да рэволюцыі розных соцыяльных груп.

Аб удзеле розных сіл у рэволюцыі тав. У. І. Ленін кажа так: «...Пролетарыят вядзе барацьбу і будзе весьці барацьбу...

... Р а н е й разам з «усім» сялянствам супраць монархіі, супраць абшарнікаў, супраць сярэднявякоўя (і пастолькі рэволюцыя застаецца буржуазнай, буржуазна-дэмократычнай). П о т ы м разам з бяднейшым сялянствам, разам з напоўпролетарыятам, разам з усімі эксплёатаванымі с у п р а ц ь к а п і т а л і з м у, у тым ліку супраць вясковых багатыроў, кулакоў, спэкулянтаў (і пастолькі рэволюцыя робіцца с о ц ы я л і с т ы ч н а ю)».

Рэвалюцыя ў Беларусі, як і ва ўсёй былой Расіі, перарасла, перайшла ад буржуазна-дэмакратычнай да соцыялістычнай. Сілы соцыялістычнай рэвалюцыі іншыя, як сілы буржуазна-дэмакратычнай. Соцыялістычная рэвалюцыя не задавальняе багацейшую частку вёскі, яна (багацейшая частка) імкнецца да злучэньня з буржуазна-капіталістычнымі сіламі супраць рэвалюцыйнай сілы рабочых гораду і вёскі, а таксама бяднейшага і сярэдняга сялянства.

З гэтага становіцца зразумелым, што буржуазна-дэмакратычнае разуменьне нацыянальнага пытаньня ў Беларусі знаходзіцца ў супярэчнасьці з сіламі Соцыялістычнае рэвалюцыі: яно зьяўляецца контр-рэвалюцыйным, бо імкнецца вярнуць панаваньне буржуазіі, да якой далучаецца і кулацкая частка вёскі ў той момант, калі пад кіраўніцтвам Комуністычнай партыі рабочыя, разам з бяднейшым і сярэднім сялянствам, узяўшы ў свае рукі ўладу, будуюць новы соцыялістычны лад у жыцьці і адносінах між людзьмі.

Рэвалюцыйныя і контр-рэвалюцыйныя сілы Беларусі найбольш востра сталі адна супраць аднае, твар да твару, на так званым «І-м Усебеларускім Зьезьдзе», або Конгрэсе. (У далейшым, каб ня блытаць гэтага Зьезду з Савецкімі Зьездамі, будзем называць яго Конгрэсам).

Ужо надышоў Кастрычнік. Беларусь разам з Расіяй пайшла па шляху Кастрычнікавае рэвалюцыі. Улада знаходзілася ўжо ў руках беларускіх Саветаў рабочых і сялян. 19 лістапада ў Менску сабраўся Абласны Зьезд рабочых і салдацкіх дэпутатаў і зьезд сялянскіх дэпутатаў. Абудва зьезды сталі на рэвалюцыйную Савецкую пляцформу. Як пыл, рассыпаліся думы, земствы ды іншыя ўстановы буржуазна-дэмакратычнага ладу.

Ня гледзячы на гэта, Вялікая Беларуская Рада разам з Выканаўчым Камітэтам вайсковых беларускіх организацый зусім самастойна, бяз згоды і ўмовы з савецкімі организацыямі, прызначылі на 5-е сьнежня Ўсебеларускі Конгрэс для вырашэньня лёсу Беларусі.

У гэты час у Рады зьявіўся конкурэнт: Беларускі Абласны Камітэт пры Ўсерасійскім Савеце сялянскіх дэпутатаў з Канчарам і Караткевічам на чале таксама захацеў узяць на сябе кіруючую ролю ў вырашэньні будучыны Беларусі і таксама прызначыў у Менску на 8-ае сьнежня Ўсебеларускі Конгрэс для вырашэньня лёсу Беларусі. Пляцформа Беларускага Абласнога Камітэту вызначана ім у дэклярацыі, якую ён агаласіў 17 лістапада 1917 году.

Зварачаючыся да ўсіх грамадзян Беларусі з заклікам прыняць удзел у вырашэньні лёсу Беларусі, ён кажа: «Мы, соцыялістыя, з верай імкнемся да сьветлага будучага, калі ўсе працоўныя *нарады аб'яднаюцца ў адзін сусьветны саюз, каля* аднэй соцыялістычнай культуры, братэрства, роўнасьці і свабоды: але мы ня верым, што ў сучаснасьці шляхам грамадзянскай вайны і зруйнаваньня дзяржаўнасьці бяз сталай падрыхтоўкі народных мас і без належнага грамадзка-экономічнага разьвіцьця народаў Расіі ды нават Эўропы можна зьдзейсьніць цалкам соцыялізм»...

Ён ня верыць у магчымасьць будаваць соцыялізм у Расіі і ў Беларусі. Аднак, каб падмануць Савецкую ўладу, Абласны Камітэт у асобе Караткевіча ўвайшоў з хадайніцтвам да ўраду РСФСР аб падтрыманьні сваёй працы, узяў на сябе абавязак перад Савецкім урадам РСФСР забясьпечыць непарушнасьць Саветаў у Беларусі і даў падпіску, што беларускі Конгрэс будзе пакіраваны па Савецкаму напрамку. На скліканьне Зьезду Камітэт атрымаў грошы ад Савецкага ўраду. Але як толькі Камітэт атрымаў ад Савецкага ўраду грошы на Зьезд і як сам выехаў з Петраграду, дык агаласіў дэклярацыю, што ён ня верыць у будаваньне соцыялізму, што ён супраць грамадзянскай вайны, што ён супраць Саветаў, супраць рэволюцыі.

Такім чынам, было зусім самастойна назначана два ўсебеларускіх зьезды: адзін на 5, а другі на 8 сьнежня. Аднак, маючы перад сабой агульнага ворага—Саветы, Беларускі Абласны Камітэт і Вялікая Беларуская Рада ўмовіліся, каб злучыць абудва Конгрэсы і адкрыць іх 8 сьнежня.

*Фактычна было так: Зьезд Вялікай Беларускай Рады* прыехаў 5 сьнежня і пачаў працаваць; Зьезд Беларускага Абласнога Камітэту зьехаўся 8-га сьнежня, пасьля чаго абудва зьезды зьліліся ў адзін зьезд. Аб тым, што гэта было два зьезды, звычайна не гавораць—але гэта было так. Дзьве організацыі склікалі зьезды, дзьве пасылалі запрашэньні сваім прыхільнікам і дзьве давалі мандаты. Зьезды сабраліся паміж 5 і 8 сьнежня— гэта значыць ужо пасьля Кастрычнікавай Рэволюцыі, пасьля таго, як на мясцох былі організаваны Саветы рабочых і сялянскіх дэпутатаў. Аднак, на Зьезьдзе амаль ня было прадстаўнікоў ад Саветаў, іх не запрасілі. Зьезд у большасьці складаўся з прадстаўнікоў ад палітычных, культурных організацый, організацый уцекачоў, партый, земстваў, гарадзкіх дум, коопэратываў, г. зн. зьезд у большасьці складаўся або з прадстаўні-

коў няіснуючых організацый, або з тых, што аджылі свой гістарычны час, або з асоб, якіх заклікалі на зьезд пэрсональна.

Хаця абудва зьезды зьліліся ў адзін, але фактычна і далей Конгрэс складаўся з дзьвюх частак: абласьнікоў і радаўцаў. «Абласьнікі» стаялі на тэй позыцыі, што Беларусь, як неадрыўная частка Расіі, павінна пры ўсялякіх выпадках уваходзіць у склад Расіі ў якасьці «вобласьці», у крайнім выпадку на фэдэрацыйных падставах. Гэта была дэмократызаваная позыцыя «ісьці на рускіх» людзей. «Радаўцы», наадварот, займалі позыцыю «незалежнасьці». Яны імкнуліся давесьці, што Беларусь ня мае нічога супольнага з Расіяй, што Беларусь павінна пайсьці па самастойнаму шляху да стварэньня дэмократычнай незалежнай Рэспублікі. Яны лічылі, што калі Беларусі не ўдаецца дасягнуць незалежнасьці, дык яна ўсё роўна не павінна ісьці разам з Расіяй, а павінна шукаць сабе іншага апякуна; называліся, звычайна, Польшча і Нямеччына. Як бачым, у «абласьнікоў» і «радаўцаў» нічога супольнага ня было.

Што-ж іх злучыла?

Іх злучыла агульная варожасьць да Саветаў, да пролетарскай рэволюцыі.

Варожасьць да Саветаў і пролетарскай рэволюцыі—гэта значыць тое, што доўга хавалася ад рабочых і сялян Беларусі пры зьбіраньні сіл, беларускімі нацыянальна-дэмократычнымі організацыямі тое, што хавалася пад рэволюцыйнымі фразамі, выявілася ясна на Ўсебеларускім Конгрэсе. Саветы для кіраўнікоў беларускага нацыянал-дэмократычнага руху служылі *толькі для таго, каб праз іх заваёўваць уплывы на рабочых і сялян.* Конгрэс гатоў быў прыняць Савецкую афарбоўку, каб замацаваць сваю буржуазна-дэмократычную позыцыю. Гэта відаць з першага пункту пастановы зьезду, дзе гаворыцца, што, «з а м а ц о ў в а ю ч ы р э с п у б л і к а н с к і д э м о к р а т ы ч н ы л а д у межах Беларускай зямлі, З ь е з д п а с т а н а ў л я е з а р а з - ж а с т в а р ы ц ь о р г а н к р а ё в а й улады ў *асобе Ўсебеларускага Савету сялянскіх, салдацкіх і рабочых дэпутатаў».* У гэтай пастанове, як у люстры, адбіваецца ня шчырасьць, але контр-рэволюцыйная сутнасьць Конгрэсу: Конгрэс стварае краёвую ўладу—Савет—не для таго, каб забясьпечыць праз Саветы магчымасьць рабочым і сялянам ступіць на шлях соцыяльнай рэволюцыі, але каб замацаваць рэспубліканскі, дэмократычны, г. зн. буржуазны лад.

Гэта рэзолюцыя Контрэсу адбівала, такім чынам, агульную для абласьнікоў і радаўцаў варожасьць да пролетарскай рэволюцыі. Разам з гэтым, рэзолюцыя адбівае асабістыя імкненьні «абласьнікоў» і «радаўцаў». Рэзолюцыя гаворыць аб беларускай зямлі, як частцы Расіі,—гэта думка абласьнікоў. У той-жа час яна гаворыць аб самастойным Устаноўчым беларускім сойме—гэта імкненьне незалежнікаў. У рэзолюцыі сказана, што Зьезд «замацоўвае рэспубліканскі дэмократычны парадак у межах Беларусі» (пляцформа абласьнікоў), а разам сказана, што трэба склікаць Усебеларускі Ўстаноўчы сойм, каб канчаткова вырашыць лёс беларускага народу (пляцформа незалежнікаў).

Кіраўнікі Конгрэсу імкнуліся дабіцца хаця-б формальнага прызнаньня дэмократычнага, г. зн. буржуазнага ладу і гэтым стварыць перашкоду для замацаваньня і разьвіцьця пролетарскай рэволюцыі: яны дабіваюцца пастановы аб тым, што «Конгрэс замацоўвае рэспубліканска-дэмократычны парадак». Але на Конгрэсе была пэўная частка рэволюцыйна настроеных рабочых і сялян, якія ўжо прызналі Саветы, і таму кіраўнікі Конгрэсу, каб зьберагчы ўплывы на гэту частку зьезду і каб праз гэта замацаваць сваю позыцыю, згаджаюцца назваць «Саветам» той орган, які будзе вылучаны супрацьсавецкім Конгрэсам, як орган Краёвай Улады. Кіраўнікамі Конгрэсу было зроблена, як бачым, усё, каб падмануць працоўныя масы, Савецкую ўладу, бальшавіцкую партыю.

Конгрэс не адбіваў імкненьняў рабочых і сялян Беларусі. Гэты Конгрэс быў не патрэбны рабочым і сялянам Беларусі, шкодны рэволюцыі, і ён ня скончыў сваёй працы. Конгрэс быў распушчаны воляю рабочых і сялян Беларусі, Саветам Народных Камісараў Заходняй вобласьці і фронту, бо заняў яўна варожую позыцыю ў стасунку да Саветаў і соцыялістычнай рэволюцыі.

Пасьля разгону Конгрэсу, яго кіраўнікі павялі нелегальную працу па зьбіраньні сіл на барацьбу супраць Саветаў. «Абласьнікі» пасьля Конгрэсу, калі грошы вышлі, зусім адышлі ад працы, яны пайшлі шукаць працы па ўсёй «матушке Расіі». Галоўны ўплыў у нелегальных супрацьрэволюцыйных нацыяналістычных організацыях атрымалі «радаўцы»-«незалежнікі». У барацьбе супраць Саветаў Беларусі яны стварылі «Спаўняючы Камітэт Усебеларускага Конгрэсу». 25-га сакавіка 1918 году ў часы нямецкай окупацыі «Спаўняючы Камітэт» агаласіў Беларусь незалежнай «Беларускай

Народнай Рэспублікай», заявіў аб поўным разрыве з Расіяй, а яшчэ раней, 10 сакавіка 1918 г., зьвярнуўся да нямецкага Кайзэра Вільгельма з падзякай за вызваленьне Беларусі ад Саветаў ды бальшавікоў і просьбай аб прыняцьці Беларусі пад сваю высокую руку.

Так паступова змаганьне паміж рэвалюцыйнымі соцыялістычнымі элемэнтамі, з аднаго боку, і супрацьрэвалюцыйнымі буржуазна-дэмократычнымі элемэнтамі Беларусі, з другога,—давяло да пытаньня: Саветы ці Рада, быць Беларусі—Савецкай, Соцыялістычнай, ідучы разам з рэвалюцыйнымі сялянамі і рабочымі іншых краін, ці быць Беларусі—Народнай Рэспублікай, гэта значыць дэмократычнай, гэта значыць буржуазнай, гэта значыць з эксплёатацыяй рабочых і сялян, гэта значыць разам з усімі буржуазнымі дзяржавамі (нават з кайзэраўскай Нямеччынай), супраць рэволюцыі, супраць Саветаў БССР або БНР?

Беларускімі нацыянал-дэмократычнымі групамі, варожымі Саветам, звычайна распаўсюджваюцца чуткі, што хаця Ўсебеларускі Конгрэс і стаяў на Савецкай пляцформе, але Савет Народных Камісараў Зах. вобласьці і фронту разагнаў Конгрэс, абапіраючыся «на латыскія і кітайскія атрады»[1]), таму што бальшавікі наогул ворагі нацыянальнага самавызначэньня і незалежнасьці Беларусі. Гэтымі чуткамі шырака карыстаюцца ворагі Савецкае ўлады па-за межамі Савецкае Беларусі, гэтыя чуткі зьяўляюцца падставай для ўтварэньня настрояў супраць Саветаў і бальшавікоў, і таму трэба разабрацца ў гэтым пытаньні і даць на яго належны адказ.

Першае, што трэба высьветліць,—гэта пытаньне аб складзе Конгрэсу, яго кіраўніцтве і кірунку.

Па гэтым пытаньні ўдзельнік Конгрэсу т. А. Бурбіс пісаў:

«Зьехаліся 1872 дэлегаты, у тым ліку вайсковых прадстаўнікоў 716. На зьезьдзе былі, апрача прадстаўнікоў салдат і матросаў усіх фронтаў і флётаў, прадстаўнікі рабочых організацый, валасных земстваў, гарадоў, чыгуначнікаў, паштова-тэлеграфных служачых, соцыялістычных партый ад бальшавікоў да меншавікоў і ад м а к с ы м а л і с т ы х  д а  п р а в ы х с.-р., Усерасійскага Савету Сялянскіх дэпутатаў, Савету Рабочых і сялянскіх дэпутатаў, уцекачоў, коопэратываў, беларускіх соцыялістычных і нацыяналістычных партый і організацый.

---

[1]) Варонка. „Белорусский вопрос к моменту Версальской мирной конференции“.

З прадстаўнікоў кадэцкай партыі і абшарнікаў ня было аніводнага дэпутата, хаця аб прысутнасьці асабліва абшарнікаў вельмі часта гавораць. Былі організаваны на зьезьдзе сялянскія зямляцтвы—Менскае, Магілеўскае, Віцебскае, Віленскае, Горадзенскае і Смаленскае. На зьезьдзе вялася барацьба яўных і скрытых ворагаў Савецкае ўлады і ворагаў самавызначэньня Беларусі, у большай частцы земскага элемэнту з правых с.-р., асабліва формацыі 1917 году, ды некаторых сяброў Бел. Абл. Камітэту, а з другога боку левых элемэнтаў зьезду, і таксама прадстаўнікамі большай часткі беларускіх організацый. 17-га сьнежня перамаглі левыя ўплывы, і зьезд пераважнай большасьцю выказаўся за ўладу Саветаў»...

Гэта ацэнка нябожчыка т. А. Бурбіса вельмі цікава таму, што яна паказвае, якая блытаніна існавала ды існуе нават у людзей, блізкіх Савецкай уладзе.

*Разьбярэм па парадку ўсе вышэйпералічаныя факты.*

Тав. А. Бурбіс кажа, што на зьезьдзе ня было абшарнікаў і кадэтаў. Але-ж мы ведаем, што пачэснымі сябрамі зьезду і, здаецца, нават Прэзыдыуму былі проф. Карскі, проф. Масоніус, былі дэлегаты-ксяндзы, папы, сярод кіраўнікоў Конгрэсу былі такія дзеячы, як Аляксюк ды інш., якія, вядома, стаялі вельмі блізка да абшарнікаў. Значыць, уплывы кадэтаў, абшарнікаў, наогул буржуазныя, хаця і пад выглядам дэмократычным, на зьезьдзе былі вельмі значныя.

Тав. А. Бурбіс гаворыць а прадстаўнікох на Конгрэсе Саветаў. Так, яны прыехалі на зьезд, але чаго?-Адказ на гэта мы знаходзім у пастановах першага Віцебскага Губэрскага Зьезду Саветаў. Віцебскі губэрскі зьезд паслаў на Конгрэс сваіх прадстаўнікоў і даў ім наказ: «Мы—прыхільнікі нацыянальнага самавызначэньня аж да аддзяленьня, але вырашыць гэта пытаньне ня мае права адна толькі частка насельніцтва Беларусі, якая зьбіраецца 15-га сьнежня ў г. Менску. Гэта пытаньне можа вырашыць толькі Зьезд Саветаў Раб., Сял., Чырвонагвардз. і Батрацкіх дэпутатаў, скліка, ны з усіх нацыянальнасьцяй. Зьезд адмаўляецца падтрымліваць усе Рады, пабудаваныя паводле нацыянальнае адзінкі, і заклікае рабочую клясу ды сялянства, усю беднату гораду ды вёскі стварыць між сабой цесны саюз і агульным фронтам пайсьці на барацьбу з прыгнятальнікамі працоўных мас усіх нацыянальнасьцяй. «Віцебскі Зьезд прапанаваў сваім прадстаўніком абвесьціць на Конгрэсе волю рабочых, сялян, салдат і батракоў Віцебшчыны і пакінуць Конгрэс, прапанаваўшы ўсім рабочым ды сялянам зрабіць тое самае.

Значыць, прадстаўнікі Саветаў прыехалі няпрошанымі на Конгрэс не дзеля таго, каб разам з нацыянал-дэмократычнымі элемэнтамі ісьці адным фронтам, а каб пайсьці супраць іх за Саветы, за рэволюцыю.

Былі на Конгрэсе і бальшавікі. Гэта праўда. Іх паслала партыя, каб згуртаваць рэволюцыйныя элемэнты Конгрэсу, каб выбіць ініцыятыву з рук Рады і Абласнога Камітэту. Каб аслабіць бальшавіцкую групу, Рада пайшла на провокацыю. Яна прыслала ў Пецярбург свайго агента, які, прыкінуўшыся бальшавіком, увайшоў у Пецярбурскую бальшавіцкую організацыю і дабіўся таго, што яму далі мандат на Конгрэс ад бальшавікоў. На самым Конгрэсе гэты «бальшавік» уваходзіў у склад кіруючай групы левай часткі Конгрэсу, але ў самы рашучы момант адкрыта перайшоў на бок правай часткі Зьезду. Ня дзіва, што левая частка зьезду была слаба організавана і значных уплываў на Зьезд мець не магла.

Такім чынам мы бачым, што Конгрэс складаўся ў большасьці з ворагаў Савецкае ўлады і меў вузка-нацыяналістычны характар (дэлегатамі былі толькі беларусы).

Тэндэнцыя, напрамак кіраўніцтва Конгрэсам яскрава адбіваюцца ў паказаньні т. Бурбіса, калі ён кажа, што на Конгрэсе былі заснаваны зямляцтвы па губэрнях. Каб ня даць рабочым і сялянам магчымасьці згаварыцца, каб перашкодзіць утварэньню асобнае фракцыі рабочых і сялян, каб разьбіць іхныя сілы, былі заснаваны зямляцтвы, куды ўваходзілі не паводле клясавай прыметы, але паводле губэрскага паходжаньня. Зямляцтвы былі створаны, каб аблутаць рабочых і сялян, каб, заместа інтарэсаў клясавых, на першы плян высунуць агульныя інтарэсы губэрні.

Такім чынам Конгрэс быў супраць Саветаў, супраць Пролетарскай рэволюцыі, супраць клясавых інтарэсаў рабочых і сялян.

Нарэшце, заўвага т. А. Бурбіса аб тым, што на Конгрэсе перамаглі левыя ўплывы і Конгрэс выказаўся за ўладу Саветаў.

Вышэй мы ўжо зазначалі, што Конгрэс прыняў пастанову аб стварэньні Краёвай улады ў асобе Саветаў толькі формальна, каб з надворнага боку захаваць свае (праўдзівей, сваіх кіраўнікоў) сапраўдныя контр-рэволюцыйныя імкненьні. Рачаіснасьць кажа, што Конгрэс стаяў на супрацьсавецкім грунце.

Я. Варонка і іншыя ўдзельнікі ды кіраўнікі Конгрэсу нідзе і ніколі не гавораць, што Конгрэс стаяў на Савецкім грунце. Затое яны заяўляюць, што Конгрэс абвесьціў Беларускую Народную Рэспубліку, г. зн. не Савецкую, не рабоча-сялянскую. Цікава, што Я. Варонка кажа, што «Конгрэс абраў загадзя (!) Раду 1-га Ўсебеларускага Конгрэсу, якой даручыў рабіць і далей справу, распачатую на Конгрэсе, выконваць яго рэзолюцыі і ўзяць уладу ў свае рукі, калі для гэтага надыйдзе выгодны момант». (И. Воронко. Белорусский вопрос к моменту Версальской мирной конференции). Відаць, кіраўнікі Конгрэсу загадзя ўжо бачылі, што зьезд да канца не дабярэцца і таму, каб забясьпечыць яго далейшую контр-рэволюцыйную чыннасьць, загадзя абралі Раду. Бачым, што зусім адкідаецца мотыў аб Савецкім грунце Конгрэсу.

Другое, пытаньне—аб «радаўскай незалежнасьці». Бальшавікоў вінавацiць, што яны разагналі Конгрэс, бо стаялі і стаяць супраць «незалежнасьці» Беларусі. Паглядзімо, як-жа стаіць гэта справа ў самых незалежнікаў?

Радаўцы-«незалежнікі» не адразу прышлі да думкі аб незалежнасьці Беларусі, а ішлі да гэтага паступова. Першае. Беларускі Нацыянальны Камітэт 25 сакавіка 1917 году гаворыць а Беларусі, як а частцы Расіі: «Прызнаючы найлепшай формай дзяржаўнага ладу Расіі фэдэрацыйна-дэмократычную Рэспубліку,—зьезд лічыць патрэбным аўтономнае адбудаваньне Беларусі ў межах Расіі...» і дадае: «Нацыянальны Камітэт лічыць патрэбным перасьцерагчы ад тых людзей, якія, прыкрываючыся імем беларускім, вялі-б пропаганду за далучэньне да Польшчы або да якой іншай дзяржавы».

Другое. Статут Цэнтральнай Рады беларускіх організацый, прыняты 5-6 жніўня 1917 году, гаворыць, што ў яе склад ўваходзяць розныя організацыі, якія прызнаюць патрэбу аўтономіі Беларусі.

Трэцяе. Вялікая Беларуская Рада ў сваёй грамаце ад 27 кастрычніка да Беларускага Народу кліча: «браты-беларусы, працоўны народ Беларусі, работнікі і сяляне-зямляробы, беларусы-ваякі, усе, каму дорага воля і рэволюцыя, усе, у кім гарыць і б'ецца сэрца за правы і волю беларускага народу» (адным словам, усе, усе. Гэта ў час Кастрычніка!) і заве: «Вялікая Беларуская Рада... верыць у сілу і мудрасьць беларускага народу, у руках якога вялікая будучына Вольнай Беларусі...»

Чацьвертае. Далей ідзе пастанова зьезду 5-8 сьнежня аб нейкай «Савецка-дэмократычнай» Беларусі ў складзе Расіі.

Пятае. І толькі 25 сакавіка 1918 году канчаткова гаворыцца аб БНР. Аўтономія з Расіяй, аўтономія без Расіі, Вольная Беларусь, Савецка-дэмократычная Беларусь ізноў з Расіяй, але з самастойным Устаноўчым Зборам і нарэшце БНР пад апекай нямецкага Кайзэра.

Шлях няроўны, нявыразны і сумны...

Трэцяе пытаньне—аб прынцыповай пазыцыі ў стасунку да Беларусі, партыі бальшавікоў і Савецкай улады.

Комуністычная *партыя ўвесь час рашуча праводзіла лінію* згодна сваёй програмы: яна вядзе працоўных да соцыялістычнай рэволюцыі і цьвёрда стаіць на прызнаньні права ўсіх народаў на самавызначэньне. Гэта два пытаньні—шлях да соцыялістычнай рэволюцыі і права на самавызначэньне—зьвязваюцца ў адно пытаньне, бо яны адно з другога выцякаюць і адно другое дапаўняюць. Ня можа быць поўнага нацыянальнага вызваленьня без соцыялістычнай рэволюцыі, і наадварот, соцыялістычная рэволюцыя ня можа перамагчы без вырашэньня нацыянальнага пытаньня.

Вось гэтым разуменьнем права нацый на самавызначэньне і кіравалася Компартыя ў сваіх адносінах да Беларусі.

Падаем факты. Т. Сталін, як адзін з кіраўнікоў Комуністычнае партыі і Савецкае ўлады ў сьнежні 1917 году, умовіўся з Беларускім Абласным Камітэтам сялянскіх дэпутатаў наконт таго, што трэба склікаць Усебеларускі Конгрэс, каб вырашыць пытаньне аб самавызначэньні Беларусі, забясьпечыўшы савецкую форму дзяржаўнасьці. Ды ня толькі ўмовіўся, але даў грошы на зьезд і *зрабіў загад, каб організатарам зьезду далі поўную* магчымасьць карыстацца тэлефонам, тэлеграфам ды інш. Ці можна пасьля гэтага вінаваціць Компартыю ў неспачуваньні самавызначэньню Беларусі? Відаць, ня можна.

У часы Брэст-Літоўскіх перамаўленьняў т. Сталін па тэлеграфу запэўніў прадстаўніка Конгрэсу Савіча, што «Савет Народных Камісараў будзе абараняць інтарэсы беларускіх працоўных мас».

14-га сьнежня т. Троцкі, як старшыня Савецкай дэлегацыі ў Брэст-Літоўску, прыслаў тэлеграму на імя ўдзельніка Конгрэсу Вярбіцкага: «Савецкі ўрад у поўнай згодзе са сваёй

праграмай лічаць, што ніхто, апрача Беларусі, ня мае права вырашаць лёс Беларусі. Гэту позыцыю наша дэлегацыя будзе абараняць у далейшых перамаўленьнях».

Нарэшце, уся гісторыя барацьбы за Савецкую Беларусь, стварэньне, жыцьцё і соцыялістычнае будаўніцтва Савецкай Беларусі зьяўляюцца найлепшым довадам таго, што толькі Комуністычная партыя рашуча і да канца вырашае нацыянальнае пытаньне ў Беларусі.

Ч а ц ь в е р т а е п ы т а н ь н е — а б р а з у м е н ь н і б а л ь ш а в і ц к а й п а р т ы я й «н е з а л е ж н а с ь ц і». Буржуазнае разуменьне права нацый на самавызначэньне звычайна абмяжоўваецца праўным пытаньнем або пытаньнем аб больш ці менш аўтономнай дзяржаўнасьці. З гэтага вынікае барацьба за «незалежнасьць» бяз зьмены экономічных і соцыяльных адносін, як найбольш крайняя правая буржуазнага разуменьня права на самавызначэньне.

*Мы вышэй адзначалі, што Комуністычная партыя разумее* пытаньне аб самавызначэньні як частку агульнага пытаньня аб соцыялістычнай рэволюцыі. З гэтага вынікае, што бальшавіцкая партыя не магла стаць і ніколі ня стане на позыцыю буржуазна-дэмократычнага разуменьня належнасьці Беларусі, яна супраць стварэньня Беларусі, як дэмократычнай рэспублікі— аўтономнай, вольнай і г. д., і г. д.

Дэмократычная рэспубліка,—гэта такая, у якой усе клясы формальна карыстаюцца паводле закону аднолькавымі правамі, усе роўныя: і рабочыя, і сяляне, і абшарнікі, і капіталістыя. Але дзеля таго, што ў такой рэспубліцы ўсё багацьце знаходзіцца ў руках буржуазіі, дык буржуазія мае магчымасьць у дэмократычнай рэспубліцы, прыкрываючыся роўнасьцю і вольнасьцю, эксплёатаваць ды прыгнятаць працоўныя масы. Для прыкладу можна назваць дэмократычную народную Літву, Польшчу, Латвію, Францыю, Злучаныя Штаты Паўночнай Амэрыкі. Там, паводле законаў, існуе роўнасьць, а ў жыцьці камандуе буржуазія. Таму, калі беларускія нацыянал-дэмократычныя групы і організацыі клікалі або клічуць да дэмократычнай (народнай) незалежнасьці, за БНР, дык яны падманваюць рабочых і сялян, яны хочуць стварыць рэспубліку, дзе, замест расійскай або польскай (у сучаснай Зах. Беларусі) буржуазіі, будзе панаваць беларуская буржуазія. Вось што значыць такая незалежнасьць, вось да чаго вядзе заклік аб адзіным нацыянальным фронце для барацьбы за «незалежнасьць». Комуністычная партыя (бальшавікоў) увесь час ста-

ралася растлумачыць праўдзівы сэнс такое назалежнасьці і вяла барацьбу супраць такой «незалежнасьці» ды «незалежнікаў».

Нарэшце, пятае пытаньне,—хто, па сутнасьці, пачаў з першых дзён рэволюцыі вырашаць і вырашае нацыянальную справу ў Беларусі— «радаўцы» ці бальшавікі? Мы ўжо высьвятлялі пляцформу «радаўцаў» і бачылі, што яна як па экономічных, так і па палітычных пытаньнях зьяўлялася звычайнай буржуазна-дэмократычнай пляцформай, якая ўсім сваім зьместам супярэчыла інтарэсам рабочых і сялян Беларусі. Значыць, вырашэньне нацыянальнага пытаньня «радаўцамі» магло задаволіць імкненьні буржуазных і блізкіх да іх элемэнтаў Беларусі, але не магло задаволіць і не задаваляла інтарэсаў агромністай большасьці насельніцтва Беларусі. Калі так, то справа, якую рабілі «радаўцы», была не нацыянальнай, але супрацьнацыянальнай справай, бо яна была накіравана супроць соцыяльных і нацыянальных інтарэсаў большасьці. Вось чаму «радаўцы» былі ўвесь час ненавісны рабочым і сялянам і ў сваёй барацьбе супраць рабочых ды сялян шукалі падтрыманьня ўва ўсіх контр-рэволюцыйных гнёздах.

Я. Варонка так апісвае закардонную дзяржаўную працу Рады.

«Яшчэ ўлетку 1918 году былі ўстаноўлены дыплёматычна-консульскія прадстаўніцтвы Беларускай Народнай Рэспублікі на Украіне—у Кіеве і Адэсе, на Доншчыне—у Растове, на Паўночным Каўказе—у Стаўропалі, на Літве—у Вільні. Увосень таго-ж году былі організаваны надзвычайныя місіі, якія зрабілі падарожжы ў Кіеў да ўраду гетмана П. Скарапацкага, у Варшаву да ўраду Рады Рэгенцыйнай, у Вільню—да ўраду Літоўскай Тарыбы, а таксама ў Бэрлін да германскага Рэйхсканцлера, у Данію, у Швэйцарыю».

Усюды, дзе сядзелі чорныя груганы контр-рэволюцыі, былі прадстаўнікі Рады. Навошта? Можа для таго, каб абараняць нацыянальную справу рабочых і сялян Беларусі? Не, для таго, каб атрымаць дапамогу ў барацьбе супраць працоўных, для замацаваньня буржуазнага парадку на Беларусі.

У той-жа самы час уся праца бальшавікоў і Саветаў на Беларусі з першых-жа дзён рэволюцыі была накірована на тое, каб задаволіць інтарэсы рабочых і сялян, абаперціся на шырокія масы ў барацьбе, уцягнуць іх ў барацьбу з буржуазіяй, зрабіць іх дзяржаўцамі свайго жыцьця.

Комуністычная партыя Беларусі старалася ўцягнуць у свае шэрагі як мага больш беларускіх рабочых і сялян, каб іх ставіць на чале рэволюцыйнай працы і кіраўніцтва ў рэволюцыйнай барацьбе.

Правільная па сутнасьці політыка Компартыі прыводзіла пад яе штандары ўсе найбольш рэволюцыйныя элемэнты Беларусі.

Паступова з агульна-нацыянальных беларускіх організацый, якія ў першыя дні рэволюцыі ўсё стаялі на грунце агульна-нацыянальнага фронту, пачалося вылучэньне больш рэволюцыйных частак. З Беларускай Соцыялістычнай Грамады ў Менску, Маскве, Ленінградзе (тады Петраград) сталі вылучацца цэлыя організацыі, якія прызналі памылковай позыцыю агульна-нацыянальнага фронту, станавіліся на грунт бальшавіцкай програмы і сваю працу лічылі патрэбным весьці разам з існуючымі ўжо ў Беларусі бальшавіцкімі організацыямі. У Петраградзе вылучылася з Беларускай Соцыялістычнай Грамады Нарвская рабочая організацыя, якая заклала ўлетку 1917 г. пачатак беларускай соцыял-дэмократычнай партыі (бальшавікоў) як раёну, а потым сэкцыі адзінай бальшавіцкай партыі. Яе організацыі распаўсюдзіліся ў Петраградзе, Маскве ды іншых гарадох.

Цэнтральны Камітэт Рас. Соц.-Дэм. партыі (бальшавікоў), дайшоўшы да прызнаньня патрэбы ў мэтах паглыбленьня рэволюцыі весьці далейшую рэволюцыйную барацьбу, на падставе злучэньня агульных задач соцыяльнай рэволюцыі з задачамі барацьбы працоўных Беларусі за нацыянальнае вызваленьне, паступова накіроўваў па гэтым кірунку працу Комуністычнай партыі і Савецкай улады Заходняй Вобласьці і Фронту. Цэнтральны Ўрад РСФСР утварыў Беларускі Нацыянальны Камісарыят. Беларускаму Нацыянальнаму Камісарыяту было даручана абслугоўваньне нацыянальных патрэб беларускага насельніцтва ў РСФСР, а таксама распрацоўка і падрыхтоўка пытаньня аб утварэньні Беларускай Савец. Соцыялістыч. Рэспублікі, як тэй формы дзяржаўнасьці, якая найбольш адпавядала ў сучасны момант інтарэсам рэволюцыі. Нямецкая окупацыя не прыпыніла гэту працу, хаця галоўныя сілы рабочых і сялян, Савецкай улады і Комуністычнай партыі былі накіраваны на барацьбу з нямецкай окупацыяй. Нішто ня здолела затрымаць стыхійнага руху рабочых і сялян. Нямецкая армія сама распалася і пачала адыходзіць. Уцяклі і БНР'аўцы, бо ім пагражала помста з боку рабочых і сялян за тое, што яны ўвесь час хаце-

лі запрадацца буржуазіі. Соцыялістычная рэволюцыя на Беларусі перамагла. Комуністычная партыя Беларусі падрыхтавала рабочых і сялян Беларусі для організацыі самастойнай Савецкай дзяржавы. 1-га студзеня 1919 году часовы рабоча-сялянскі ўрад з Зьміцерам Жылуновічам на чале ўрачыста абвесьціў утварэньне БССР. «У лютым 1920 г. дзеля барацьбы супраць буржуазіі Беларусь злучылася з Літвой, організаваўшы «Літбел». Польская окупацыя была яшчэ аднэй сьмяртэльнай пагрозай Кастрычніку на Беларусі. БНР'аўцы зноў хацелі падняцца на поверх політычнага жыцьця і пачалі шукаць падтрыманьня з боку польскай дэмократыі (вядома, буржуазнай). Але і тут у іх нічога ня вышла. Рабочыя і сяляне окупаванай Беларусі ішлі на паўстаньне за Саветы, за Савецкую Беларусь, але ня ішлі ў Беларускую Вайсковую Камісію, якая павінна была вербаваць беларускіх сялян і рабочых у польскую армію супраць бальшавікоў. Агульнымі сіламі рабочых і сялян усіх Савецкіх Рэспублік польскае войска было разьбіта. Менск зрабіўся Савецкім. Кастрычнік на Беларусі перамог. Савецкі Менск зрабіўся цэнтрам для аб'яднаньня ўсёй Беларусі пад штандарамі БССР. Комуністычная партыя магла пасьля гэтага ўзяцца за вырашэньне па сутнасьці нацыянальнага пытаньня, рэволюцыйны зьмест якога пасьля Кастрычніка вызначаецца наступнымі задачамі:

1. Гаспадарчы заняпад Беларусі, які зьявіўся вынікам усёй дарэволюцыйнай гісторыі, а таксама дэзорганізацыі гаспадарчага жыцьця ў часе вайны і рэволюцыі, патрабуе напружаньня ўсіх сіл і сродкаў Беларусі ды матар'яльнай дапамогі, каб працоўныя Беларусі маглі фактычна карыстацца заваёвамі Рэволюцыі і пайсьці па шляху соцыялістычнага будаўніцтва.

2. Культурны заняпад Беларусі, які, з аднаго боку, выклікаецца галечай насельніцтва, а з другога—абумоўлены ўсёй політыкай царскага ўраду—прыдушэньня беларускай культуры, перасьледваньня беларускай мовы, забароны друку, літаратуры—патрабуе рашучых мерапрыемстваў, каб хутчэй падняць культурнасьць краю, дапамагчы адраджэньню і разьвіцьцю беларускай культуры.

3. Нацыянальныя супярэчнасьці, якія маюць у Беларусі тую асаблівасьць, што нацыянальныя і соцыяльныя адзнакі перапляліся, выклікалі і ўмацавалі шэраг нацыяналістычных забабонаў, адрозьненасьці і варожасьці і, што асабліва важна, аддзялілі горад ад вёскі шмат разчэй, чымся ў іншых раёнах,

патрабуюць уважлівых адносін да матарïяльнага і культурнага стану нацыянальных меншасьцяй Беларусі, каб зьнішчыць адрозьненасьць і варожасьць між працоўнымі розных нацыянальнасьцяй і дапамагчы большаму аб'яднаньню іх для далейшай рэволюцыйнай барацьбы.

Гэтыя тры галоўныя задачы і складаюць рэволюцыйны зьмест нацыянальнага пытаньня ў Беларусі, бо зьдзейсьненьне іх забясьпечвае ўмацаваньне і разьвіцьцё соцыялістычнага будаўніцтва, замацоўвае, такім чынам, Савецкую Беларусь, як частку адзінага Савецкага Соцыялістычнага Саюзу ў яго барацьбе супраць капіталістычнага сьвету.

Комуністычная партыя так разумее сэнс нацыянальнага пытаньня ў Беларусі пасьля Кастрычніка: Савецкая ўлада Беларусі пад кіраўніцтвам Компартыі вырашае асноўныя задачы, якія перад ёй стаяць, і гэтым забясьпечвае варашэньне нацыянальнага пытаньня. Для вырашэньня гэтых задач створана Савецкая Беларусь. Існаваньне Савецкай Беларусі, яе жыцьцё і дасягненьні зьяўляюцца лепшым довадам таго, што такое разуменьне нацыянальнага пытаньня зьяўляецца адзіна правільным, задавальняе найбольш балючыя і найбольш грунтоўныя патрэбы рабочых і сялян Беларусі.

---

IV

# Беларусь—дзяржава саветаў.

Згодна Рыскае ўмовы 1920 году, паміж Савецкай Расіяй, Украінай і Беларусьсю, з аднаго боку, і буржуазнай Польшчай—з другога, Беларусь падзелена на дзьве часткі. Заходняя Беларусь увайшла ў склад Польшчы, на Ўсходняй—замацавалася незалежная Беларуская дзяржава—БССР, якая цяпер добраахвотна ўваходзіць у склад Саюзу Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік.

Што-ж гэта за дзяржава Савецкая Беларусь?

Мы ведаем, што буржуазныя дзяржавы ствараюцца для прыгнечаньня бяднейшых багацейшымі, для панаваньня буржуазіі.

Праўда, буржуазная навука, прыстасаваная для ўмацаваньня ўлады буржуазіі, кажа: «Дзяржава існуе ў агульным інтарэсе, значыць у інтарэсах усяго народу, роўнацэннага і роўнапраўнага ва ўсіх сваіх частках і адзінках». Другімі словамі, буржуазная навука хоча давесьці, што буржуазная дзяржава бароніць і забясьпечвае інтарэсы ўсяго народу: і рабочых, і капіталістых, і сялян, і абшарнікаў. Але рачаіснасьць кажа якраз наадварот. Уладзімер Ільліч Ленін аб буржуазнай дзяржаўнасьці казаў: «Пры капіталізьме мы маем дзяржаву ў літаральным сэнсе слова, асобную машыну для прыгнечаньня аднае клясы другой і пры тым большасьці меншасьцю...» «У капіталістычным грамадзтве мы маем дэмократыю—абрэзаную, убогую, фальшывую, дэмократыю толькі для багатых, толькі для меншасьці» [1]).

Значыць, усе буржуазныя дзяржавы ў больш-менш затоенай форме зьяўляюцца органамі пануючай буржуазіі, хаця яны тэорэтычна існуюць у «агульным інтарэсе».

Усе Савецкія Рэспублікі, а ў тым ліку і Сав. Беларусь, і тэорэтычна і практычна зьяўляюцца організацыямі працоў-

---

[1]) У. І. Ленін. Дзяржава і рэволюцыя.

ных для прыгнечаньня буржуазіі, для ўмацаваньня панаваньня працоўных. Савецкая Беларусь, як і ўсе Савецкія дзяржавы, ёсьць дзяржава дыктатуры пролетарыяту, для панаваньня пролетарыяту над буржуазіяй, якое «не абмяжована законам, не абапіраецца на прыгнечаньне і карыстаецца спачуваньнем і падтрыманьнем працоўных ды эксплёатаваных мас» [1]).

Дзяржаўнасьць Савецкай Беларусі, як і дзяржаўнасьць усіх Савецкіх Рэспублік, мае часовае значэньне. Савецкая Беларусь ёсьць часовая організацыя рабочых і сялян Беларусі, каб праз гэту організацыю канчаткова забясьпечыць перамогу соцыялізму.

«Пры пераходзе ад капіталізму да комунізму, прыгнечаньне яшчэ патрэбна», кажа Ў. І. Ленін, «але прыгнечаньне меншасьці эксплёататараў большасьцю эксплёатаваных. Асобны апарат, асобная машына для прыгнечаньня—дзяржава—яшчэ патрэбна, але гэта ўжо пераходная дзяржава, гэта ўжо не дзяржава ў літаральным сэнсе, бо прыгнечаньне меншасьці эксплёататараў большасьцю ўчарайшых нявольнікаў справа настолькі параўнальна лёгкая, простая і натуральная, што яна будзе каштаваць значна менш крыві, чым прыдушэньне паўстаньня паднявольных прыгонных, наёмных рабочых, што яна прыдзецца чалавецтву значна таней. Яна (дзяржава дыктатуры) забясьпечвае пашырэньне дэмократыі на такую значную большасьць насельніцтва, што патрэба ў асобнай машыне пачынае зьнікаць» [1]).

Якія-ж характэрныя адзнакі Савецкай Беларусі, як дзяржавы?

Савецкая Беларусь ёсьць самая дэмократычная дзяржава для працоўных, бо яна яднае навакол сябе рабочых і сялян, усіх прыгнечаных, усіх эксплёатаваных супраць буржуазіі, яна, такім чынам, зьяўляецца організацыяй агромністай большасьці для панаваньня над меншасьцю.

Савецкая Беларусь, зьяўляючыся нацыянальнай Савецкай дзяржавай у той-жа час ёсьць глыбока інтэрнацыянальнай, бо яна зьнішчае ўсялякае нацыянальнае прыгнечаньне, імкнецца забясьпечыць супрацоўніцтва ўсіх нацыянальнасьцяй, іх вольнае разьвіцьцё і ўдзел у соцыялістычным будаўніцтве.

Савецкая Беларусь, зьяўляючыся работніцка-сялянскай дзяржавай, у той-жа час ёсьць організацыя дыктатуры проле-

---

[1]) У. І. Ленін. Дзяржава і рэволюцыя.

тарыяту, г. зн. яна сваёй пабудовай забясьпечвае авангарду працоўных—пролетарыяту—найболыш организаванага і сьвядомага аддзелу працоўных, кіраўніцтва ўсімі прыгнечанымі ды эксплёатаванымі.

Савецкая Беларусь ёсьць назалежная рэспубліка, якая добраахвотна, на падставе пастановы 5-га Ўсебеларускага Зьезду Саветаў, уваходзіць у склад Саюзу ССР, захаваўшы права выйсьця па сваім жаданьні з Саюзу. Саюз ССР стварыўся для аб'яднаньня працы ўсіх Савецкіх Рэспублік па экономічным, соцыялістычным будаўніцтве, для адзінства ў замежнай політыцы і будаўніцтве Чырвонай арміі. Сувэрэнныя правы Беларусі забясьпечваюцца Констытуцыяй Саюзу ССР. На Саюз ускладаецца абавязак клапаціцца аб тым, каб фактычна дапамагчы экономічнаму і культурнаму будаўніцтву, а таксама політычнаму ўзросту ўсіх Саюзных Рэспублік, у тым ліку і Савецкай Беларусі.

Савецкая Беларусь беспасрэдна зьвязана праз сельскія, местачковыя, гарадзкія саветы з рабочымі і сялянамі. Кожны дэлегат вёскі, фабрыкі, саюзу, вайсковага аддзелу ў саветы заўжды павінен рабіць справаздачу перад тымі, хто яго абраў, павінен мець заўжды наказ аб патрэбах абіральнікаў, можа быць у кожны момант адкліканы з Савету, калі ён ня будзе задавальняць сваёй працай працоўных. Гэтым забясьпечваецца магчымасьць непасрэдных уплываў і ўдзелу ўсіх рабочых ды сялян у дзяржаўным будаўніцтве.

Усе гады існаваньня Савецкай Беларусі, асабліва пасьля сканчэньня вайны ў 1920 годзе, ішло паступовае паглыбленьне ды разьвіцьцё савецкага будаўніцтва, шляхам уцягваньня ў беспасрэдную працу кіраваньня дзяржавай шырокіх колаў рабочых і сялян. Рабочыя разам з сялянамі пад кіраўніцтвам Комуністычнай партыі зьяўляюцца фактычнымі кіраўнікамі дзяржаўнага жыцьця Савецкай Беларусі, яе соцыялістычнага, экономічнага і культурнага будаўніцтва.

Лічбы аб ходзе перавыбарчай кампаніі ў саветы 1925-26 г. красамоўна сьцьвярджаюць вышэйсказанае. На выбарныя сходы ўсюды зьявілася большасьць абіральнікаў. Былі вучасткі, дзе на выбары зьявілася 83 проц. і больш абіральнікаў, усюды на сходах вельмі ўважліва абгаварваліся даклады-справаздачы, задавалася шмат запытаньняў, актыўна распрацоўваліся наказы. Гэта сьведчыць аб надзвычайнай зацікаўленасьці сялян у працы сельскіх саветаў.

*У сельскія саветы абрана 18.163 сябры, у тым ліку:* серадьнякоў-сялян—14.140, бясконных і вызваленых ад падат-

ку—2.300, рабочых і батракоў—381, саматужнікаў і рамесьнікаў—150, служачых—750.

У раённыя выканаўчыя камітэты абрана—1.474 сябры, з якіх рабочых і батракоў—158, сялян—602, саматужнікаў і рамесьнікаў—48, рабочых і сялян, заўжды працуючых у савецкіх установах—575, інтэлігентаў—91.

У гарадзкія саветы акруговых гарадоў абрана—1.718 сяброў, у якім ліку: рабочых—628, (31,8 проц.), сялян—182 (9,2 проц.), саматужнікаў і рамесьнікаў—100 (5,1 проц.), рабочых і сялян, заўжды працуючых у Саветах—463 (23,4 проц.), настаўнікаў ды інш.—75 (3,8 проц.), чырвонаармейцаў—402 (20,3 проц.).

Выбары ў акруговыя выканаўчыя камітэты, а таксама ў Цэнтральны Выканаўчы Камітэт наладжаны так, каб ад кожнага самастойнага ў экономічным або нацыянальным сэнсе раёну быў абраны прадстаўнік.

На кіруючую працу раённых, акруговых і Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту высунуты больш здольныя рабочыя і сяляне, якія, не разрываючы сувязь са сваёй гаспадаркай і заводам, у той-жа час займаюць адказныя пасады ў аддзелах Выканкому або Народных Камісарыятаў.

Цэнтральны Выканаўчы Камітэт, водле соцыяльнага складу сяброў, падзяляецца: рабочых—33 проц., сялян—33 проц., служачых, г. зн. тых, што даўно ўжо адышлі ад непасрэднай працы на фабрыцы або зямлі—32 проц., інтэлігентаў—2 проц.

Савет Народных Камісараў складаецца: рабочага паходжаньня—20 проц., сялянскага—66 проц., інтэлігентаў—14%.

На апошняй сэсіі Цэнтральны Выканаўчы Камітэт абраў у склад Прэзыдыуму ЦВК аднаго рабочага ад станка і селяніна ад плуга на сталую працу ў прэзыдыуме. Жанчына—работніца і сялянка—таксама паступова ўсё больш ды больш прымае ўдзел у дзяржаўнай працы. На выбарах жанчыны складалі каля 30 проц. усіх абіральнікаў. Жанчына абрана і ва ўсе кіруючыя ўстановы. Шэраг жанчын работніц і сялянак займае адказныя пасады ў савецкіх установах. Усё гэта сьведчыць аб тым, што ўлада ў Савецкай Беларусі знаходзіцца ў руках рабочага і селяніна.

Такім чынам, Савецкая Беларусь—ёсьць Рэспубліка Саветаў Рабочых, Сялянскіх і Чырвонаармейскіх Дэпутатаў, ці тая політычная форма дзяржаўнасьці, у рамках якое павінна быць скончана экономічнае вызваленьне працоўных і поўная перамога соцыялізму.

V

# Соцыялістычнае будаўніцтва Савецкай Беларусі.

Пасьля скончэньня Савецка-Польскай вайны, Савецкая Беларусь пачала мірную працу ў складзе 6-ці паветаў былшай Менскай губэрні, на тэрыторыі звыш 52.000 кв. клм. з насельніцтвам звыш 1.500.000 чалавек. Гэты склад Савецкай Беларусі далёка не ахапляў усяе тэрыторыі Беларусі. Аднак, да 1924 году Савецкая Беларусь, ня гледзячы на прапановы з боку Ураду РСФСР, не магла ўключыць у свой склад суседнія беларускія раёны, бо трэ' было раней хаця крыху стаць на ногі пасьля вайны. У красавіку 1924 году па згодзе ўрадаў РСФСР і БССР да Савецкай Беларусі быў далучаны шэраг беларускіх паветаў Віцебскай, Гомельскай і Смаленскай губэрань. Дзякуючы гэтаму, БССР заняла абшару 109.764 кв. клм. з насельніцтвам 4.200.000 чалавек. Разам з гэтым далучэньнем да Беларусі беларускіх тэрыторый, урады БССР і РСФСР, выходзячы з патрэбы стварыць найбольш спрыяючыя ўмовы для свайго далейшага плянавага соцыялістычнага будаўніцтва—гаспадарчага і культурнага,—пачалі больш падрабязнае выўчэньне ўсіх суседніх тэрыторый, каб на падставе гэтага зрабіць канчатковае раёнаваньне, выдзеліўшы ў склад Беларусі ўсе аднастайныя з боку гаспадарчага, этнографічнага і культурнага тэрыторыі. У выніку гэтай працы 6-га сьнежня 1926 году Прэзыдыум ЦВК РСФСР пастанавіў перадаць Савецкай Беларусі Гомельскі і Рэчыцкі паветы б. Гомельскай губ. Гэта пастанова далучыла да БССР яшчэ 15.752 кв. клм. тэрыторыі і 649.000 чалавек насельніцтва.

Так паступова, пры дапамозе сваёй старэйшай сястры РСФСР, БССР канчаткова аформілася, як дзяржаўная адзінка з насельніцтвам у 5.000.000 чалавек. Частка задачы па аб'яднаньні беларускіх тэрыторый у складзе БССР такім чы-

нам ужо ваканана. Гэта дае ўпэўненасьць, што будзе выканана і далейшае аб'яднаньне ў складзе БССР тых тэрыторый, што часова, з прычыны няспрыяльных палітычных умоў, дагэтуль падпарадкаваны суседнім дзяржавам.

Але і цяпер ужо Савецкая Беларусь мае магчымасьць будаваць сваю гаспадарку, культуру і ўзмацняць сваю палітычную моц.

Кастрычнікавая рэволюцыя разарвала путы, якімі царскі ўрад апутаў працоўных. Такімі путамі былі даўгі, што нарабіў царскі ўрад заграніцай, а таксама вялізарныя падаткі, якія падалі, галоўным чынам, на сялянства.

Паводле падлічэньня амэрыканскіх вучаных, усяго даўгоў у царскага ўраду было 13.823.000.000 (трынаццаць мільядраў васемсот дваццаць тры мільёны рублёў). Процантаў за гэты доўг трэба плаціць 640.000.000 руб. (шэсьцьсот сорак мільёнаў руб.). На Беларусь прыпадае з гэтага ліку ўсяго доўгу 552 мільёны рублёў, або на кожную душу звыш 130 рублёў, а на кожны год процантаў усяго 25.600 тысяч рублёў, або 6 руб. на 1 душу. Што гэта значыць—тлумачыць ня трэба.

Падаткі ды іншыя выплаты сялянства Савецкага Саюзу ў 1924-25 годзе былі меншыя, чым да вайны, на 2 мільярды рублёў.

Дзякуючы таму, што Кастрычнік усё гэта зьнішчыў, адраджэньне і разьвіцьцё народнай гаспадаркі Савецкай Беларусі ідзе больш шпарка, яна дужэе і расьце, а разам з гэтым матар'яльны стан рабочых і сялян паступова паляпшаецца.

С е л ь с к а я   г а с п а д а р к а   Б е л а р у с і   *расьце як па колькасьці, так і па якасьці.*

Сялянства атрымала звыш 1.300.000 дзесяцін зямлі і цяпер ідзе гарачая праца па зямляўпарадкаваньні і пераходу да больш высокіх форм землякарыстаньня[1]). Селянін заводзіць шматпалёўку, разводзіць скаціну, наогул імкнецца зрабіць сваю гаспадарку больш зыскоўнай. Калі раней галоўную ўвагу селянін звярачаў на тое, каб больш пасеяць жыта, дык цяпер селянін імкнецца жыта сеяць ня больш, але лепш, каб атрымаць большы ўраджай. Ён імкнецца замяніць жыта больш выгоднымі культурамі, як лён, бульба ды інш. Прадаўшы іх на рынку, селянін купляе сабе хлеб, бо гэта вы-

---

[1]) З прычыны асаблівай экономічнай і політычнай важнасьці зямельнага пытаньня ў Беларусі, мы далі асобны аддзел: „Вырашэньне зямельнага пытаньня ў Савецкай Беларусі“.

гэдней. Увоз і вываз збожжа за апошнія гады зьмяніўся (у тысячах пудоў) так[1]):

| Гады | Увоз | Вываз | Сальдо |
|---|---|---|---|
| 1923-24 . . | 1.675 | 738 | + 937 |
| 1924-25 . . | 1.723 | 2.610 | — 887 |
| 1925-26 . . | 6.816 | — | +6.716 |
| Будзе 1926-27 . . | 9.185 | 439 | +8.746 |

Значыць, яшчэ ў 1924-25 годзе вывезьлі з Беларусі збожжа на 887 тыс. пудоў больш, чым увезьлі. Але далей, разам са зьменай у характары сельскай гаспадаркі, ідзе вельмі значнае павялічэньне ўвозу.

Засеўная плошча ў 1924-25 годзе перавысіла даваенную на 13 проц., дайшоўшы да 2.493 тысяч дзесяцін. За апошнія гады ідзе далейшы паступовы рост засеўнай плошчы. Расьце ўраджай збожжа, ён перавысіў сярэднюю даваенную норму. Так, збор з дзесяціны ў пудох быў:

| | Сярэдні 1905-13 г. | 1923-24 г. | 1924-25 г. |
|---|---|---|---|
| *Жыта-азіміна* . . | 42,4 | 41,0 | 48,1 |
| *Ячмень* . . . . | 47,1 | 45 | 51,2 |
| Авёс . . . . . | 48,3 | 51 | 55,7 |
| Льняное семя . . | 22,2 | 22,4 | 26,4 |
| Бульба . . . . | 432,2 | 432,2 | 548,2 |

Агульны збор жыта з году ў год павялічваецца: сабрана было збажыны ў 1923 годзе—84.735,7 тыс. пудоў, у 1924—92.703,2 тыс. пудоў, у 1925 г.—100.982 тыс. пудоў.

[1]) *Усе лічбы ўзяты з кніжкі: „Контрольные цифры Нар. хоз. БССР* на 1926-27 г.“, выданьне Дзяржпляну БССР. 1926 г.

Тэхнічныя культуры і засеўныя травы займаюць усё большае месца, што відаць з наступнай табліцы (у проц.):

| КУЛЬТУРА | 1923 г. | 1924 г. | 1925 г. | 1926 г. |
|---|---|---|---|---|
| Зернавыя | 82,7 | 82,1 | 79,1 | 77,3 |
| Бульба | 11,4 | 10,3 | 11,3 | 11,7 |
| Тэхнічныя | 3,1 | 3,4 | 4.6 | 4,6 |
| Пасевы траў | 2.8 | 4,1 | 5.0 | 5,4 |

Гадоўля жывёлы хутка аднаўляецца, даўшы за мінулыя гады значны рост. У процантах мы маем наступны малюнак параўнаньня з мінулым годам:

| | 1924 г. | 1925 г. | 1926 г. |
|---|---|---|---|
| Коні | 102,7 | 112,9 | 102,8 |
| Быдла | 106,0 | 118,2 | 100,6 |
| Авечкі | 102,0 | 121,1 | 95,8 |
| Сьвіньні | 116,9 | 129,3 | 106,3 |

У параўнаньні з даваенным часам на 100 дзесяцін засеву прыпадае штук скаціны:

| | 1913 г. | 1925 г. |
|---|---|---|
| Рабочых коняй | 29,6 | 27,4 |
| Дарослага быдла | 58,6 | 47,1 |
| Авечак (без ягнят) | 54,5 | 55,2 |
| Сьвіней (без парасят) | 44,3 | 43,3 |

Такім чынам, мы бачым, што сельская гаспадарка Беларусі ўжо паднялася да ўзроўню даваеннага часу, а ў некаторых выпадках нават яго перавышае. Разам з агульным ростам народнай гаспадаркі, будзе ісьці ў далейшым разьвіцьцё і сельскай гаспадаркі. У сучасны момант Урад БССР складае пяцігадовы плян разьвіцьця народнай гаспадаркі, у якім у стасунку да сельскай гаспадаркі прадбачыцца наступны шлях разьвіцьця:

1. Далейшае пашырэньне засеўнае плошчы і зьмяншэньне няўжыткаў. Вялікае значэньне пры гэтым набывае праца па мэліорацыі і зямлеўпарадкаваньні.

2. Не зьмяншаць, але павялічваць агульны лік збору зярна, і ў той-жа час зьвярнуць асаблівую ўвагу на павялічэньне тэхнічных культур, як найбольш зыскоўных.

3. Разьвіцьцё жывёлагадоўлі, дзякуючы чаму будзе расьці таварнасьць сельскай гаспадаркі і будзе магчымасьць пашыраць прамысловасьць па пераапрацоўцы сельска-гаспадарчай сыравіны (бульбы, маслабойнай, ільнянай, гарбарнай).

Аднаўленьне і разьвіцьцё сельскай гаспадаркі ідзе пры дапамозе Савецкай улады, якая ўкладае ў гэту справу вялікія сродкі як шляхам бюджэтных асыгнаваньняў, так і праз сельска-гаспадарчы крэдыт ды сельска-гаспадарчую коопэрацыю.

Асаблівая ўвага ўвесь час зварачаецца на пашырэньне коопэрацыі.

На 1-е кастрычніка 1925 году сельска-гаспадарчая коопэрацыя лічыла 122.000 сяброў.

IX Зьезд Компартыі (бальшавікоў) Беларусі па гэтым пытаньні прыняў такую пастанову: «Дзеля накіраваньня росту сельскае гаспадаркі ў соцыялістычнае рэчышча трэба ўзмоцніць ролю сельска-гаспадарчае коопэрацыі, узмоцніць коопэраваньне сялянства на падставе організацыі збыту і пераапрацоўкі сельскіх продуктаў шляхам разьвіцьця спэцыяльных відаў коопэрацыі».

На 1-е красавіка 1926 году ўжо было 168.000 сяброў, што дае павялічэньне на 37,4 проц. На 1-е кастрычніка было коопэравана 17,5 проц. усіх сялянскіх гаспадарак, а на 1-е красавіка—22,5 проц.

Цэнтральнымі Савецкімі ўстановамі Беларусі выдана летам 1926 году 270.000 руб. доўгатэрміновай пазыкі. Апрача гэтага, выдана яшчэ з фонду гаспадарчага аднаўленьня 265.000 рублёў.

Сельска-гаспадарчы крэдыт, організаваны ўладай, галоўным чынам, за кошт дзяржаўных сродкаў, служыць для грашовай дапамогі сельскай гаспадарцы.

IX Зьезд Компартыі (бальшавікоў) Беларусі кажа пра гэта так: «Усе мерапрыемствы па разьвіцьці сельскай гаспадаркі і гаспадарчая праца (чыннасьць) самога сялянства ўпіраюцца ў недахват капіталаў у сельскай гаспадарцы. Бяз шырокага дзяржаўнага сельска-гаспадарчага крэдыту сельскія гаспадары наогул, а асабліва беднякі ды серадцякі, ня здолеюць пабудаваць культурнае гаспадаркі. Трэба павялічыць капіталы с.-г. банку і палегчыць умовы крэдытаваньня»... Па гэтым пытаньні зроблена наступнае:

На 1-е кастрычніка 1924 г. асноўны капітал с.-г. банку быў 349 тыс. руб.
На 1-е " 1925 г. . . . . . 1.193 " "
На 1-е ліпня 1926 г. . . . . . 1.796 " "

Па пяцігадоваму пляну аднаўленьня сельскай гаспадаркі асноўны капітал с.-г. крэдыту павялічаецца ў 1925-26 годзе на 1.527 тыс. рублёў, а ў 1926-27 г.—на 3.743.000 рублёў.

Галоўная ўвага, як відаць з пастановы IX зьезду КП(б)Б, зварачаецца на абслугоўваньне бяднейшага і сярэдняга сялянства.

Наступныя табліцы сьведчаць, як у процантах разьбіваюцца выданыя ў крэдыт грошы сярод бясконных і аднаконных гаспадарак.

Выдача пазык бясконным.

| 1924-25 г. | | | | 1925-26 г. | |
|---|---|---|---|---|---|
| 1 квартал | 2 квартал | 3 квартал | 4 квартал | 1 квартал | 2 квартал |
| 55,4% | 47,9% | 29,6% | 32,1% | 37,4% | 34,7% |

Выдача пазык аднаконным.

| 1924-25 г. | | | | 1925-26 г. | |
|---|---|---|---|---|---|
| 1 квартал | 2 квартал | 3 квартал | 4 квартал | 1 квартал | 2 квартал |
| 36,2% | 42,3% | 58,8% | 47,7% | 49,9% | 51,9% |

Прамысловасьць Беларусі набывае ўсё большую адносную вагу ў экономіцы краіны.

У даваенныя часы яна ў большасьці насіла выпадковы характар, бо ня было спрыяючых умоў экономічных і палітычных для яе існаваньня ды разьвіцьця.

За часы вайны прамысловасьць была разбурана, машыны вывезены. Тым большае значэньне маюць дасягненьні Беларусі ў гэтай галіне гаспадарчага жыцьця.

Галоўныя даныя, якія малююць стан прамысловасьці, такія:

1. За 1924-25 год асноўны капітал дзяржаўнай прамысловасьці, падпарадкаванай Вышэйшаму Савету Народнай Гаспадаркі, павялічыўся з 9.891,5 тыс. да 11.434,7 тыс. руб., або на 11,6 проц.; уласныя зваротныя сродкі дасягнулі 9.282,8 тыс. руб., павялічыўшыся на 41,5 проц.

2. Агульны выраб цэнзавай прамысловасьці павялічыўся ў 1924-25 годзе да 51.311,2 тыс. рублёў, ці на+59,5 проц.

3. Колькасьць рабочых, занятых у прамысловай вытворчасьці, была ў 1923-24 г.—11.552 чал., у 1924-25 г.—14.738 чал.

4. Сярэдняя месячная заработная плата паступова павышаецца: у 1924-25 годзе—41,5 руб., 1925-26—46,1 руб. і ў 1926-27 г. будзе—48,6 руб.

У 1925-26 годзе было страчана каля 8.000.000 рублёў на пабудову новых прадпрыемстваў і аднаўленьне старых. У 1926-27 годзе проектуецца выканаць рознай будаўнічай работы прыблізна на 12.000.000 рублёў.

Урад БССР ставіць перад сабой мэту—значна павялічыць тэмп разьвіцьця прамысловасьці Беларусі. Усяго, паводле пяцігадовага пляну, пачынаючы з 1926-27 году па 1930-31 год будзе ўложана ў цэнзавую прамысловасьць каля 95.000.000 рублёў. Дзякуючы гэтаму, значна павялічыцца лік рабочых у прадпрыемствах, будзе зьмяншацца цана на тавары, а разам з гэтым палепшыцца матар'яльны стан рабочых.

Разьвіцьцё прамысловасьці Беларусі знаходзіцца ў цеснай сувязі з разьвіцьцём электрыфікацыі. Колькасьць электрычнай энэргіі за будучыя пяць год (1925-26—1930-31) павінна падняцца з 21 міліёна кілёват-гадзін да 102 мільёнаў. Ужо распачалася пабудова вялікай электрычнай станцыі на Асінаўскім тарфяным балоце—«Асінабуд», на што будзе страчана каля 15.000.000 рублёў і што дасьць вялікі запас электрычнае энэргіі для Віцебскай, Аршанскай і нават Магілеўскай акруг.

Як вынік мерапрыемстваў Савецкае ўлады, накірованых у бок разьвіцьця прамысловасьці, паступова пачынае зьмя-

няцца роля прамысловасьці ў экономіцы Беларусі. Калі раней прамысловасьць Беларусі насіла выпадковы характар, дык цяпер яна пачынае займаць пачэснае месца, як штурхач гаспадарчага разьвіцьця краіны. Суадносіны прамысловасьці і сельскай гаспадаркі зьмяняюцца, што відаць з наступнага параўнаньня агульнай продукцыі прамысловасьці і сельскай гаспадаркі.

| | Па даваенных цэнах | | | | Па сучасных цэнах | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1923-24 г. | 1924-25 г. | 1925-26 г. | 1926-27 г. | 1923-24 г. | 1924-25 г. | 1925-26 г. | 1926-27 г. |
| Сельск. гасп. . . | 82,5 | 81,7 | 77,7 | 76,4 | 73,4 | 74,2 | 72,7 | 71,1 |
| Прамыслов. . . | 17,5 | 18,3 | 22,3 | 23,6 | 26,6 | 25,8 | 27,3 | 28,6 |

Такім чынам відаць няўхільнае павышэньне прамысловай вытворчасьці.

Трэба тут-жа адзначыць, што ўся больш-менш буйная прамысловасьць Беларусі зьяўляецца дзяржаўнай і што прыватны капітал жаднае ролі ў прамысловасьці ня грае.

Што да дробнай саматужнай і рамесьніцкай прамысловасьці, дык яна надзвычай слабая. Агульны лік гэтых прадпрыемстваў—39.348 з 55.000 рабочых. Пераважная большасьць прыватных прадпрыемстваў прыпадае на долю адзінак саматужнікаў і рамесьнікаў (32.516).

З нашага вельмі кароткага агляду сельскай гаспадаркі і прамысловасьці відаць, што гаспадарчая праца пасьля перамогі Кастрычніка ў Беларусі мае значныя посьпехі, што адбіваецца на палепшаньні стану насельніцтва гораду і вёскі. Замацаваньне гаспадарчага стану Беларусі паступова замацоўвае соцыялістычныя элементы нашай гаспадаркі.

Наша прамысловасьць ёсьць соцыялістычная па тыпу, і ў гэтым напрамку яна ўсе больш разьвіваецца.

У нашай сельскай гаспадарцы таксама ідзе паўялічэньне коопэраваньня, пашырэньне ролі дзяржаўнага крэдыту, падцягваньне бяднейшых на больш высокую ступень,—і ўсё гэта, разам узятае, накіроўвае сельскую гаспадарку на соцыялістычны шлях.

Паступова зьмяншаецца роля прыватнага капіталу і ў гандлі. Наступныя лічбы гавораць аб ролі ў гандлі дзяржаўных, коопэрацыйных і прыватных прадпрыемстваў:

| | 1923-24 г. | 1924-25 г. | 1925-26 г. | 1926-27 г. |
|---|---|---|---|---|
| Дзяржаўныя . . . | 19,9 | 22,7 | 22,0 | 21,0 |
| Коопэрацыйныя . . | 26,3 | 39,1 | 46,6 | 47,6 |
| Прыватныя . . . . | 53,8 | 38,2 | 31,4 | 31,4 |

Разам з гаспадарчым разьвіцьцём Савецкай Беларусі можна адзначыць значныя дасягненьні і ў барацьбе за культурнае, у шырокім сэнсе слова, разьвіцьцё Беларусі.

Пры вырашэньні пытаньня аб культурным будаўніцтве Савецкая ўлада мае на ўвазе два бакі задачы: першы—барацьба за граматнасьць наогул, другі—барацьба за адраджэньне і разьвіцьцё беларускай культуры, як культуры большасьці насельніцтва Беларусі.

Царызм пакінуў вельмі цяжкую спадчыну. Беларусь апынулася ў стане самай няпісьменнай часткай царскай Расіі. Так, на 1.000 душ насельніцтва ў 1920 годзе пісьменных прыпадала: па Эўропэйскай частцы РСФСР—434, на Паўночным Каўказе—356, на Украіне—416 і ў Беларусі—327. У сельскіх-жа мясцовасьцях пісьменных было толькі—276 на 1.000 душ.

Царызм сьвядома трымаў насельніцтва няпісьменным, бо баяўся, што пісьменны, сьвядомы чалавек, не захоча цярпець свайго гаротнага жыцьця.

Калі-ж і рабіліся якія захады для адчыненьня ў Беларусі школ, дык пры гэтым ставілася мэта зрабіць з гэтых школ пляцоўкі русыфікацыі і выхаваньня насельніцтва ў духу адданасьці «вере, царю и отечеству».

У Беларусі ня было аніводнай вышэйшай школы і ўсе захады мясцовых людзей дабіцца організацыі ў Беларусі такой школы, заставаліся без задаволеньня.

Затое досыць значна пашыраны былі ў Беларусі духоўныя і настаўніцкія сэмінарыі, настаўніцкія інстытуты—мэта якіх была выхаваць з мясцовай моладзі адданых «русской идее» напоўпісьменных інтэлігентаў, барацьбітоў супраць мясцовага сэпаратызму.

Усё няруское нішчылася, перасьледвалася, забаранялася. Беларуская мова была прызнана «мужыцкай, хамскай», і супраць яе вялася самая рашучая барацьба. Вучня з малых гадоў прыўчалі да думкі, што «благародны» чалавек «інтэлегент» можа і павінен гаварыць толькі на рускай мове.

Настаўнікі сельскіх, гарадзкіх школ, гімназій, сэмінарый, інстытутаў рабілі сабе кар'еру на барацьбе за «чистый русский язык».

Да 1905 году друк беларускіх кніжок быў забаронены, а з 1905 году ішоў вельмі слаба з прычыны адсутнасьці сродкаў і прычэпак цэнзуры.

Русыфікатарская хваля павялічвалася праз казарму, царкву, дзяржаўныя ўстановы.

З другога боку, беларускае насельніцтва знаходзілася пад вельмі моцным уплывам польскае культуры і каталіцкага касьцёлу. Большая частка беларускага дваранства—шляхты фактычна полёнізавалася, і кожны панскі двор, кожны шляхоцкі фольварак быў пляцоўкай, адкуль ішлі наўкола хвалі польскіх экономічных і культурных уплываў. Каталіцкая царква ў сваёй барацьбе супраць ваяўнічага праваслаўя і расійскага імпэрыялізму лучыла пад сваім дахам усіх каталікоў. Католік рабіўся сынонімам паляка. Беларус—селянін-каталік уцягваўся ў змаганьне за каталіцызм, за польскасьць. Каталіцкая беларуская моладзь, атрымаўшы адукацыю, пераходзіла ў стан польскага нацыяналізму.

Усе гэтыя прычыны і зрабілі тое, што Беларусь, асабліва сялянская, заставалася няпісьменнай, някультурнай. Нават тыя адзінкі, якім удавалася тым ці іншым спосабам атрымаць асьвету, ня мелі ўплываў на шырокія масы рабочых і сялян з тэй прычыны, што або яны зусім адрываліся ад народных мас і разам «з какардамі, зьвёздачкамі, чынамі і ордэнамі» пераймалі ўсе адзнакі і асаблівасьці расійскага чыноўніка, уваходзячы ў шэрагі расійскіх чыноўнікаў, або царызм сам адрываў іх ад працоўных мас і высылаў у «места отдаленные», калі яны хацелі шчыра працаваць на карысьць народу. Так было, напрыклад, з настаўніцкім Саюзам у 1905 годзе.

Усё гэта мела сваім вынікам тое, што расійскія культурныя ўплывы мелі больш-менш вялікае значэньне ў горадзе, але толькі павярхоўна закранулі вёску. Вёска, яе жыхар-селянін, жыў сваім асобным жыцьцём, захоўваў свой асобны быт, захаваў і сваю мову.

Беларуская жанчына захавала некранутай беларускую мову, і цяпер яшчэ той, хто хоча научыцца, якой мовай трэба гаварыць з народам, з селянінам, дык няхай часьцей заглядвае на вёску і вучыцца прыгожай, мілагучнай, жывой беларускай мове ў беларускай жанчыны. Уплывы жанчыны з боку мовы маюць рашучае значэньне на дзяцей і на дарослых. Дзеці гавораць на матчынай мове. Дарослы мужчына, прыехаўшы з гораду, дзе ён навучаўся гарадзкой мове, праз тыдзень-другі ізноў пачынае гаварыць на матчынай мове.

Вельмі цікава тое, што ў рашучыя гістарычныя моманты буржуазія ўсіх нацыянальнасьцяй, а ў тым ліку і расійская, прызнавала існаваньне беларускай мовы і пачынала зварачацца да сялян пабеларуску. Так, у 1812 годзе і французскае камандаваньне, і расійскі ўрад пісалі адозвы да беларускіх сялян пабеларуску, каб гэтым лепш схіліць сялян на свой бок.

Тое самае было ў часы паўстаньня 1831, 1863 гадоў. У 1905 годзе расійскія ўрадовыя ўстановы выдалі шэраг кніг, адозваў і інш. на беларускай мове.

Але ўсё гэта рабілася толькі ў мінуты небясьпекі для ўлады. Бяда праходзіла, і ўсё ізноў пачыналася пастараму...

Цяжкую спадчыну пакінуў на Беларусі царызм.

Вось чаму Комуністычная партыя патрабуе «рашучых мерапрыемстваў, каб хутчэй падняць культурнасьць краіны, дапамагчы адраджэньню і разьвіцьцю беларускай культуры».

Галоўным пытаньнем у справе культурнага будаўніцтва зьяўляецца зьнішчэньне няпісьменнасьці. Дзеля гэтага з кожным годам павялічваецца лік школ для дзяцей. Калі ў даваенныя часы ў школах вучылася толькі 38 проц. усіх дзяцей, дык цяпер школы ахопліваюць 68 проц. дзяцей узростам ад 8 да 11 гадоў. Паводле пляну, зацьверджанага ўрадам, няпісьменнасьць будзе канчаткова зьліквідавана праз 10 год, пачынаючы з 1920 году. Цяпер працуе школ сямігодак—237, чатырохгадовых—4.042 і пунктаў па зьнішчэньні няпісьменнасьці—584. Усіх настаўнікаў налічваецца—8.630 чал., вучняў—352.000 чалавек. Побач з гэтым ідзе шырокая праца па зьнішчэньні няпісьменнасьці сярод дарослых.

Сетка політыка-асьветных установ у 1925-26 г., якія ўтрымліваюцца бюджэтам, наступная: бібліотэк—38, клюбаў—51, народных дамоў—95, хат-чытальнень—271, пунктаў па ліквідацыі няпісьменнасьці—554, вячэрніх школ для дарос-

лых—21, вячэрніх школ для рабочай моладзі—14, савецкіх партыйных—2, дамоў селяніна—12.

Профэсыянальна-тэхнічная асьвета ўзьнікла толькі пры Савецкай уладзе, апрача пэдагогічнай. Цяпер з профэсыянальна-тэхнічных школ існуе: пэдагогічных тэхнікумаў—10, сельска-гаспадарчых—6, мэдычных—2, коопэрацыйных—1, індустрыяльных (прамысловых)—2, музычных—1 і мастацкіх—1. Профэсыянальна-тэхнічных школ—24, сельска-гаспадарчых школ—5, школ фабзавучу—3, трохмесячных сельска-гаспадарчых курсаў—10, навучальных майстэрань—7.

Вялікай заваёвай Кастрычнікавай рэволюцыі трэба лічыць утварэньне ў Беларусі 4-х вышэйшых школ: Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту ў Менску, Комуністычнага Унівэрсытэту ў Менску, Беларускай Сельска-Гаспадарчай Акадэміі ў Горках і Беларускага Вэтэрынарнага Інстытуту ў Віцебску. Ва ўсіх гэтых установах у 1925-26 годзе было 4.251 студэнт.

Вядома, што справа культурнага будаўніцтва не абмяжоўваецца толькі асьветнымі ўстановамі. Культурнае будаўніцтва абнімае сабою ўсё жыцьцё, ва ўсіх яго праявах і таму павінна разумецца ня толькі як організацыя асьветных установ, але як вынік усяго соцыялістычнага будаўніцтва. Выходзячы з гэтага, мы зразумеем, што тэмп культурнага росту Беларусі ідзе ўперад значна хутчэй, як гэта можна было-б думаць па ліку асьветных установ. Расьце політычная сьвядомасьць насельніцтва, рабочых і сялян, бо яны прымаюць шырокі ўдзел у соцыялістычным будаўніцтве, Саветы—ёсьць кузьня політычнай сьвядомасьці рабочых і сялян.

Газэта шырака распаўсюджваецца па гарадох ды па вёсках і таксама спрыяе культурна-політычнаму росту. Паводле падлікаў, у Беларусі 1 газэта прыпадае на 25,7 чалавек.

Шырокая сетка дзяржаўных і грамадзкіх організацый, як Чырвоная армія, профсаюзы, Комсамол, Камітэты Ўзаемадапамогі, «Прэч няпісьменнасьць», сябры дзяцей, Авіахім, сельска-гаспадарчыя гурткі, шэфствы, дэлегацкія сходы жанчын, піонэры і іншае,—усё гэта таксама служыць культурнаму росту.

Мы зьяўляемся сьведкамі і ўдзельнікамі таго, як, разам з экономічным ростам, разам з умацаваньнем і разьвіцьцём соцыялістычнай гаспадаркі, нараджаецца, умацоўваецца і расьце соцыялістычная культура, падымаецца ў шырокім сэнсе слова культурнасьць краіны.

Спрыяючай умовай пасьпешнаму культурнаму будаўніцтву зьяўляецца тое, што культурнае будаўніцтва, атрымаўшы, адпаведна агульнаму будаўніцтву, соцыялістычны зьмест і кірунак, набыло ў той-жа час нацыянальную форму, форму культурнага жыцьця большасьці насельніцтва Беларусі.

Чаму наогул узьнікла патрэба адраджэньня і разьвіцьця беларускае культуры? Ці ня можна было-б абыйсьціся рускай формай культуры?

Гэта пытаньне зусім вычарпаў т. Сталін на X зьезьдзе РКП(б). Ён кажа: «Тут я маю запіску аб тым, што мы, комуністыя, быццам насаджаем беларускую нацыянальнасьць штучна. Гэта няправільна, таму што існуе беларуская нацыянальнасьць, у якой ёсьць свой язык (мова), іншы, чым рускі, дзеля чаго падняць культуру беларускага народу можна толькі на роднай яго мове. Такія-ж прамовы раздаваліся год пяць таму назад аб Украіне, аб украінскай нацыянальнасьці. А нядаўна яшчэ гаварылася, што украінская рэспубліка і украінская нацыянальнасьць—выдумка немцаў. Тымчасам, ясна, што украінская нацыянальнасьць існуе, і разьвіцьцё яе культуры ёсьць абавязак комуністых. Ясна, што калі ў гарадох Украіны дагэтуль яшчэ ў большасьці рускія элемэнты, дык з часам гэтыя гарады будуць няўхільна украінізаваны. Гадоў 40 таму назад Рыга была чыста нямецкім горадам, але таму, што гарады растуць за кошт вёскі, а вёска зьяўляецца перахавальнікам нацыянальнасьці, дык цяпер Рыга чыста латыскі горад. Гадоў 50 таму назад усе гарады Вэнгрыі мелі нямецкі характар, цяпер яны мадʼярызаваны.

Тое-ж самае будзе з Беларусьсю, у гарадох якой усё яшчэ пераважаюць небеларусы».

X зьезд Расійскай Комуністычнай партыі, прыняўшы сваю пастанову па нацыянальным пытаньні, гэтым самым падмацаваў словы т. Сталіна, што «падняць культуру беларускага народу можна толькі на роднай яго мове». Комуністычная партыя Беларусі, Савецкі ўрад Беларусі, выходзячы з такога правільнага разуменьня задач культурнага будаўніцтва, вялі сваю працу па шляху адраджэньня ды разьвіцьця беларускае культуры.

У гэтым кірунку ёсьць шэраг дасягненьняў.

Праца дзяржаўных установ паступова і няўхільна пераводзіцца на беларускую мову. Установа павінна працаваць на мове насельніцтва, каб лепей яго абслугоўваць,—вось што паложана ў аснову пераводу ўстаноў на беларускую мову. «Не народ для ўстановы, але ўстанова для народу».

Ідзе шпаркая праца па пераводу асьветных установ на беларускую мову.

Наогул прымаецца шэраг мерапрыемстваў у Чырвонай арміі, професыянальных саюзах ды інш. арганізацыях, каб забясьпечыць найбольш пасьпешнае разьвязаньне задачы разьвіцьця беларускай культуры.

Падамо лічбы для большага высьвятленьня гэтага пытаньня.

У 1925-26 годзе выкладаньне ў 4-гадовых школах пераведзена на беларускую мову, у сямігадовых школах першыя тры гады таксама цалкам пераведзены на беларускую мову, апошнія клясы—на 40 проц.

Цалкам ідзе на беларускай мове выхаваньне ў дзіцячых дамох і садох.

З 11 школ сялянскай моладзі ў 5 выкладаньне пераведзена цалкам на беларускую мову.

Школа забясьпечана падручнікамі. Блізка што ўсе патрэбныя для 4-гадовых і 7-гадовых школ падручнікі ўжо выданы.

Лік беларускіх школ павялічыўся. У 1924-25 годзе іх было 3.934, у 1925-26 годзе—4.279.

Беларусізацыя праводзіцца па ўсёй сыстэме асьветных установ: у тэхнікумах, клюбах, тэатрах, хатах-чытальнях і г. д.

Паступова, праўда больш ціха, але няўхільна ідзе беларусізацыя вышэйшых асьветных установ.

Значнай перашкодай зьяўляецца брак літаратуры, настаўнікаў і наогул інтэлігенцыі, якая-б ведала мову.

Але значнасьць дасягненьняў будзе зразумелай, калі мы скажам, што беларуская граматыка была ўкладзена толькі ў 1917 годзе і што праца па адчыненьні новых асьветных установ ідзе поруч з утварэньнем і друкаваньнем патрэбных падручнікаў, літаратуры, з падрыхтоўкай працаўнікоў.

Надзвычай важную ролю ў такім выпадку набывае выдавецкая праца. І тут ідзе паступовае разьвіцьцё працы.

З 1-га кастрычніка 1922 году па 1-е кастрычніка 1926 году выдана на беларускай мове кніг 306 назваў, на 3.137 друкаваных аркушоў, звыш 2.700.000 экзэмпляраў. Газэты як цэнтральныя, так і акруговыя або цалкам, або часткай пераведзены на беларускую мову.

Беларусізацыя ўстаноў лепш за ўсё відаць з наступнай табліцы:

На 1-ае лютага 1927 году.

| НАЗВА УСТАНОВЫ | На колькі %% беларусізавана |
|---|---|
| Апарат ЦВК | 100 |
| „ СНК | 100 |
| „ Наркамасьветы | 100 |
| „ Наркамзем | 50 |
| „ Нар. Кам. Унутр. Спраў | 30 |
| „ Нар. Кам. Соц. Забясьп. | 30 |
| Усе іншыя таксама ад 30 да 50% | |
| Профэсыянальныя саюзы: | |
| Асьветы | 100 |
| Зямлі і лесу | 75 |
| Сав. і гандлёвых служач. | 50 г. д. |

У акруговых, раённых і сельскіх установах ідзе таксама досыць вялікая праца ў гэтым кірунку.

Нацыянальны склад выбарных Савецкіх устаноў у 1925-26 годзе быў наступны:

Сяброў раённых выканаўчых камітэтаў: беларусаў—78,3 проц., яўрэяў—8,3 проц., палякаў—2,6 проц., вялікарусаў—6,4 проц. і іншых—4,8 проц.

Сяброў сельсаветаў: беларусаў—92,3 проц., яўрэяў—2,3 проц., палякаў—2,4 проц., вялікарусаў—1,5 проц., інш.—1,5 проц.

Сяброў гарадзкіх Саветаў: беларусаў—52 проц., яўрэяў—30 проц., палякаў—2,3 проц., вялікарусаў—12 проц., інш.—4 проц.

Сяброў местачковых саветаў: беларусаў—52,9 проц., яўрэяў—41,9 проц., палякаў—2,1 проц., вялікарусаў—2,6 проц., інш.—1,2 проц.

Вялікая работа праводзіцца ў Чырвонай арміі. Заснавана аб'яднаная Беларуская школа камандзіраў сярэдняга складу, у задачы якой уваходзіць падрыхтоўка камандзіраў для беларускіх войск. Адна пяхотная дывізія, блізка цалкам, праводзіць сваю палітычную, а часткай і спэцыяльна вайсковую працу на беларускай мове. Друкуюцца статуты, падручнікі на беларускай мове.

Канчатковым заканчэньнем і замацаваньнем усіх мерапрыемстваў па адраджэньні і разьвіцьці беларускай культуры трэба лічыць заснаваньне Інстытуту Беларускай Культуры, або будучай Беларускай Акадэміі Навук.

Посьпехі Савецкай Беларусі ў галіне культурнай працы наогул і ў справе адраджэньня ды разьвіцьця беларускай культуры вырысоўваюцца асабліва ярка на фоне заняпаду, прыгнечаньня і зьдзекаў над беларускай мовай, беларускай культурай у Заходняй Беларусі з боку Польшчы. Там для беларускага народу нічога не зьмянілася ў параўнаньні з былым царскім панаваньнем. Розьніца толькі тая, што раней зьдзекваўся губарнатар, а цяпер ваявода, раней беларускае насельніцтва імкнуліся зрусыфікаваць, а цяпер пахваляюцца сполёнізаваць, раней прышчаплялі «рускі язык», а цяпер—«польскую мову». Там барацьба за школу на роднай мове, за мову ў урадовых установах пакуль вынікаў не дае і выклікае толькі новыя кары з боку адміністрацыі, якая ў кожным барацьбіце за беларускую культуру бачыць бальшавіка. Тым большае значэньне мае праца Савецкай Беларусі ў галіне культуры, бо яна на справе паказвае нават ворагам соцыялістычнай рэволюцыі, што толькі Кастрычнік вырашае да канца нацыянальнае пытаньне.

Канечнасьць уважных адносін да матар'яльнага і культурнага стану нацыянальных меншасьцяй Беларусі, каб зьнішчыць адрозьненасьць і варожасьць між працоўнымі розных народнасьцяй і дапамагчы большаму аб'яднаньню іх для да-

лейшай рэволюцыйнай барацьбы, заўжды мелася на ўвазе Савецкім урадам.

Прынцыповае выращэньне пытаньня аб нацыянальных меншасьцях мы знаходзім у шэрагу пастаноў Комуністычнай партыі, якая ўвесь час надавала гэтаму пытаньню важнае значэньне.

*У «Рэзолюцыях да нацыянальнага пытаньня», прынятай Усерасійскай Конфэрэнцыяй РС-ДРП (бальшавікоў) 24-29 красавіка 1917 году, гаворыцца: «Партыя патрабуе ўвядзеньня ў Конституцыю асноўнага закону, якім абвяшчаюцца нядзейнымі ўсялякія прывілеі аднае з нацый і ўсялякія нарушэньні праў нацыянальных меншасьцяй».*

Комуністычная партыя ставіць востра пытаньне аб тым, што трэба зьнішчаць прывілеі аднэй нацыі, што ня можа быць дзяржаўнай і недзяржаўнай нацыі, што законам павінна быць забясьпечана роўнасьць усіх нацый у дзяржаўным жыцьці. З часам гэта думка паступова тлумачыцца ўсё больш практычна і падрабязна. Так X-ты Зьезд Комуністычнай партыі (бальшавікоў) у 1921 г. адносна нацыянальных меншасьцяй прыняў такую пастанову:

«Апрача пералічаных вышэй нацый і народаў, якія маюць сталую клясавую пабудову ды займаюць сталую тэрыторыю..., існуюць яшчэ паасобныя плыўкія нацыянальныя групы, нацыянальныя меншасьці, «вкрапленные в национальные компактные большинства» і ў большасьці выпадкаў ня маючыя пэўнай тэрыторыі (латышы, эстонцы, палякі, яўрэі ды *інш.*). Політыка царызму кіравалася на тое, каб зьвесьці *на няма што* гэтыя меншасьці ўсімі сродкамі, аж да пагромаў (яўрэйскія пагромы).

Цяпер, калі нацыянальныя прывілеі скасаваны, роўнасьць нацыянальнасьцяй ажыцьцёўлена, а права нацыянальных меншасьцяй на вольнае нацыянальнае разьвіцьцё забясьпечана самым характарам Савецкага ладу, задача партыі ў стасунку да працоўных мас гэтых нацыянальных груп у тым, каб дапамагчы ім цалкам выкарыстаць гэта забясьпечанае за імі права вольнага разьвіцьця».

Гэта пастанова прымалася ў 1921 годзе, г. зн. больш як 3 гады пасьля Кастрычнікавай рэволюцыі і непасрэдна пасьля скончэньня вайны ды пераходу да мірнага соцыялістычнага будаўніцтва. Калі ў 1917 годзе пастанова партыі дэкляравала права ўсіх нацый на роўнасьць, дэкляравала скасаваньне ўсіх і ўсялякіх прывілеяў, дык у 1921 годзе партыя падышла да канечнасьці практычна вырашыць тое, што было дэкляравана

і што мусіць забясьпечыць збліжэньне працоўных усіх нацыянальнасьцяй для далейшай рэволюцыйнай барацьбы. Вось чаму пастанова X зьезду і кажа, што мала дэкляраваць роўнасьць *нацыянальных меншасьцяй*, памылкова думаць, што калі ўсталяваўся Савецкі лад, дык усё ўжо зроблена ці само сабою неяк зробіцца для зьнішчэньня нацыянальнай няроўнасьці: партыя лічыць, што яе задача ў тым, каб дапамагчы (нацыянальным меншасьцям) цалкам выкарыстаць забясьпечаньне за імі права вольнага разьвіцьця. Другімі словамі, партыя лічыць за свой абавязак узяць на сябе адказнасьць за стварэньне ўмоў, якія-б забясьпечылі нацыянальным меншасьцям магчымасьць карыстацца заваёвамі рэволюцыі і павесьці рашучую барацьбу супраць усяго таго, што будзе перашкаджаць такому вырашэньню гэтага пытаньня. На XII Зьезьдзе Комуністычнай партыі (бальшавікоў) ізноў абгаварваецца пытаньне аб нацыянальных меншасьцях у сувязі з агульнай пастаноўкай нацпытаньня.

Рэзолюцыя XII Зьезду кажа: «... у некаторых рэспубліках, маючы у сваім складзе некалькі нацыянальнасьцяй, гэты абаронны (ад вялікарасійскага шовінізму. А. Ч.) нацыяналізм пераходзіць часта ў нацыяналізм зачэпны, у зацяты шовінізм больш моцнай нацыянальнасьці, накіраваны супраць слабых нацыянальнасьцяй гэтых рэспублік...

...Няма чаго й казаць, што ўсе гэтыя зьявы прыпыняюць справу фактычнага аб'яднаньня народаў у адзін дзяржаўны саюз...

...Паколькі-ж гэтыя перажыткі пераходзяць у мясцовы шовінізм у паасобных рэспубліках,—беспасрэдная барацьба з імі зьяўляецца абавязкам членаў партыі».

XII Зьезд, як бачым, ня толькі пацьвердзіў усе ранейшыя пастановы адносна нацыянальных меншасьцяй, але разам з гэтым выкрыў хваробу мясцовага шовінізму, якая к гэтаму часу вызначалася досыць востра ў розных рэспубліках і якая пачала пагражаць зрывам політыкі партыі па гэтым пытаньні. Мясцовы шовінізм зараджаецца на падставе існаваньня ў гаспадарчым жыцьці Савецкіх Рэспублік прыватна-ўласьніцкіх элемэнтаў. «Мясцовы шовінізм і нацыянальная барацьба будуць існаваць датуль, пакуль сялянства (і наогул дробная буржуазія), поўнае нацыянальных забабонаў, ідзе за буржуазіяй, і, наадварот, нацыянальны супакой і нацыянальн. свабоду можна лічыць забясьпечанымі, калі сялянства ідзе за пролетарыятам, г. зн., калі забясьпечана дыктатура пролетарыяту». Мы маем у сучасны момант тую асаблівасьць у нашым эко-

номічным жыцьці, што, побач з умацаваньнем і разьвіцьцём соцыялістычных элемэнтаў гаспадаркі, існуюць паранейшаму і капіталістычныя элемэнты, паміж якімі ідзе нясупынная барацьба. У экономічным жыцьці гэта барацьба ідзе за ўплывы на сялянскую гаспадарку. Галоўная барацьба паміж соцыялістычнымі і капіталістычнымі элемэнтамі ідзе за сялянства, за яго асноўную масу—сераднякоў. Пролетарыят захоўвае свае ўплывы на бяднейшае і сярэдняе сялянства. Але больш заможная частка сялянства гатова пайсьці за буржуазіяй, супраць социяльнай рэволюцыі, і вось гэтыя настроі больш заможнай часткі сялянства набываюць форму зачэпнага нацыяналізму, ідуць па шляху прыгнечаньня слабейшых нацыянальнасьцяй і барацьбы за першынства больш дужай нацыянальнасьці.

Настроі зачэпнага нацыяналізму зьяўляюцца варожымі Савецкай уладзе, дыктатуры пролетарыяту, Пролетарскай рэволюцыі. Вось чаму супраць гэтых настрояў і практычнага іх выяўленьня трэба весьці рашучую барацьбу.

XII Зьезд партыі меў ужо прыклады зачэпнага нацыяналізму і строга зганіў іх, пацьвердзіўшы канечнасьць нацыянальнай роўнасьці, забясьпечаньня праў нацыянальных меншасьцяй.

Як-жа гэта пытаньне вырашаецца ў Беларусі?

З першых-жа дзён усталяваньня ў Беларусі Савецкае ўлады, Комуністычная партыя пачала дамагацца практычнага забясьпечаньня роўных праў для ўсіх нацыянальнасьцяй Беларусі. Рабочыя і сяляне Беларусі ўсіх нацыянальнасьцяй ішлі разам на барацьбу супраць царызму пад сьцягамі Компартыі.

«Таварышы, браты, рабочыя, бедныя сяляне і чырвонаармейцы Беларусі!»—клікаў маніфэст Часовага Рабоча-Сялянскага Савецкага Ўраду Беларусі.—«Да змогі! Да змогі! Да змогі!» ня было ў барацьбе супраць *«паганага панства памешчыкаў, фабрыкантаў, ксяндзоў і папоў»* розьніцы між працоўнымі розных нацыянальнасьцяй. Яшчэ больш выразна гаворыць аб гэтым «дэклярацыя аб абвяшчэньні незалежнасьці Савецкай Социялістычнай Рэспублікі Беларусі», выданая рэволюцыйнымі організацыямі Беларусі ў жніўні 1920 г. пасьля вызваленьня Беларусі ад белапалякаў. «Многапакутная, змучаная *Беларусь, краіна беларускіх, расійскіх, польскіх і жыдоўскіх рабочых ды сялян*, пры дапамозе героічнай Расійскай Рабоча-Сялянскай Чырвонай арміі, канчае справу свайго вызваленьня»,—гаворыць дэклярацыя. Беларусь, такім чынам, пры-

знаецца за бацькаўшчыну рабочых і сялян ня толькі беларусаў, але і ўсіх нацыянальнасьцяй, якія жывуць у Беларусі.

«Соцыялістычная Савецкая Рэспубліка Беларусі»,—кажа далей дэклярацыя,—«будзе будаваць сваё жыцьцё на асновах прыцягненьня да савецкага будаўніцтва самых шырокіх працоўных мас, незалежна ад таго, да якой нацыянальнасьці і вызнаньня яны належаць». Дэклярацыя агалашае таксама практычную пастанову аб роўнаправнасьці моў, якая сьведчыць аб тым, што ўсе рэволюцыйныя організацыі з Комуністычнай партыяй на чале адразу ставяць справу на цьвёрды грунт.

«Абвяшчаецца»,—кажа дэклярацыя,—«поўная роўнаправнасьць моў (беларускае, расійскае, польскае, жыдоўскае) у зносінах з дзяржаўнымі ўстановамі і ў організацыях ды ўстановах народнае асьветы і соцыялістычнае культуры».

Усе далейшыя пастановы Комуністычнай партыі і Савецкага ўраду сьцьвярджаюць гэтыя дэклярацыі, робяць пастановы, якія практычна і больш дэтальна абгаварваюць гэтае пытаньне, разглядаюць перашкоды, высьвятляюць шляхі ды мерапрыемствы для забясьпечаньня фактычнае магчымасьці працоўным усіх нацыянальнасьцяй карыстацца заваёвамі рэволюцыі.

Так, 2 Сэсія ЦВК Беларусі ў лютым 1921 году пастанаўляе: «Пацьвярджаючы дэкрэт Савету Народных Камісараў Літбел ад 1919 г. а поўнай роўнаправнасьці ўсіх мясцовых моў, якімі ў межах БССР прызнаюцца мовы: беларуская, расійская, жыдоўская і польская, цалкам прымаючы законадаўства РСФСР па пытаньнях асьветы нацыянальных меншасьцяй і ўхваляючы політыку Народнага Камісарыяту Асьветы Беларусі, накірованую да сапраўднага наданьня ўсім нацыянальнасьцям рэспублікі магчымасьці атрымаць асьвету і выхаваньне ды разьвіваць сваю культуру на роднай мове, бяз жаднага прымусу вучыцца на чужых ім мовах»... і г. д.

Гэтая-ж пастанова ставіць практычнае пытаньне аб выдавецтве, аб падрыхтоўцы настаўнікаў, аб падтрыманьні літаратараў і вучаных, што працуюць на мясцовых мовах Беларусі.

XII Зьезд (конфэрэнцыя) Комуністычнай партыі Беларусі ў рэзолюцыі па нацпытаньні прымае асобны пункт 4, які кажа: «Асабліва ўважна партыя павінна глядзець за тым, каб разьвіваліся школы, друк, тэатры, клюбы і культурна-асьвет-

ныя ўстановы наогул у роднай мове (беларускай, жыдоўскай, расійскай, польскай)».

VI Ўсебеларускі Надзвычайны Зьезд Саветаў таксама зварачвае ўвагу на гэта пытаньне: «Трэба»,—*кажа пастанова*,—«падкрэсьліць станоўнасьць Савецкай улады ў няўхільным ажыцьцяўленьні ідэі роднае мовы ў школах; каб ухіліцца якіх-колечы плявузганьняў, трэба пацьвердзіць пры гэтым папярэднія пастановы а роўнапраўнасьці мясцовых моў (беларускае, жыдоўскае, польскае і расійскае) і канечнасьць дапасаваньня савецкага апарату да абслугоўваньня рабоча-сялянскай насельнасьці ў роднай мове». (1924 г.).

*Больш практычна распрацавала гэта пытаньне* 2-ая Сэсія ЦВК Беларусі VI скліканьня.

Яна зноў пацьвердзіла роўнапраўнасьць моў.

«Кожнаму грамадзяніну»,—кажа пастанова сэсіі,—«да якой-бы нацыянальнасьці ён ні належыў, забясьпечваецца права і рэальная магчымасьць карыстаньня сваёю роднаю моваю ў зносінах з рознымі органамі ды ўстановамі Рэспублікі і ў зносінах з ім пры яго зварачэньні ў гэтыя органы».

Далейшыя *пункты гэтай пастановы вырашаюць*, як на справе ў жыцьці будзе забясьпечвацца права роўнасьці моў.

Такім чынам, адносіны да нацыянальных меншасьцяй у Беларусі адразу вызначыліся ясныя і цьвёрдыя.

Як бачым, усе пастановы і мерапрыемствы Комуністычнае партыі ды Савецкай ўлады ў першыя гады былі накіраваны, у першую чаргу, у бок забясьпечаньня роднае мовы ў школах і дзяржаўных установах. Гэта рэч зразумелая. Абставіны папярэдняга гістарычнага разьвіцьця Беларусі паставілі мясцовыя мовы (беларускую, польскую, яўрэйскую) у стан няроўнапраўных, няпрызнаных, перасьледваных. Гэтыя адносіны вельмі моцна ўкараніліся ў галовах расійскіх шовіністычных элемэнтаў. Увядзеньне ды замацаваньне роднай мовы ў школе, а тым больш у дзяржаўным апараце, сустракала неспачуваньне, а часта і варожасьць з боку часткі настаўнікаў і былых чыноўнікаў, якія перайшлі ў Савецкі апарат. Трэба было частку такіх людзей пераканаць у канечнасьці фактычнага ажыцьцяўленьня роўнапраўнасьці мовы ў школе і ў установах, частку прымусіць больш рашучымі мерамі. І гэта рабілася на працягу ўсяго часу.

Але ў сувязі з разьвіцьцём гаспадарчага будаўніцтва Беларусі перад Комуністычнаю партыяй паўстала другое, яшчэ больш важнае пытаньне—гэта пытаньне аб тым, каб даць магчымасьць працоўным усіх нацыянальнасьцяй карыстацца

заваёвамі рэволюцыі для палепшаньня свайго матар'яльнага стану, каб дапамагчы ўсім нацыянальным меншасьцям падняць свой матэр'яльный і культурны стан і прыняць удзел у працы па экономічным і культурным адраджэньні Беларусі.

Асаблівае значэньне з гэтага погляду мае пастанова Пленуму Цэнтральнага Камітэту Компартыі (б) Беларусі ад 25-29 студзеня 1925 году.

На гэтым Пленуме было падкрэсьлена, што сэнс нацыянальнага пытаньня ня можна скіроўваць толькі да пытаньня мовы і культуры, але трэба разумець, як задачу: а) экономічнага разьвіцьця Беларусі, б) культурнага разьвіцьця і адраджэньня беларускае культуры і в) зьнішчэньня міжнацыянальных супярэчнасьцяй. На гэтым-жа Пленуме было больш выразна і практычна, больш глыбака пастаўлена пытаньне аб нацыянальных меншасьцях.

«Пры вызначэньні»,—сказана ў рэволюцыі Пленуму,—«задач нацыянальнае політыкі сярод нацыянальных меншасьцяй, КП(б)Б павінна прыняць пад увагу ўсе асаблівасьці гаспадарчага і політычнага стану гэтых груп.

Задачы працы КП(б)Б сярод насельніцтва гэтых нацыянальнасьцяй павінны быць вызначаны ў тым кірунку, каб наладзіць цеснае зблізкэньне працоўных гэтых нацыянальнасьцяй з беларускім сялянствам, «зблізіць» горад і вёску Беларусі, сьцерці ўсю нацыянальную варожасьць, усе нацыянальнасьці ўцягнуць у працу над экономічным і політычным адраджэньнем БССР».

Далей рэзолюцыя пералічае тыя гаспадарчыя і культурныя практычныя мерапрыемствы, якія трэба ажыцьцёвіць, каб вырашыць пастаўленую задачу.

З гэтага Пленуму ЦК КПБ заўважаецца значны паварот працы ўсіх установ Беларусі ў бок больш усебаковага абслугоўваньня нацыянальных меншасьцяй Беларусі.

Усе наступныя пастановы партыі і Савецкай улады маюць значэньне або праверкі таго, што зроблена, або больш дэтальнага пералічэньня канечна патрэбных мерапрыемстваў.

Падамо лічбы і факты, якія сьведчаць аб практычным ажыцьцяўленьні прынцыпова-правільных пастаноў партыі і Савецкае ўлады адносна нацыянальных меншасьцяй. Праца ў гэтай галіне накіроўваецца па трох галоўных кірунках: а) культурнае абслугоўваньне, б) савецкае будаўніцтва, в) асобныя гаспадарчыя мерапрыемствы.

1. Культурнае абслугоўваньне. Яўрэі. У 1925-26 годзе існавала 176 яўрэйскіх школ з лікам вучняў звыш 22.500. Такім чынам, яўрэйскімі школамі ахоплівалася 45 проц. дзяцей, а рэшта былі ў беларускіх або рускіх школах. Усе 63 школы рабочай моладзі пераведзены на дзяржаўны бюджэт. Умацованы матар'яльна Пэдагогічны Тэхнікум. Скончана організацыя яўрэйскага аддзяленьня ў Беларускім Дзяржаўным Унівэрсытэце. Вырашана пытаньне аб організацыі яўрэйскай катэдры пры Горацкай Сельска-Гаспадарчай Акадэміі. Шырокую працу разьвінуў яўрэйскі аддзел Інстытуту Беларускай Культуры, які падзяліўся на сэкцыі: 1) яўрэйскай мовы, 2) літаратуры і мастацтва і 3) гісторыі; аддзел залажыў Камісіі: а) Слоўніку яўрэйскай жывой мовы, б) яўрэйскай мовы, в) літаратурную, г) па вывучэньні рэволюцыйнага работніцкага руху сярод яўрэяў, д) гістарычную.

У 1926 годзе пачало працу пасьля пяцігадовай навукі ў Маскве яўрэйскае аддзяленьне Беларускага Акадэмічнага Тэатру.

Выданьне яўрэйскіх кніг, часопісаў, газэт займае значнае месца ў агульнай выдавецкай працы Беларусі. Так, з 1-га кастрычніка 1922 году па 1-е кастрычніка 1926 году Дзяржаўным Выдавецтвам выдана 29 назваў кніг, на 202 друкаваныя аркушы, што дае 7 проц. усіх выданьняў. У друку знаходзіцца 35 назваў.

Палякі. Польскімі школамі ахоплена звыш 38 проц. дзяцей, а рэшта вучыцца ў няпольскіх школах. Пры польскіх школах організаваны курсы (лікпункты) для дарослых, праз якія прайшло каля 1.000 чалавек няпісьменных. Ідзе рост культасьветных устаноў: хат-чытален, чырвоных кутkoў. Выдаецца сялянскі часопіс «Орка» і комсамольская газэта «Гвязда млодзежы». Лік настаўнікаў з кожным годам павялічаецца праз Пэдагогічны Тэхнікум. Сярод рабочых і сялян палякаў праводзіцца шырокая палітычная праца на польскай мове, для чаго склікаюцца зьезды, конфэрэнцыі, мітынгі, сходы, гутаркі. Польскі аддзел Інстытуту Беларускае Культуры вядзе значную навуковую працу ў Камісіях: а) польскае мовы і літаратуры, б) этнографіі, в) гісторыі. Камісіяй мовы і літаратуры апрацоўваецца польска-беларускі і беларуска-польскі слоўнік (па 60.000 слоў у кожнай частцы). Выданьні на польскай мове за тэрмін з 1-га кастрычніка 1922 году па 1-е кастрычніка 1926 г. складаюць 4,2 проц. ад

агульнага ліку выданых кніг. У сучасны момант знаходзіцца ў друку 24 назвы.

Латышы. Латыскіх школ існуе 17 і яны абслугоўваюць 35 проц. дзяцей школьнага ўзросту. 55 проц. дзяцей ходзяць у беларускія школы і рэшта школай не ахоплена. Значна пашыраецца сетка палітасьветных установ пры ўдзеле самога насельніцтва. З'арганізавана 12 сельска-гаспадарчых гурткоў. Пры Інстытуце Беларускае Культуры арганізуецца латыскі аддзел, латышоў усіх налічаецца каля 15.000 чалавек.

У сучасны момант ставіцца праца сярод ліцьвіноў.

Наладжана абслугоўваньне немцаў, эстонцаў, для якіх таксама адчынены школы.

2. Савецкае будаўніцтва. У гэтай галіне мерапрыемствы былі накіраваны на тое, каб з аднаго боку, прыстасаваць савецкі апарат да абслугоўваньня нацыянальных меншасьцяй, а з другога—уцягнуць рабочых ды сялян усіх нацыянальнасьцяй у дзяржаўнае будаўніцтва.

Першая задача—прыстасаваньне савецкага апарату—забясьпечваецца абавязкам усіх установ Беларусі падбіраць такі склад супрацоўнікаў, каб сярод іх былі добра ведаючыя мясцовыя мовы. Кожны адказны супрацоўнік Беларусі павінен ведаць ня менш як 3 мясцовыя мовы. У Савецкай установе, на сходзе, на зьезьдзе, у професыянальных саюзах кожны грамадзянін мае права ўжываць сваю родную мову, а ўрадовыя ўстановы павінны забясьпечыць магчымасьць тлумачэньня, калі гэта будзе патрэбна. Там, дзе нацыянальныя меншасьці жывуць значным лікам, уся праца савецкіх ды іншых установ пераводзіцца на родную мову. Калі агульны парадак стварэньня сельскіх саветаў грунтуецца на тым, што сельскі савет яднае ня менш 2.000 жыхароў, дык для нацыянальных меншасьцяй гэта норма зьніжаецца да 500, а то і ніжэй.

Другая задача—уцягваньне ў агульную працу соцыялістычнага будаўніцтва рабочых і сялян усіх нацыянальнасьцяй—мае сваё мэтай канчатковае зьнішчэньне нацыянальнай адарванасьці, недавер'я шляхам супольнага ўдзелу ў кіраваньні дзяржавай.

У вырашэньні гэтых задач Беларусь мае наступныя дасягненьні.

Яўрэі. Організавана 18 сельскіх яўрэйскіх саветаў, з'організаваны і працуюць 5 яўрэйскіх судовых вучасткаў. У складзе райвыканкомаў яўрэяў налічаецца 8,3 проц., чле-

наў сельсаветаў—2,3 проц., членаў гарадзкіх саветаў—30 проц., местачковых саветаў—41,9 проц. Яўрэі складаюць 28 проц. сяброў профэсыянальных саюзаў. У кіруючых органах саюзаў яўрэі складаюць: у цэнтральных управах—36,5 проц., у акруговых аддзелах—40,1 проц., у фабрычна-заводзкіх камітэтах—33,6 проц.

Палякі. Працуе 14 польскіх сельсаветаў, з'арганізавана 3 польскія судовыя вучасткі. У выбарных савецкіх органах палякі складаюць: сяброў сельсаветаў—2,4 проц., сяброў Райвыканкомаў—2,6 проц., сяброў гарадзкіх саветаў—2 проц., местачковых саветаў—2,1 проц.

У агульным складзе сяброў профсаюзаў палякі складаюць 3,9 проц. У выбарных профэсыянальных органах: у ЦУ—5,2 проц., у акруговых аддзелах—3,7 проц., фабрычназаводзкіх камітэтах—3,1 проц.

Латышы—маюць 5 сельскіх саветаў, адну камеру народнага суду. Павялічаецца лік сяброў латышоў у сельскіх саветах.

Існуе таксама адзін нямецкі сельсавет, падрыхтоўваецца організацыя літоўскага.

3. Экономічныя мерапрыемствы. Зусім зразумелая рэч, што ня ўсе нацыянальныя меншасьці патрабавалі з боку Савецкага ўраду асаблівых экономічных мерапрыемстваў, бо яны фактычна знаходзіліся ў абставінах, аднолькавых з беларускім насельніцтвам. Рабочыя і сяляне, палякі, латышы, ліцьвіны, русіны, беларусы мала чым адрозьніваліся ў гэтым сэнсе адны ад другіх, і таму агульныя мерапрыемствы Савецкае ўлады аднолькава задавальнялі іхныя патрэбы. Сярод гэтых нацыянальнасьцяй патрэбна была, галоўным чынам, палітычная праца, каб растлумачыць, што калі панам на Беларусі быў пераважна паляк, дык гэта ня значыць, што ўсе палякі паны, а што рабочы-паляк, селянін-паляк гэта—браты рабочаму і селяніну-беларусу. Таксама трэба было правільна паставіць пытаньне аб рускіх сялянах, аб рускіх рабочых, каб не дапусьціць абвінавачаньня іх (рускіх рабочых і сялян) за грахі расійскага царскага ўраду.

Затое зусім іначай паставіла рэволюцыя пытаньне адносна яўрэяў. Мы ведаем, што ў дні царызму яўрэю было забаронена ўсё, апрача выплаты казьне падаткаў. Яўрэі былі абмяжованы правам жыць у мястэчках і гарадох «черты оседлости». Дробны гандаль, рамесьніцкая і саматужная вытворчасьць складалі занятkі вялізарнай часткі яўрэйскага насельніцтва. Рэволюцыя разьбіла путы царскага зьдзеку

над яўрэйствам і зрабіла яго роўным і вольным сярод роўных і вольных. Але рэволюцыя зламала старыя капіталістычныя формы жыцьця і паставіла ў парадак дня пытаньне аб пабудове соцыялістычнай гаспадаркі. Такім чынам, калі пры панаваньні капіталістычных узаемаадносін дробна-буржуазныя элемэнты гандляроў, рамесьнікаў і саматужнікаў жылі з дня на дзень і, дзякуючы слабасьці разьвіцьця капіталізму ў Беларусі, ня трацілі надзеі на магчымасьць разбагацець, дык цяпер іх прыватнаўласьніцкія інтарэсы сустрэліся з новай соцыялістычнай хваляй і супярэчыць ёй ня здолелі. Коопэрацыя займае ўсё большае месца ў тавараздвароце Беларусі—значыць, гандляру застаецца мала работы. Дзяржаўная соцыялістычная прамысловасьць з кожным годам усё мацнее—значыць, слабее роля саматужніка і рамесьніка. Вось усё гэта зьявілася прычынай экономічнага заняпаду нашых мястэчак, а часткай і гарадоў, і вельмі пагоршыла матар'яльны стан яўрэйскага жыхарства. Перад Комуністычнай партыяй востра стала пытаньне аб тым, каб вывесьці яўрэйскую беднату на цьвёрды шлях, каб прыстасаваць яўрэя да вытворчай працы, каб даць гаротнаму яўрэю ня толькі палітычныя правы, але разам з гэтым дапамагчы яўрэю падняць свой матар'яльны стан і замацаваць права рэволюцыі фактычнай магчымасьцю карыстацца гэтым правам. Дзеля гэтага Савецкі ўрад Беларусі ажыцьцяўляе шэраг спэцыяльных экономічных мерапрыемстваў.

Першае. У 1921 годзе быў выданы дэкрэт, паводле якога ўсе доўгатэрміновыя арандатары млыноў 3 катэгорыі (з 1 паставам) замацоўваюцца ў якасьці ўласьнікаў гэтых млыноў. Гэта мерапрыемства мела на ўвазе, у першую чаргу, яўрэяў і вось чаму: мы ведаем, што царскія законы забаранялі яўрэю жыць у сельскіх мясцовасьцях і мець там сваю ўласнасьць. Таму яўрэі рабілі ўмовы, на падставе якіх яўрэй будаваў на панскай зямлі млын, але ня лічыўся гаспадаром, а толькі арандатарам. Ёсьць шмат выпадкаў, што такі арандатар плаціў пану арэнду больш як 40 год. Гэта несправядлівасьць была скасавана, як толькі Савецкі ўрад стаў на шлях прызнаньня права ўласнасьці на падобныя млыны.

Другое. Па Беларусі праводзіцца шырокі надзел яўрэяў зямлёй і прыстасаваньне яўрэяў да сельскай гаспадаркі. Яўрэй-бядняк разам з усімі беднякамі змагаўся супраць царызму і сваім горам, сваімі ахвярамі заваяваў сабе роўнае з усімі права на зямлю. Яўрэй ня жыў і не працаваў на

зямлі не таму, што ён гэтага хацеў, а таму, што гэта яму забаранялася. Вось чаму, калі прымаўся зямельны закон, то яўрэі былі пастаўлены ў першую катэгорыю разам з безьзямельнымі і малазямельнымі сялянамі, бо гэтым выпраўлялася гістарычная несправядлівасьць адносна яўрэяў.

Справа надзелу яўрэяў зямлёй мае шэраг дасягненьняў, ня гледзячы на значныя труднасьці яе вырашэньня. Так, да лютага 1927 году, апрача тых яўрэйскіх сямей, што выехалі з Беларусі на зямлю ў Крым, на Украіну і Каўказ, у самой Беларусі асела на зямлю 7.330 яўрэйскіх сямей (каля 40.000 душ), якія маюць 42.200 дзесяцін зямлі, і мы маем цяпер новага селяніна-яўрэя. Усяго надзелена зямлёй 15 проц. местачковага насельніцтва або 8,6 проц. усяго яўрэйскага насельніцтва Беларусі. Гэта праца вядзецца і ў далейшым поруч з надзелам зямлёй бяднейшага сялянства.

Трэцяе. Ужыты рашучыя захады, каб палепшыць стан рамесьнікаў і саматужнікаў. Ідзе арганізацыя і ўзмацненьне вытворча-суполкавага коопэраваньня саматужнікаў: на 1 кастрычніка 1926 году налічалася 305 суполак з 2.548 сябрамі. Пазычкова-ашчадных таварыстваў налічаецца 66 з лікам сяброў 14.000. Усяго ўцягнута ў саматужна-вытворчую коопэрацыю звыш 35 проц. усіх саматужнікаў.

Чацьвертае. Пастаўлена і вырашаецца пытаньне аб уцягваньні яўрэйскай моладзі ў прамысловыя прадпрыемствы.

Усё гэта, калі і ня зусім, дык значна палягчае стан местачковай яўрэйскай беднаты. Ясна, што тут яшчэ шмат чаго трэба зрабіць. Але ўжо зробленае зьяўляецца лепшым паказальнікам для працоўных мас яўрэйства, што толькі Комуністычная партыя вядзе па правільнаму шляху, што толькі праз Савецкую ўладу, праз соцыяльную рэволюцыю працоўныя масы яўрэйства здолеюць канчаткова выйсьці з свайго цяжкага нялюдзкага стану.

Так выконваецца пастанова Х-га зьезду Ўсесаюзнай Комуністычнай партыі, якая кажа: «Цяпер, калі абшарнікі ды буржуазія скінуты, а Савецкая ўлада абвешчана народнымі масамі ў гэтых краінах (украінцы, беларусы, кіргізы і г. д.), задача партыі заключаецца ў тым, каб дапамагчы працоўным масам невялікарускіх народаў дагнаць цэнтральную Расію, пакінуўшую іх ззаду, і дапамагчы ім: а) разьвіць і ўмацаваць у сябе Савецкую дзяржаўнасьць у формах, адпавядаючых нацыянальна-бытавым умовам гэтых народаў; б) разьвіць і ўмацаваць у сябе на роднай мове суд, адміні-

страцыю, органы гаспадаркі, органы ўлады, складзеныя з людзей мясцовых, ведаючых быт і псыхолёгію мясцовага насельніцтва; в) разьвіць у сябе друк, школу, тэатр, клюбную справу і наогул культурна-асьветныя ўстановы на роднай мове»...

Дасягненьні Савецкай Беларусі ў справе соцыялістычнага, экономічнага і культурнага будаўніцтва становяцца асабліва яскравымі, калі параўнаць сучасны стан Савецкай Беларусі і Беларусі Заходняй, уваходзячай у склад буржуазнай Польшчы.

Тут, у Савецкай Беларусі, гаспадаром зьяўляецца рабочы і селянін,—там пануе абшарнік, капіталісты і наводзіць «дэмократычныя» парадкі жандар.

Тут з боку дзяржавы дапамога бяднейшаму і сярэдняму сялянству ў справе адбудовы сельскай гаспадаркі, разьвіцьця сельскай гаспадаркі, палепшаньня стану сялян, там—палёгкі даюцца багацейшым, паном-абшарнікам, якіх вызваляюць ад падаткаў, якім даюць крэдыты, якія маюць свой лес і ім спэкулююць; сялянам-жа зямлі не далі, у адбудове гаспадарак пасьля вайны дапамогі няма, падаткі душаць, гаспадарка занепадае, насельніцтва вёскі знаходзіцца на парозе да выміраньня. Тут ідзе шпаркае разьвіцьцё прамысловасьці, павялічэньне ліку рабочых на прадпрыемствах, зьмяншэньне беспрацоўя, дапамога беспрацоўным, палепшаньне стану рабочых; там—фабрыкі зачыняюцца або працуюць 2-3 дні на тыдзень, беспрацоўе расьце, капіталістыя імкнуцца зьменшыць заработную плату, павялічыць рабочы дзень.

Калі экономічны стан Савецкай Беларусі разам з усім Савецкім Саюзам паляпшаецца, дык экономічны стан Заходняй Беларусі робіцца ўсё горшым ды горшым, бо Заходняя Беларусь уваходзіць у склад буржуазна-палітычнай Польшчы, якая выйсьця сабе з сучаснага стану ня знойдзе, яго не палепшыць без Пролетарскай рэволюцыі.

Савецкая Беларусь экономічна і культурна расьце, гаспадарка яе мацнее, бо праз Кастрычнікавую рэволюцыю яна скінула ўсе перашкоды на сваім шляху і мае магчымасьць сама, уласнымі рукамі, рукамі рабочых і сялян будаваць сваё жыцьцё.

Савецкая Беларусь напружыла ўсе свае сілы для свайго гаспадарчага адраджэньня і культурнага разьвіцьця і дасягнула вельмі значных вынікаў. Іх яна дасягнула таму, што ў сваёй працы, у сваёй баарцьбе мела ўвесь час пад-

трыманьне і дапамогу з боку Саюзу Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік. Сваіх сродкаў, сваіх сіл Савецкая Беларусь мае замала. Патрэбы Савецкай Беларусі вялізарныя ў параўнаньні з уласнымі сродкамі. Савецкай Беларусі без дапамогі з боку было-б цяжка падняцца на ногі. Калі-ж-бы Савецкая Беларусь залежала з матар'яльнага боку ад якой-небудзь буржуазнай дзяржавы, дык цяжкі стан Савецкай Беларусі быў-бы выкарыстаны буржуазіяй, каб забраць сабе багацьце Беларусі, каб запрыгоніць рабочых і сялян.

У першыя гады існаваньня Савецкай Беларусі дыплёматы буржуазных дзяржаў (Польшчы, Нямеччыны) рабілі заходы, каб дагаварыцца з Беларусьсю з вока на вока, без «Масквы». Гэта значыць, буржуазныя дзяржавы хацелі разьбіць адзіны фронт Савецкіх Рэспублік, каб потым лягчэй было справіцца з кожнай Савецкай Рэспублікай паасобку. Але сувязь паміж Савецкімі Рэспублікамі такая моцная, што ніякія хітрыкі буржуазіі ня здолеюць яе разьбіць. Вось гэта сувязь Беларусі з Савецкімі Рэспублікамі, існаваньне Саюзу Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік, далі магчымасьць Беларусі атрымаць сваячасную дапамогу для свайго гаспадарчага і культурнага будаўніцтва.

Саюз ССР дапамагае Савецкай Беларусі ў стварэньні ўмоў для фактычнага выкарыстаньня рабочымі і сялянамі магчымасьці цьвёрда стаць і пайсьці па шляху соцыялістычнага будаўніцтва.

Савецкая Беларусь атрымлівае з боку Саюзу ССР дапамогу і дзякуючы гэтаму мае магчымасьць ажыцьцяўляць усе свае мерапрыемствы.

Значыць, тыя посьпехі, якія мае Савецкая Беларусь у гаспадарчым соцыялістычным будаўніцтве, зьяўляюцца вынікам упартай працы самых рабочых і сялян Беларусі, працы сваімі ўласнымі сіламі і сродкамі пры сталай дапамозе і падтрыманьні з боку Саюзу Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік.

---

VI

# Вырашэньне Зямельнага пытаньня ў Савецкай Беларусі.

## Экономічная падстава і сэнс зямельнага пытаньня ў Беларусі.

Абшар даўнейшых губэрань Менскай, Магілеўскай, Віцебскай, Віленскай і Горадзенскай, з якіх складаецца тэрыторыя *Беларусі, і які займае, прыблізна,* 22.228 тысяч дзесяцін, у 1915 годзе быў падзелены такім чынам:

| | | |
|---|---|---|
| Дваранская ўласнасьць . . . . | 8.274 тыс. дз. або | 37% |
| Сялянская „ . . . . | 10.383 „ „ „ | 46% |
| Дзяржаўная, царкоўная ды інш. . . | 3.571 „ „ „ | 17% |

З гэтага відаць, што сялянская ўласнасьць, у тым ліку і буйная, складала менш паловы, а ўласнасьць абшарнікаў, дзяржавы, царкоўныя ды інш.—54 проц. ўсёй плошчы. Гэта ёсьць пёршая асаблівасьць зямельных адносін у Беларусі.

Паводле лічбаў 1905 году, агульны лік абшарнікаў, якія мелі звыш 100 дзесяцін зямлі, быў 13.200 і на іх долю прыпадала 11.029.000 дзесяцін зямлі.

Панская зямельная маемасьць падзялялася наступным чынам:

| | | | |
|---|---|---|---|
| Ад 101-500 дзесяцін было | 9.245 | маёнткаў з кольк. зямлі | . 2.051.000 дз. |
| „ 500-1.000 „ „ | 1.967 | „ „ „ | . 1.363.000 „ |
| „ 1.000 і выш. „ „ | 2.026 | „ „ „ | . 7.605.000 „ |

Лічбы 1905 году мала зьмяніліся да 1915 году і таму тыя вывады, што можна-б было зрабіць у 1905 годзе, цалкам характарызуюць зямельныя адносіны 1915 году.

На падставе гэтага, мы можам вызначыць другую асаблівасьць зямельных адносін у Беларусі, а менавіта: палова абшару Беларусі знаходзілася ў уладаньні толькі

13.200 п а н о ў-абшарнікаў, прычым галоўная маса зямельных абшараў панскай уласнасьці была сабрана ў руках нязначнай колькасьці буйных магнатаў: 3.993 паны ўладалі кожны звыш 500 дзесяцін зямлі, а разам каля 8.968.000 дзесяцін (40 проц. усёй зям. пл.). Гэта значыць, што Б е л а р у с ь  б ы л а  к р а і н а й  б у й н ы х  а б ш а р н і к а ў.

Трэцяя асаблівасьць Беларусі ў тым, што буйныя абшарнікі ў большай частцы самі вялі сваю гаспадарку сілай сельска-гаспадарчых рабочых, тымчасам як у цэнтральнай і ўсходняй Расіі была значна пашырана арэнда. Апошнія 2 дзесяцілецьці перад рэволюцыяй вызначыліся буйным ростам абшарніцкай гаспадаркі, якая паступова станавілася тыпова-капіталістычным мерапрыемствам: узрос лік і роля сельска-гаспадарчых рабочых, быў пабудаваны шэраг прамысловых дапаможных прадпрыемстваў і г. д.

У Беларусі, паводле прыблізных падлікаў, было каля 200.000 батракоў. З н а ч ы ц ц а,  б у й н а я  с е л ь с к а я  г а с п а д а р к а  м е л а  к а п і т а л і с т ы ч н ы  х а р а к т а р,  у  з ь в я з к у  з  ч ы м  п а с т у п о в а  в ы л у ч а ў с я  і  о р г а н і з а в а ў с я  ў  з н а ч н ы м  л і к у  с е л ь с к а - г а с п а д а р ч ы  п р о л е т а р ы я т,  я к  с і л а  с у п р а ц ь  к а п і т а л у.

Сялянская зямельная ўласнасьць была ўвесь час дробная.

Так, пасьля скасаваньня прыгону мелі зямлі:

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Ад 5 дзесяцін | . . | 68,6% усіх сялянскіх гаспадарак | | |
| „ 5 да 8 „ | . . | 25,7% „ | „ | „ |
| Вышэй 8 „ | . . | 5,3% „ | „ | „ |

Царская рэформа скасаваньня прыгону ў 1861 годзе кінула *больш двух трацін* (68,6 проц.) усіх сялянскіх гаспадароў у стан старцоў, жабракоў, зрабіўшы іх малазямельнымі.

Гаспадарыць на такіх надзелах нельга. Таму мы бачым, што ўжо ў 1893 годзе ў Беларусі налічаецца каля 8 проц. безьзямельных.

Ня зьнішчаецца малазямельле і ў далейшыя гады. Хаця агульны лік зямельнай плошчы сялянскага карыстаньня трохі вырас, але набываў сабе зямлю той, хто ўжо меў зямлю, хто меў досыць быдла, каб павесьці сваю гаспадарку,—адным словам, больш заможны селянін. Вясковы бядняк ня меў магчымасьці набываць сабе зямлю нават праз банк.

Поруч з гэтым, у беларускай вёсцы ішоў вельмі буйны рост сялянскіх двароў. Так, ад 1877 г. да 1905 г. лік сялянскіх двароў вырас: у Горадзенскай губ. на 8,4 проц., Віленскай—на 14 проц., Віцебскай—48 проц., Менскай—70 проц., Магілеўскай—87,1 проц.

Як вынік гэтага, забясьпечанасьць зямлёй сялянства яшчэ больш зьнізілася, што відаць з табліцы колькасьці зямлі на 1 надзел.

Колькасьць зямлі на 1 надзел.

| | 1878 г. | 1905 г. |
|---|---|---|
| Віленская | 16,3 дз. | 13 дз. |
| Віцебская | 13,8 „ | 11,5 дз. |
| Менская | 17,2 „ | 9,5 „ |
| Магілеўская | 11,9 „ | 8,5 „ |

Асабліва ў цяжкім стане было бяднейшае сялянства. У 1912 годзе бясконныя гаспадаркі складалі 20,2 проц. ўсіх сялянскіх гаспадарак, тымчасам як у 1893 годзе бясконных было толькі 15,5 проц. Значыць, паступова адбываўся процэс распаду бяднейшых гаспадарак, гаспадары якіх часта кідалі сваю зямлю ды выпраўляліся шукаць сабе заработкаў. Беларуская вёска мела вельмі значны лішак вольнай рабочай сілы, бо яе ня было дзе скарыстаць.

| | | |
|---|---|---|
| Віленская губ. налічала | 37,8% | лішку рабочай сілы |
| Віцебская „ „ | 38,6% | „ „ „ |
| Горадзенск. „ „ | 41,3% | „ „ „ |
| Менская „ „ | 41% | „ „ „ |
| Магілеўская „ | 46,5% | „ „ „ |

Толькі нязначная частка больш заможнага сялянства ўмацоўвала сваю гаспадарку, паляпшала яе, пачала карыстацца наёмнай сілай, адным словам, рабілася гаспадаркай капіталістычнай ці напоўкапіталістычнай і пераходзіла на шлях капіталістычнага гаспадараньня.

Але гэта не зьмяняе агульнага выгляду беларускай вёскі. У большай сваёй частцы беларуская вёска вызначаецца безьзямельлем і малазямельлем. Гэта ёсьць чацьвертая асаблівасьць Беларусі. Зробім вывады на падставе адзначаных асаблівасьцяй.

Вельмі значная колькасьць зямлі знаходзіцца ў руках абшарнікаў. Буйная капіталістычная зямельная ўласнасьць выклікала буйны рост пролетарыяту. Сяляне, у сваёй большасьці незабясьпечаны зямлёй, лічаць, што паны ашукалі сялян у 1861 годзе і імкнуцца падзяліць панскую зямлю.

Барацьба с.-г. пролетарыяту за палепшаньне свайго стану, з аднаго боку, ды імкненьне і надзея сялян зрабіць прырэзку зямлі за кошт прыватна-ўласьніцкай—з другога, зьяўляюцца падставай рэволюцыянізаваньня вёскі. Галеча і бязвыхаднасьць стану павялічае рэволюцыйныя настроі сялянства, штурхае яго на шлях беспасрэднай барацьбы супраць пана за зямлю. Рэволюцыйныя падзеі ў Беларусі ў 1905 годзе яскрава сьведчыць аб правільнасьці гэтай ацэнкі. 1905 г. быў першай спробай беларускага сялянства разам з батракамі ўзяць панскую зямлю рэволюцыйным шляхам. Рэволюцыя 1917 году перамагла таму, што разам з рабочым ішоў селянін, які хацеў прагнаць пана і заўладаць яго зямлёй. Калі цяпер у Заходняй Беларусі беларускае сялянства ўвесь час настроена вельмі рэволюцыйна і імкнецца да аб'яднаньня з Савецкай Беларусьсю, дык гэта таму, што ў Заходняй Беларусі ёсьць, з аднаго боку, 7.000 паноў, уласнасьць якіх складае блізка 47 проц. усяго абшару, а з другога боку ёсьць 100.000 сельска-гаспадарчых рабочых і каля 500.000 сялянскіх гаспадарак, прычым 61,4 проц. з іх маюць ня больш 5 гектараў зямлі кожная.

У Заходняй Беларусі цяпер, так, як перад рэволюцыяй на ўсім абшары Беларусі, большая палова сялянства не забясьпечана зямлёй, знаходзіцца пад пагрозай галоднай сьмерці і бачыць паратунак толькі ў захове панскай зямлі. Вось гэта і ёсьць падстава рэволюцыйных настрояў сялянства Заходняй Беларусі, а не бальшавіцкая агітацыя ці што іншае, як гэта выдумляе польская адміністрацыя. Існаваньне Савецкай Беларусі, зямельная політыка Савецкай улады ёсьць прыклад, які ў значнай меры павялічае рэволюцыйныя настроі сялянства Заходняй Беларусі. Праўда, толькі павялічвае, але не зьяўляецца першапрычынай. Першапрычына рэволюцыйнасьці—гэта малазямельле, бяда, гора селяніна. І таму ніякімі сродкамі не ўдаецца панскай Польшчы спыніць рэволюцыйныя настроі беларускага сялянства Заходняй Беларусі, пакуль ня будзе вырашана, па сутнасьці, паводле прыкладу Савецкай Беларусі, зямельнае пытаньне. Але гэта, мабыць, будзе тады, калі ў Заходняй Беларусі будзе ня панская, але Савецкая работніцка-сялянская ўлада.

### Галоўныя этапы вырашэньня зямельнага пытаньня ў Савецкай Беларусі.

Значныя прасторы Савецкай Беларусі доўгі час уваходзілі ў склад Савецкай Расіі і жылі адным з ёю дзяржаўным

жыцьцём. У залежнасьці ад гэтага, б. Віцебшчына і Магілеўшчына прайшлі аднолькавы з Савецкай Расіяй шлях вырашэньня зямельнага пытаньня. Меншчына ішла іншым шляхам у сувязі з асаблівасьцямі зямельных суадносін у Беларусі. У той час, як прынцып нацыяналізацыі (г. зн. прызнаньне зямлі агульна-народнай, дзяржаўнай маемасьцю) зямлі быў высунуты і ажыцьцяўляўся ў Беларусі з першых дзён рэволюцыі, Савецкая Расія праходзіла праз шэраг ступеняй вырашэньня зямельнага пытаньня і канчаткова замацавала прынцып нацыяналізацыі толькі ў «Аснаўным законе аб працоўным зямлякарыстаньні». Галоўныя этапы вырашэньня зямельнага пытаньня ў Савецкай Расіі наступныя:

1. Закон 1917 г. аб соцыялізацыі зямлі. Гэта закон устанаўляў, што ўся зямля зьяўляецца агульнанароднай маемасьцю, і лічыцца ў карыстаньні ўсяго народу. Гэты закон не вызначаў, які ўдзел павінна прымаць дзяржава ў беспасрэдным вырашэньні зямельнага пытаньня. Зямельнае пытаньне, паводле гэтага закону, вырашалася самім сялянствам у залежнасьці ад мясцовых асаблівасьцяй. Гэты закон узаконьваў барацьбу сялянства супраць абшарнікаў, забясьпечваў магчымасьць самім сялянам захвату абшарніцкае зямлі.

2. Закон аб соцыялістычным зямляўпарадкаваньні 1919 г. ўводзіць у вырашэньне зямельнага пытаньня організуючую сілу дзяржавы. Гэты закон лічыць, што зямля зьяўляецца адзіным дзяржаўным фондам, што гэта ёсьць дзяржаўная маемасьць, і што д з я р ж а в а д а е зямлю ў карыстаньне ўсім тым, хто сам на ёй працуе.

Значыць, гэты закон ясна кажа, што толькі дзяржава мае права канчатковага распарадкаваньня зямлёй. Аднак, гэты закон не дае адказу, якое месца павінна займаць сялянская гаспадарка ў сельскай гаспадарцы наогул. Закон цьвёрда ўстанаўляе, што Савецкая гаспадарка (Саўхоз) ёсьць найбольш высокая форма гаспадараньня; іншыя формы маюць паводле закону толькі часовае пераходнае значэньне, і таму закон не дае ацэнкі гэтым іншым формам, што выклікала на мясцох надзвычайную блытаніну, а ў селяніна стварыла ўражаньне, што бальшавікі сілком хочуць загнаць у «камунію».

3. Закон аб працоўным зямлякарыстаньні 1922 г. зьявіўся заключэньнем зямельнай політыкі ў Расіі, бо ён даў вычэрпваючыя і дакладныя адказы на ўсе незразумелыя пытаньні, ён замацаваў права селяніна-зямляроба на зямлякарыстаньне.

Савецкая Беларусь ішла іншым шляхам. Падставай для гэтага былі асабліваcьці ў зямельных адносінах Беларусі.

На нарадзе адказных актыўных працаўнікоў Беларусі 8-га ліпня 1919 году ў Менску гэтыя асабліваcьці былі сформуляваны такім чынам: «Беларусь знаходзіцца на пераходнай ступені ад Расіі да Заходняй Эўропы. Эўропа пры вырашэньні зямельнага пытаньня ў часе рэволюцыі ня можа браць прыкладу з Цэнтральнай Расіі, бо ў Эўропе будзе справа з капіталістычнай сельскай гаспадаркай, якой няма ў Расіі, але якая ёсьць у Беларусі. На чале савецкага соцыялістычнага будаўніцтва ў Беларусі трэба паставіць вытворчы (производственный) саюз сельска-гаспадарчых рабочых. Трэба, каб сельска-гаспадарчы пролетарыят адыгрываў на вёсцы такую самую ролю, як профэсыянальныя саюзы ў горадзе».

Такім чынам, першы этап у вырашэньні зямельнага пытаньня заключаўся ў тым, што меліся ўзяць у рукі дзяржавы зямлю, стварыць з гэтае зямлі буйныя гаспадаркі, уцягнуць у буйныя гаспадаркі малазямельных і безьзямельных.

«Згодна асноў комуністычнай політыкі»,—гаворыцца ў справаздачы Народнага Камісарыяту Зямляробства за 1919 год,—«у зямляробстве адразу было пастаўлена пытаньне аб так званай нацыяналізацыі ўсяе без выключэньня зямлі і прыняцьце ў беспасрэднае веданьне дзяржавы ўсіх больш буйных вучасткаў зямлі і прызнаньне дробных зямляўласьнікаў арандатарамі дзяржавы».

Недарэчнасьці такога разуменьня задач зямельнай політыкі ў тым, што 1) безьзямельны і малазямельны селянін не атрымліваў ад рэволюцыі ў сваё беспасрэднае карыстаньне зямлі, за якую ён змагаўся; 2) сярэдні селянін, меўшы звыш 5 дзесяцін зямлі, зусім быў адпіхнуты ад рэволюцыі, бо быў выданы дэкрэт, што абіраць у саветы ня маюць права тыя, хто мае больш як 5 дзесяцін зямлі.

24-га траўня 1920 году Цэнтральны Камітэт Комуністычнай партыі (бальшавікоў) Літвы і Беларусі зацьвердзіў тэзы па зямельным пытаньні, якія грунтоўна зьмянілі зямельную політыку Беларусі. Згодна гэтай пастановы галоўныя задачы зямельнай політыкі вызначаюцца тым, што 1) Беларусь мае значны лік малазямельных і безьзямельных сялян, якіх трэба задаволіць зямлёй, і 2) трэба аберагаць вышэйшыя формы сельска-гаспадарчае вытворчасьці ў выглядзе савецкіх гаспадарак.

З часам гэтыя прынцыповыя пастановы былі распрацованы больш практычна, і Другі Ўсебеларускі Зьезд Саветаў 15—20 сьнежня 1920 г. сваімі пастановамі канчаткова надаў выразнасьць такім пытаньням: 1) за працоўную гаспадарку лічыць тую, якая вядзецца самімі гаспадарамі без карыстаньня сталай, наёмнай працай—гэта значыць устанаўляліся правільныя адносіны да сярэдняга селяніна; 2) для арганізацыі савецкіх гаспадарак можа быць пакінута ня больш 25 проц. усяе ранейшае абшарніцкае зямлі, а 75 проц. падзяліць між безьзямельнымі і малазямельнымі сялянамі; 3) надзел зямлёй сялян зрабіць як мага хутчэй, каб скончыць увесну 1921 году.

Хібай гэтага часу было тое, што, як і ў Савецкай Расіі, няясна вырашалася пытаньне аб сялянскай гаспадарцы, яе формах, паступовасьці ў пераходзе да больш высокіх форм землякарыстаньня. Страх перад «камуніяй» у Беларусі ня быў расьсеяны, ён быў тым больш, што на Беларусі ня было грамады (общины) і беларускі селянін выгадаваўся на падворна-вучастковым землякарыстаньні.

Нарэшце, па прапанове Цэнтральнага Камітэту Комуністычнай Партыі (б) Беларусі Прэзыдыум ЦВК Беларусі апублікаваў у красавіку 1922 году пастанову аб вольным выбары форм землякарыстаньня, як частку закону а працоўным землякарыстаньні, і гэтым былі вырашаны найважнейшыя і найбольш спрэчныя пытаньні ў зямельнай політыцы.

Такім чынам, мы бачым, што Савецкая Расія і Савецкая Беларусь рознымі шляхамі прышлі да закону аб працоўным землякарыстаньні.

Як-жа разумеецца лінія зямельнай політыкі паводле гэтага закону?

1. Закон а працоўным землякарыстаньні ставіць мэтай наладжаньне правільнага трывалага, прыстасаванага да гаспадарчых і бытавых умоў, працоўнага карыстаньня зямлёй.

2. Уся зямля павінна быць маемасьцю дзяржавы. Усе земляробы захоўваюць толькі права карыстаньня, але ня ўласнасьці. Купля, продаж, запродаж, дарэньне ды іншыя зямельныя ўмовы забараняюцца законам, а вінныя ў гэтым трацяць права на карыстаньне зямлёй.

3. Працоўны землякарыстальнік ня можа быць пазбаўлены права на зямлю, за выключэньнем выпадкаў, якія дакладна зазначаны ў законе. Гэтым дасягаецца трываласьць і выключаецца магчымасьць адміністрацыйнага свавольства.

4. Дзяржава ўстанаўляе свабоду выбару форм зямлякарыстаньня (хутарскога, грамадаўскага, вучастковага, мяшанага) і гэтым дае магчымасьць сялянству выявіць сваю ініцыятыву. Больш дзелавая меншасьць зямельнай суполкі (общества) мае права выйсьці з суполкі.

5. Пры зямляўпарадкаваньні надзел зямлі робіцца па колькасьці едакоў ці рабочых рук, на падставе пастановы зямельнай суполкі.

6. Даецца права тым колектывам, што былі організаваны на сялянскай зямлі, выбраць іншую форму зямлякарыстаньня.

7. За кожнай зямельнай суполкай і зямлякарыстальнікам застаецца тая зямля, якой яны карысталіся да моманту выданьня закону.

8. Уся зямляўпарадчая работа вядзецца за кошт саміх зямлякарыстальнікаў за выключэньнем выпадкаў вялікай церасполосіцы ды іншых заблытаных зямельных адносін, калі зямляўпарадкаваньне робіцца за кошт дзяржавы.

9. Тым гаспадаркам, якія часова заняпалі (стыхійная бяда, сьмерць работніка, прызыў на вайсковую службу і г. д.), даецца права арэнды. Арандаваць можна столькі зямлі, колькі магчыма разам са сваім надзелам урабіць сваёй уласнай працай.

10. Даецца права карыстаньня наёмнай працай без асаблівых формальнасьцяй і абмежаваньняў, але з умовай: карыстацца наёмнай працай могуць толькі тыя, у каго ўсе работнікі—працаздольныя члены сям'і—працуюць на гаспадарцы.

Савецкая Беларусь паклала ў аснову свайго закону аб працоўным зямлякарыстаньні закон Савецкай Расіі і зрабіла зьмены ў некаторых пунктах адпаведна з асаблівасьцямі сваіх зямельных адносін. Сярод найбольш важных асаблівасьцяй Беларусі трэба адзначыць наступныя:

1. У Беларусі ня было грамадаўскага зямлякарыстаньня з яго асаблівасьцямі—перадзелы зямлі і г. д. Усталяванай формай зямлякарыстаньня была падворна-спадчынная або вучастковая.

2. На Беларусі, якая знаходзілася ў паласе вайны і окупацый, ня было рэволюцыйнага падзелу зямлі. Пераход зямлі да сялянства адбываўся організаваным шляхам праз дзяржаўны апарат. У зьвязку з гэтым, а таксама дзякуючы таму, што дэкрэт аб соцыялізацыі ня быў распаўсюджаны на тэрыторыі Беларусі, ураўнаньня зямлі ня было на Беларусі.

На падставе гэтых асаблівасьцяй, у законе а працоўным зямлякарыстаньні Беларусі, зроблены наступныя зьмены:

1. Усё тое, што гаворыцца ў расійскім законе аб грамадах, выкасавана.

2. Выкасаваны таксама той пункт, паводле якога даецца права меншасьці вымагаць выдзяленьня. У Беларусі бальшых значных выселкаў няма, а таму пастанова аб выдзяленьні можа рабіцца толькі большасьцю.

3. Зьвернута ўвага на тое, што, у зьвязку з адсутнасьцю на Беларусі грамады і перадзелаў, надзел зямлі па колькасьці едакоў і рабочай сілы ня мае пад сабой жаднае падставы.

4. Вызначаны парадак, што разьмеркаваньне зямлі і выхад на пусткі робіцца на падставе фактычнага бясспрэчнага карыстаньня зямлёй, якая не перавышае мясцовай працоўнай нормы.

Да 1924 году беларускі зямельны кодэкс меў моц толькі на абшары Меншчыны. У гэты-ж час на абшары Віцебшчыны ды Магілеўшчыны рабілася зямляўпарадкаваньне паводле кодэксу РСФСР.

З першых-жа дзён аб'яднаньня ўсіх беларускіх тэрыторый у складзе Савецкай Беларусі ў сакавіку 1924 г. было пастаўлена пытаньне аб тым, каб ажыцьцяўляць па ўсёй Беларусі аднолькавую зямельную палітыку, каб канчаткова замацаваць для Беларусі ці кодэкс РСФСР, ці кодэкс БССР.

Пасьля доўгага і ўважнага выўчэньня пытаньня аб тым, які кодэкс больш падыходзіць да ўмоў Беларусі, ЦК КП(б)Б ў жніўні 1924 г. прызнаў кодэкс БССР больш прыдатным да ўмоў Беларусі.

Пастанова ЦК так адзначае асаблівасьці беларускага кодэксу:

1. Вучасткова-падворны парадак зямлякарыстаньня замест грамадаўскага;

2. Вызначэньне дзяржаўных норм зямлякарыстаньня— максымальных (найбольшых) і мінімальных (найменшых),— замест раскладковых (разверсточных) адзінак, якімі карыстаюцца ў часе перадзелу зямлі ў грамадзе.

3. Выключэньне прымусовага выдзелу меншасьці ў ліку $^1/_5$ двароў.

4. Права распарадкаваньня зямлёй запаснага фонду пакінута за дзяржавай, а не за сельскімі суполкамі (обществами).

На падставе канчаткова зацьверджанага «Кодэксу а працоўным зямлякарыстаньні БССР» зараз на Беларусі робіцца вялікая работа па зямляўпарадкаваньні.

## Што практычна зроблена і што трэба зрабіць у зямельным пытаньні.

Сучасная тэрыторыя Савецкай Беларусі, паводле перапісу 1917 году, займае абшару 9.500.000 дзесяцін, якія падзяляюцца наступным чынам:

| | | |
|---|---|---|
| Зямлі сельска-гасп. карыстаньня | 5.651.000 дз., або | 59,4% |
| Лясоў | 2.874.000 „ „ | 30,3% |
| Няўжыткаў | 975.000 „ „ | 10,3% |

З усяго ліку зямлі забалочана 17,5 проц. або 1.650.000 дзес.

Да рэволюцыі зямля сельска-гаспадарчага карыстаньня падзялялася паміж рознымі ўласьнікамі так:

| | |
|---|---|
| Працоўныя гаспадаркі мелі | 72,8% усёй зямлі |
| Вялікія панскія | 25,9% „ „ |
| Дзяржаўныя, царкоўныя і г. д. | 1,3% „ „ |

Такім чынам, у сярэднім на 1 сялянскі двор прыпадала 8 дзесяцін усяе зямлі, бо ў сялянскім уладаньні амаль ня было зямлі ня сельска-гаспадарчага карыстаньня. На 1 душу вясковага насельніцтва прыпадала 1,25 дзесяціны. Гэтыя лічбы зьяўляюцца яскравым прыкладам недахвату зямлі ў сялянства. Стан пагаршаўся яшчэ і тым, што шмат зямлі на Беларусі забалочана і што, у залежнасьці ад гэтага, выходзіла на 1 гаспадарку ня 8, але 5-6 дзесяцін ужытковае зямлі. Наогул, Беларусь зьяўлялася краінай з найбольш шчыльным насельніцтвам, бо на 100 дзесяцін ужыткоўнае зямлі прыпадала:

| | |
|---|---|
| На Беларусі | 69,6 чалавек |
| „ Паўночна-Усходняй Расіі | 64,5 „ |
| „ Паўночна-Заходняй „ | 45,3 „ |
| „ Украіне | 65,2 „ |

Зямля была разьмеркавана сярод сялянства вельмі няроўна. Калі, з аднаго боку, было шмат малых карлікавых гаспадарак, у якіх далёка ня старчыла зямлі да сярэдняй нормы, дык, з другога боку, было досыць і такіх, якія па колькасьці зямлі перавышалі значна гэту норму.

У залежнасьці ад зазначаных дзьвюх асаблівасьцяй— агульнага недахвату зямлі і няроўнага яе разьмеркаваньня сярод сялянства—перад Савецкай уладай сталі задачы: 1) зьнішчыць малазямельле наогул, 2) так перабудаваць сялянскія гаспадаркі, каб кожная сялянская гаспадарка ня толькі зада-

вальняла спажывецкія патрэбы самой гаспадаркі, але мела магчымасьць па сваім разьмеры разьвівацца і пашырацца.

Гэтыя дзьве задачы, у сваю чаргу, павінны былі вырашацца так, каб забясьпечваць магчымасьць найбольш шпаркага коопэраваньня сялянскіх гаспадарак і праз коопэраваньне замацоўваць пераход сельскае гаспадаркі на соцыялістычны шлях разьвіцьця.

«На коопэрацыю», казаў У І. Ленін, «у нас глядзяць са зьнявагай, не разумеючы, якое выключнае значэньне мае гэта коопэрацыя, папершае, з прынцыповага боку (уласнасьць на сродкі вытворчасьці ў руках дзяржавы), падругое, з боку пераходаў да новых парадкаў шляхам як мага больш простым, лёгкім і даступным для селяніна... Адна справа выдумляць наконт усялякіх рабочых аб'яднаньняў для пабудовы соцыялізму, другая справа—навучыцца практычна будаваць гэты соцыялізм так, каб усялякі дробны селянін мог прымаць удзел у гэтым *пабудаваньні*».

Кастрычнікавая рэволюцыя перадала сялянству Беларусі каля 1.300.000 дзесяцін зямлі, павялічыўшы, такім чынам, сялянскае зямлякарыстаньне на 32,3 проц.

Можна з упэўненасьцю сказаць, што пастанова Компартыі аб тым, каб большую частку абшарніцкае зямлі перадаць малазямельнаму і бязьзямельнаму сялянству, выканана ў поўнай меры.

Толькі 209.115 дзесяцін або 3,7 проц. ужыткоўнае зямлі пакінута ў якасьці дзяржаўнае маемасьці, а рэшта падзелена між сялянамі.

У 1907 годзе, купляючы зямлю праз так званы «Крестьянский банк», плацілі звычайна за 1 дзесяціну ў сярэднім 127 р. Калі мы падлічым па гэтай цане кошт пераданай сялянам зямлі, дык убачым, што гэта складае вялізарную суму: 127×1.300.000=165.100.000 рублёў.

Кастрычнікавая рэволюцыя перадала сялянству абшарніцкае зямлі на суму звыш 165 мільёнаў рублёў.

У 1925 годзе налічалася звыш 100.000 новых сельскіх гаспадарак, якія пабудаваліся за часы рэволюцыі. Усіх сялянскіх двароў у 1925 годзе было звыш 677.000, а сельскага насельніцтва 3.706.900 чал., значыць на 1 гаспадарку прыпадае пасьля рэволюцыі 8,05 дзесяціны, а на душу—1,478 дзес.

Мы бачым, што рэволюцыйны падзел абшарніцкае зямлі часткова *палепшыў* стан сялянства, зьменшыўшы малазямельле.

Пасьля разьвязаньня першай задачы—перадачы абшарніцкай зямлі сялянству, Савецкая ўлада пачала вырашаць задачу перабудовы сельскае гаспадаркі з мэтай стварэньня найлепшых умоў для яе разьвіцьця.

У гэту задачу ўваходзіць вырашэньне пытаньня аб найменшай колькасьці зямлі, пры якой гаспадарка можа існаваць і разьвівацца, аб найбольшай колькасьці зямлі, пры якой гаспадарка захоўвае свой працоўны характар,—барацьба з цераспалосіцай, дальнязямельлем, пераход да шматпалёўкі і г. д.

На падставе экономічных падрахункаў выходзіць, што ў Беларусі мінімальная норма зямлі на адну гаспадарку павінна быць 4,6 або 6,8 дзесяціны ўжыткаў.

Сельская гаспадарка, маючая зямлі менш, існаваць ня можа.

Максымальная норма зямлі на 1 гаспадарку вызначаецца ў 9,2 або 13,7 дзесяціны.

Гаспадарка, маючая звыш гэтае нормы, ужо патрабуе наёмнай працы і траціць свой чыста працоўны склад. Маючы на ўвазе паказаныя нормы, вызначаныя для сярэдняе сялянскае гаспадаркі ў 4 душы, было падлічана ў 1925 годзе, што звыш 258.000 сялянскіх гаспадарак мела зямлі менш нормы і каля 30.000 гаспадарак — звыш нормы. Такім чынам, 38 проц. гаспадарак патрабуюць далейшае прырэзкі зямлі.

Недахват зямлі, які вызначыўся, патрабаваў ад улады далейшага вышукваньня зямельных фондаў, каб задаволіць зямельны голад.

Пастановай Цэнтральнага Камітэту Комуністычнае партыі дадатковыя зямельныя фонды былі створаны:

а) шляхам пераводу часткі зямлі з-пад лесу 368.000 дзес.
б) з дзяржаўнай зямлі . . . . . . . . . 100.000 »
в) з акінутай зямлі . . . . . . . . . . . 50.000 »
г) з абрэзкаў ад напоўпрацоўных гаспадарак . 170.000 »

Такім чынам, пытаньне задаваленьня зямельнага голаду ў асноўным вырашаецца. Гэта пытаньне дадаткова вырашаецца таксама шляхам пераезду беларускага сялянства ў Сібір, на Волгу, на Каўказ, у Крым, дзе для Беларусі адводзяцца значныя абшары вольнай зямлі. Справа перасяленьня ідзе тым больш добра, што беларускія пасяленцы з давён-даўна знаёмы з Сібірай. Паводле матар'ялаў Галоўнага Перасяленцкага Камітэту з 1896 па 1910 год перасялілася з Беларусі ў Сібір каля 500.000 чал. І цяпер гэта справа наладжваецца так, што кожны год выпраўляецца з Беларусі на новую зямлю ня менш як 10.000 чал., хаця жадаючых, трэба сказаць, ёсьць значна больш.

Такім чынам, першая частка зямельнага пытаньня—надзел зямлёй—вырашаецца больш-менш здавальняюча. Але гэта толькі падрыхтоўка да вырашэньня другой задачы—фактычнага павышэньня сельскай гаспадаркі. І вось гэта задача—фактычнае павышэньне сельскай гаспадаркі—таксама ўжо вырашаецца і мае значныя дасягненьні.

У дакладзе СНК БССР Савету Народных Камісараў СССР за 1926 год мы чытаем:

«Стыхійны пераход сялянства Беларусі да больш высокіх інтэнсыўных сыстэм гаспадаркі патрабуе зьмены формы землякарыстаньня і прыстасаваньня іх да новых умоў гаспадараньня.

Зьменшэньне цераспалосіцы, зьнішчэньне вузкапалосіцы і дальназямельля дый наогул прыбліжэньне зямлі да земляроба зьяўляецца канечнай патрэбай у пабудове новае сялянскае гаспадаркі.

Організаванае і сыстэматычнае ажыцьцяўленьне гэтай рэформы ў землякарыстаньні выконваецца зямляўпарадчымі органамі ў парадку ўнутрыпасельнага зямлябудаўніцтва. Пры гэтым ва ўмовах БССР такое ўнутрыпасельнае зямлябудаўніцтва зьвязана з поўным гаспадарчым абсталяваньнем зямляўпарадкаваных сялян, з разьбіўкай зямлі на палі, а палей на палосы, прызначаныя кожнай вызначанай гаспадаркі, і нават з пераводам зямляўпарадкаваных на шматпольле.

Ажыцьцяўленьне ўнутрыпасельнага зямляўпарадкаваньня палягчае ўвядзеньне больш інтэнсыўных спосабаў гаспадараньня і ў тоў-жа час спрыяе ўцягваньню ў асноўны гаспадарчы зварот тых больш дальніх ды нявыгадных па месцы свайго знаходжаньня зямельных вучасткаў, што, з прычыны гэтага палажэньня, пакідаліся сялянствам або выкарыстоўваліся вельмі экстэнсыўна. У такім стане знаходзіцца, паводле падліку Народнага Камісарыяту Земляробства, да 15 проц. усяе зямлі працоўнага карыстаньня.

Што да формы землякарыстаньня, дык урад БССР пераважна спыняецца на такой форме яе, пры якой у найбольшай меры забясьпечваецца магчымасьць палепшаньня сельска-гаспадарчага будаўніцтва на падставе коопэраваньня і колектывізацыі серадняцкіх ды бядняцкіх гаспадарак.

Такой формай ва ўмовах БССР зьяўляецца высялковая, якую ўрад БССР, не адбіраючы ад насельніцтва свабоды выбару, імкнецца пераважна праводзіць мерамі ўгавору ды эканомічнымі. Але-ж зьяўляецца патрэбным дапусьціць у паасоб-

ных выпадках правядзеньне хутарской і часткай адрубной формы там, дзе такая форма больш прыдатная па топаграфічных ды іншых мясцовых умовах і дзе насельніцтва не знаходзіць магчымым адмовіцца ад яе.

Згодна практыкі, высялковае зямлябудаўніцтва займае 78 проц., а хутарское і адрубное 22 проц. усіх гаспадарак».

Попыт на зямлябудаўніцтва вялізны, але яго задаволіць цалкам нельга з-за браку тэхнічных сіл.

Агульны падлік зямляўпарадчых работ такі:

| | |
|---|---|
| Усяго трэба зямляўпарадкаваць . . . . . . . . . . . | 5.432.321 дз |
| Было зямляўпарадкавана да рэволюцыі . . . . . . . | 784.529 „ |
| Зямляўпарадкавана ў часе рэволюцыі да 1925 году . . . . | 1.045.315 „ |
| Зямляўпарадкавана за 1925 г. . . . . . . . . . . . | 182.186 „ |
| Засталося, такім чынам, зямляўпарадкаваць . . . . . . | 3.430.301 „ |

Апрача гэтага, ёсьць на мэце дадаць 800-900 тысяч дзесяцін зямлі пасьля мэліорацыі.

Усю працу па зямляўпарадкаваньні маецца на мэце скончыць праз 10 год.

Праца па зямляўпарадкаваньні ідзе побач з шырокімі агрономічнымі мерапрыемствамі. Каморніку, кажа наша вёска, няма чаго рабіць у вёсцы без агронома—і наадварот.

У 1-ым паўгодзьдзі 1925-26 году шматпольле праводзілася на 2.124 пунктах, захапіўшы 11.329 гаспадарак. Патрэба на агронома расьце. Разам з гэтым расьце патрэба на насеньне, на машыны.

Вышэй мы ўжо адзначалі агульныя дасягненьні Савецкай Беларусі ў галіне сельскай гаспадаркі і таму цяпер на гэтым пытаньні больш падрабязна спыняцца ня будзем.

Такім чынам, мы бачым, што Кастрычнікавая рэволюцыя вырашыла зямельнае пытаньне, перадаўшы зямлю сялянам, і забясьпечыла Соцыялістычнае разьвіцьцё сельскае гаспадаркі, як асновы агульнага гаспадарчага росту Рэспублікі ды палепшаньня матар'яльнага стану рабочых і сялян.

На падставе гэтага, яшчэ больш умацоўваецца саюз рабочых з сялянамі, яшчэ больш умацоўваецца кіруючая роля пролетарыяту ў соцыялістычнай рэволюцыі.

## VII

# Беларускае пытаньне па-за межамі Савецкіх Рэспублік.

Згодна савецка-літоўскага мірнага дагавору ў 1920 годзе, Савецкі ўрад РСФСР прызнаў мяжу Літвы; на падставе гэтага дагавору ў склад апошняй уваходзілі беларускія тэрыторыі Горадзеншчыны і Віленшчыны.

Згодна савецка-польскага мірнага дагавору 1921 г., урады РСФСР, УССР і БССР прызналі за тэрыторыю Польшчы ўсе землі, што ляжаць на захад ад сучаснай савецка-польскай мяжы. Па гэтым дагаворы выходзіла, што Савецкі ўрад не адмаўляецца ад савецка-літоўскага дагавору і ў той-жа час адмаўляецца ўмешвацца ў спрэчкі паміж Літвой і Польшчай за Горадзеншчыну і Віленшчыну.

Яшчэ раней была зроблена мірная ўмова паміж Савецкай Расіяй і Літвой, на падставе якой мяжа прайшла па Віцебскай губэрні.

На падставе ўсіх гэтых дагавораў, а таксама ў выніках суадносін між зазначанымі дзяржавамі ў сучасны момант межы ўсталяваліся, і галоўная частка Заходняй Беларусі ўваходзіць цяпер у склад Польшчы.

Беларускае насельніцтва Польшчы жыве большасьцю ў 4-х ваяводзтвах: Навградзкім з паветамі: Баранавіцкім, Дунілавіцкім, Лідзкім, Нясьвіскім, Наваградзкім, Слонімскім. Стаўпецкім і Валошынскім; Палескім з паветамі: Брэст-Літоўскім, Дрогічынскім, Камень-Кашырскім, Кобрынскім, Косаўскім, Лунінецкім, Пінскім, Пружанскім Сарненскім; Віленскім з паветамі: Браслаўскім, Дрысьненскім, Ашмянскім, Віленска-Троцкім, Пастаўскім, Маладэчынскім, Вілейскім; Беластоцкім з паветамі: Аўгустоўскім, Беластоцкім, Бельскім, Горадзенскім, Кольненскім, Ломжынскім, Астраленскім, Астраўскім, Сейненскім, Сувальскім, Сакольскім, Шчучынскім, Высока-Мазавецкім, Ваўкавыскім.

З гэтых чатырох ваяводзтваў Беластоцкае разглядаецца, як частка „Królewstwa Polskiego“, а іншыя тры ўваходзяць у склад „Ziem Wschodnich“.

Гэтыя чатыры ваяводзтвы не адпавядаюць таму, што мы разумеем пад назвай «Заходняя Беларусь». Наваградзкае ваяводзтва цалкам уваходзіць у склад Заходняй Беларусі; Палескае—апроч паветаў Сарненскага і Камень-Кашырскага, якія зьяўляюцца часткай Заходняй Украіны; Віленскае—апроч некаторай часткі тэрыторыі сумежных з Літвой паветаў; Беластоцкае—апроч паветаў: Кольненскага, Ломжынскага, Астраленскага, Аўстраўскога, часткі Сейненскага, Сувальскага, часткі Шчучынскага і Высока-Мазавецкага.

Карыстаючыся «Табліцамі статыстычнымі Польшчы на 1925-26 г.» д-ра Ігнація Вэйнфэльда і, выходзячы з таго, што ў склад Заходняй Беларусі трэба ўключыць тыя часткі Польшчы, што складаюцца з б. Горадзенскай, Менскай і Віленскай губэрань, мы ўбачым, што пад Польшчай знаходзіцца 101.078 кв. кілёмэтраў тэрыторыі і 4.546 тысяч жыхароў Заходняй Беларусі (лічбы 1910 году), або 3.986 тысяч жыхароў паводле лічбаў 1921 году.

Нацыянальны склад насельніцтва адзначных чатырох ваяводзтваў, паводле польскіх статыстычных лічбаў 1921 году, наступны:

| Ваяводзтвы | Палякі | Беларусы | Украінцы | Яўрэі | Немцы | Іншыя |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | у процантах | | | | | |
| Наваградзкае . . . . | 53,9 | 37,7 | — | 6,8 | — | 1,6 |
| Беластоцкае . . . . | 76,8 | 9,1 | — | 12,5 | 0,3 | 1,3 |
| Палескае . . . . . | 24,3 | 42,6 | 17,7 | 10,7 | 0,1 | 4,9 |
| Віленскае . . . . . | 57,9 | 25,7 | — | 8,1 | — | 8,3 |

З гэтых лічбаў відаць, што палякі ва ўсіх ваяводзтвах, апроч Палескага, складаюць большасьць, і гэта дае формальнае права польскаму ўраду гаварыць аб іх польскасьці.

Аднак, уся недарэчнасьць і штучнасьць польскай урадовай статыстыкі робіцца відавочнай, калі мы на падставе тых самых крыніц пачнем выўчаць склад насельніцтва паводле рэлігійных адзнак.

Перапіс 1921 году дае наступныя лічбы:

| Ваяводзтвы | Катал. | Уніят. | Праваслаўн. | Эванг. | Іудэі | Інш. |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | у процантах | | | | | |
| Наваградзкае . . . . | 39,5 | — | 51,1 | 0,1 | 9,0 | 6,3 |
| Беластоцкае . . . . | 68,6 | — | 15,1 | 1,0 | 14,8 | 0,5 |
| Палескае . . . . . | 7,8 | — | 79,2 | 0,4 | 12,6 | — |
| Віленскае . . . . . | 61,2 | — | 26,9 | 0,1 | 9,4 | 2,4 |

З гэтага відаць, што ў склад палякаў залічаны польскай статыстыкай ня толькі каталікі, але праваслаўныя і нават іудэі. Гэта трэба польскаму ўраду, каб павялічыць польскасьць усходніх ваяводзтваў, дзеля чаго, між іншым, да чыста беларускіх тэрыторый, напрыклад, б. Горадзенскай губ., далучаны часткі б. Ломжынскай губ. з большасьцю польскага насельніцтва.

Адкінуўшы лічбы польскай статыстыкі, як зусім няправільныя, мы, карыстаючыся цэлым шэрагам іншых крыніц, можам прыйсьці да вываду, што насельніцтва Зах. Беларусі паводле нацыянальнага складу падзяляецца наступным парадкам:

| | |
|---|---|
| Беларусаў . . . | 64% |
| Палякаў . . . . | 16 „ |
| Яўрэяў . . . . | 12 „ |
| Іншых . . . . | 8 „ |

Такім чынам, у Польшчы жыве такая колькасьць беларускага насельніцтва, якая перавышае агульную колькасьць насельніцтва сучаснай Літвы або Латвіі.

Гэта не магло не паставіць і, як мы бачым, вельмі востра паставіла беларускае нацыянальнае пытаньне па-за межамі Савецкіх Рэспублік, асабліва ў Польшчы.

Каб зразумець характар і задачы нацыянальнага руху ў Заходняй Беларусі, трэба хаця-б коратка спыніцца на асаблівасьцях яе жыцьця.

Паводле заняткаў насельніцтва Заходняй Беларусі падзяляецца наступным чынам:

| Ваяводзтвы | Сельская і лясная гаспад. | Прамысл. | Гандаль | Інш. |
|---|---|---|---|---|
| | у процантах | | | |
| Беластоцкае . . . . | 72,3 | 11,5 | 7,7 | 8,5 |
| Віленскае . . . . | — | — | — | — |
| Наваградзкае . . . | 83,7 | 5,5 | 4,4 | 6,4 |
| Палескае . . . . . | 82,1 | 6,5 | 6,5 | 5,2 |

Характэрнай асаблівасьцю Заходняй Беларусі зьяўляецца пераважная роля сельскае і лясное гаспадаркі і вельмі слабое разьвіцьцё прамысловасьці. З усіх гарадоў гэтых ваяводзтваў толькі Беласток, Горадня, Вільня і Брэст-Літоўск маюць звыш 25.000 насельніцтва, а ўсе іншыя гарады значна меншыя. Агульным для ўсяе Заходняе Беларусі зьяўляецца надзвычайнае зруйнаваньне гарадоў і зьменшаньне колькасьці насельніцтва ў гарадох за опошнія гады. Так:

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Беласток меў у | 1910 г. | 80,3 тыс., | а ў | 1921 г. | 76,8 тыс. жых. |
| Горадня „ | „ | 49,7 „ | „ | | 35,1 „ „ |
| Брэст-Літоўск | „ | 53.3 „ | „ | | 29,6 „ „ |

Значыць, Заходняя Беларусь зьяўляецца тыпова аграрнай краінай. Толькі 18 проц. насельніцтва жыве ў гарадох і мястэчках, а 82 проц. жыве на вёсцы. Калі-ж прыняць пад увагу, што частка гарадзкога насельніцтва, асабліва ў мястэчках, таксама зьвязана з зямлёй, дык процант зямляробскага насельніцтва будзе яшчэ вышэйшы.

Прамысловасьць разьвіта вельмі слаба. Сусьветная вайна яшчэ больш зруйнавала прамысловасьць. Агульны заняпад прамысловасьці яшчэ больш павялічаецца ў Зах. Беларусі палітыкай польскай буржуазіі: дрэваапрацоўчая, ткацкая, тытунёвая, хэмічная, гарэлачная і скурачная прамысловасьці, досыць разьвітыя да вайны, цяпер паступова заміраюць. Багацтвы краіны распрадаюцца замежнаму капіталу. Лясы Белавескай і Налібоцкай пушчаў запрадаюцца ангельскім капіталістым. Тытунёвая монополія перадана італьянскім капіталістым, і гэта давяло да таго, што зачыніліся тытунёвыя фабрыкі ў Вільні, Берасьці і зьменшылася тытунёвая продукцыя ў Горадні. Монополія на сярніковую прамысловасьць прадана амэрыканскай групе капіталістых «Дылёна», што давяло да зачыненьня

мясцовых сярніковых фабрык і да заваяваньня рынку швэдзкай продукцыяй. Крызіс у ткацкай прамысловасьці давёў да вызаву часткі Беластоцкіх фабрык у Румынію. Гэты заняпад прамысловасьці выклікае масавае беспрацоўе ў Заходняй Беларусі. Стан пагаршаецца яшчэ і тым, што польскія капіталістыя і ўрад не бяруць на работу мясцовых рабочых, але прыводзяць іх з цэнтральнай Польшчы, напрыклад: беларусы-чыгуначнікі амаль цалкам заменены прывознымі рабочымі і г. д. Гэта робіцца для таго, каб, з аднаго боку, аслабіць рэволюцыйны рух у Польшчы, а з другога—колёнізаваць Зах. Беларусь, пасеяць нацыянальную нянавісьць сярод рабочых і разьбіць адзіны рабочы фронт.

Гэты цяжкі стан рабочых Заходняй Беларусі выкарыстоўваецца соцыял-здрадніцкімі і нацыянал-шовіністычнымі партыямі. Уплыў гэтых партый (ППС, Бунд, Незалежная партыя «Працы», НПР, ХД) яшчэ даволі моцны.

Але тяжкі стан рабочых не паляпшаецца, ня гледзячы на ўсе абяцанкі ўрадовых партый і самога польскага ўраду. Таму ўплывы згоднікаў усё памяншаюцца. Выступаюць наперад задачы клясавай барацьбы супраць буржуазіі, супраць экономічнага нацыянальнага ўціску. Разам з гэтым сярод рабочых паступова ўсё больш узмацняюцца ўплывы Комуністычнае партыі, як адзінага і вернага правадыра рабочых у іх рэволюцыйнай барацьбе.

З я м е л ь н ы я а д н о с і н ы ў Заходняй Беларусі цалкам адпавядаюць тым асаблівасьцям зямельных адносін на Беларусі наогул, пра якія мы казалі ў папярэднім артыкуле.

У рамках буйных зямляўласьнікаў знаходзіцца больш як адна трэцяя частка ўсяе тэрыторыі Заходняй Беларусі. Згодна даных перапісу 1921 году, зямельная ўласнасьць звыш 50 гэктараў у ваяводзтвах Беластоцкім, Віленскім, Наваградзкім і Палескім займае 5.031.100 гэктараў або 39 проц. усёй іх тэрыторыі і складаецца з 5.602 маёнткаў.

У гэтым ліку знаходзіцца 1.051 маёнтак вышэй 500 гэктараў, што дае ўвогуле 2.833.500 гэктараў або больш 20 проц. усёй тэрыторыі.

На кожныя 1.000 гэктараў буйнай уласнасьці належыць палякам: у Беластоцкім ваяводзтве—92,3, Віленскім—88,6, Наваградзкім—84,2, Палескім—65,9.

З н а ч ы ц ь, З а х о д н я я Б е л а р у с ь а д з н а ч а е ц ц а в е л ь м і з н а ч н а й к о л ь к а с ь ц ю б у й н о й з я м е л ь н а й у л а с н а с ь ц і, п р ы ч ы м г а л о ў н ы м і

буйнымі зямляўласьнікамі зьяўляюцца палякі.

Зямлякарыстаньне беларускіх сялян вызначаецца пераважнасьцю дробных гаспадарак.

Усіх сялянскіх гаспадарак ніжэй 50 гэктараў у тых-жа чатырох паветах налічаецца каля 500.000. Гэтыя гаспадаркі падзяляюцца па колькасьці зямлі наступным чынам:

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| да 2-х гэктараў | 107.650 гаспадарак | або | 21,7% | } 61,4 |
| ад 2-х да 5 | 196.980 " | " | 39,7 " | |
| " 5 " 10 | 138.800 " | " | 28,1 " | |
| " 10 " 20 | 39.760 " | " | 8 " | |
| " 20 " 50 | 12.180 " | " | 2,5 " | |

Заходняя Беларусь перажывае надзвычайны зямельны голад. Рэформы польскага ўраду і пастановы аб парцэляцыях— разьдзеле маёнткаў—нічога сялянству не даюць. За час з 1919 па 1924 год парцэлявана было ў 4 ваяводзтвах 137.500 дзесяцін, але ў большасьці гэта зямля трапіла ў рукі польскіх колёністых і ў вельмі нязначным ліку мясцоваму сялянству.

Купіць зямлі сяляне таксама ня могуць, бо цана на зямлю надзвычайна ўзрасла, што відаць з наступнае табліцы:

Цана за 1 гэктар у злотых:

| Ваяводзтвы | 1912 г. | 1924 г. | 1925 г. |
|---|---|---|---|
| Беластоцкае . . . . | 336 | 527 | 646 |
| Віленскае . . . . . | 243 | 314 | 315 |
| Наваградзкае . . . . | 195 | 350 | 404 |
| Пінскае . . . . . | 195 | 485 | 372 |

Надзвычайна важнаю для сялянства Заходняй Беларусі справаю зьяўляюцца сэрвітуты або права сялянства карыстацца пашаю, апахам, зьбіраньнем грыбоў ды ягад у абшарніцкіх лясох.

У даўнейшай Горадзенскай губ. 59,5 проц. усіх сялянскіх гаспадарак карысталася сэрвітутамі, а ў Палесьсі гэты процант яшчэ вышэйшы. Аднак, польскі ўрад на падставе законаў 7 траўня 1920 году і 8 чэрвеня 1925 году ўзяўся за ліквідацыю сэрвітутаў і гэтым пазбавіў сялян нават тых праў, якімі яны карысталіся за царызмам.

Трэба мець на ўвазе таксама надзвычайнае зруйнаваньне вёсак у шмат якіх паветах. У часе вайны ў Зах. Беларусі зьнішчана каля 600.000 будынкаў. Польскі ўрад, сыплючы грошы на пабудову касьцёлаў, абшарніцкіх двароў, паліцэйскіх пастэрункаў, асадніцкіх двароў, блізка нічога не рабіў для дапамогі сялянству ў гэтым стасунку.

Стан яшчэ больш пагаршаецца падатковымі цяжарамі ды штрафамі за невыкананьне розных урадовых пастаноў. Шырокія слаі сялянства, ня маючы з чаго аддаваць шмат розных падаткаў, масамі адмаўляюцца ад іх. Урад адказвае на гэта жорсткімі рэпрэсыямі і прадае сялянскую маемасьць, уключна да падушак і гаршкоў. Усё гэта даводзіць да поўнага заняпаду сельскай гаспадаркі. У сучасны момант Заходняя Беларусь ў шэрагу паветаў перажывае голад з прычыны недароду ў мінулым годзе.

Адсюль відаць, што сялянства Заходняй Беларусі знаходзіцца ў надзвычай цяжкім экономічным стане. Поруч з невялікай колькасьцю буйных польскіх зямляўласьнікаў (5.602 маёнткі, з якіх 1.051 вышэй 500 гэкт.), існуе звыш 200.000 гаспадарак беларускага сялянства, якія ня могуць пракарміць сваіх гаспадароў.

Блізка ўсе сялянскія гаспадаркі зруйнаваны, апрача нязначнага ліку кулацкіх. Заходняя Беларусь, такім чынам, мае вялікую армію сялянскай беднаты, якой польскі ўрад жаднае дапамогі даць ня хоча і ня можа. Да гэтага трэба дадаць яшчэ каля 100.000 батракоў, якія працуюць у буйных гаспадарках і якіх паны надзвычайна эксплёатуюць.

Побач з узростам экономічнага вызыску і зьбядненьня сялянства Заходняй Беларусі расьце і палітычны ўціск. Ніжэй мы падаем, як характарызуе гэта III конфэрэнцыя Комуністычнае партыі Заходняй Беларусі, якая адбылася ў пачатку лютага 1926 году:

> «Пазбаўленае палітычных праў, зьведзенае да катэгорыі «быдла», церпячы ад нацыянальнага ўціску і свавольства адміністрацыі, абшарнікаў ды асаднікаў, беларускае сялянства пазбаўлена нават тых мізэрных праў, якія маюць сяляне цэнтральнай Польшчы. Адсутнасьць самаўраду, назначэньне гмінных рад, войтаў, солтысаў, забарона сельскіх сходаў і пасольскіх мітынгаў, абмежаваньне ў правах тых, хто не ўладае польскай мовай, прывілеі абшарнікам, ксяндзом ды асаднікам яскрава сьвед-

чыць аб політычным уціску на вёсцы Зах. Беларусі. Апошні год прынёс далейшае ўзмацненьне політычнага і нацыянальнага ўціску на Зах. Беларусі. На ўздым рэволюцыйнай хвалі і шырокі партызанскі рух польская буржуазія ды яе ўрад адказалі нячуваным белым тэрорам, каб задушыць усялякія праявы нездаваленьня сярод сялянства і прымусіць сыйсьці яго з рэволюцыйнага шляху. На «крэсах» уведзены стан ваенны, назначаны генэрал-ваяводы; уся паграпічная паласа запоўнена жаўнерамі паграпічнага корпусу; навялічана армія поліцыі і шпікоў. Карныя экспэдыцыі зрабіліся штодзеннай зьявай. Сялянства ня толькі было павінна зносіць зьдзекі, паняверку, але і карміць жаўнерства, якое запоўніла крэсы, дзякуючы чаму сялянства, і без таго экономічна заняпаўшае, канчаткова занепадала. Да гэтага трэба дадаць яшчэ зьдзірствы жаўнераў паграпічнага корпусу і поліцэйскіх банд. Сялянства З. Бел. ўважаецца за ворагаў дзяржавы. Стваpaюцца ваенна-палявыя (даразныя) суды, якія расстралялі сотні сялян, ня кажучы ўжо аб расстрэленых бяз судоў. Масавыя арышты ахапілі ўсю тэрыторыю Зах. Бел. Вастрогі перапоўнены сялянствам. Арыштаваных нялюдзкім спосабам білі і каталі. Аджылі цёмныя часы сярэднявякоўя.

Пазбаўленая ня толькі політычных, але і нацыянальных праў, люднасьць Зах. Бел., а перад усім заходня-беларускае сялянства, ня мае нават магчымасьці карыстаць з тых мізэрных законаў, якімі надарыў «крэсы» польскі ўрад. Языковыя «законы», якія давалі права беларускаму селяніну карыстацца роднай мовай у адміністрацыйных, судовых і самаўрадавых установах, якія давалі яму права дамагацца школы ў роднай мове, зьявіліся прычынай новай хвалі жорсткіх рэпрэсій. Школьны плебісцыт адбываўся пад знакам заўзятай барацьбы з польскай адміністрацыяй, якая рабіла ўсё магчымае, каб не дапусьціць беларускае сялянства складаць дэкларацыі аб адчыненьні беларускай школы. Адбыліся масавыя арышты, фальшаваньне вынікаў плебісцыту ды інш. Беларускіх школ нідзе не адчынена. За карыстаньне мовай у ўстановах беларускае сялянства чакаюць тыя-ж рэпрэсіі».

Мы бачым, што ў Заходняй Беларусі экономічнае прыгнечаньне сялянства, сярод якога беларусы складаюць вялізарную большасьць, ідзе побач з політычным і нацыянальным уціскам. Клясавыя супярэчнасьці між панамі-абшарнікамі і сялянствам,

якія гістарычна ў мінулым пераблытваліся з нацыянальнымі, бо пан быў у большасьці паляк, а селянін—беларус, цяпер яшчэ больш абвастрыліся дзякуючы таму, што польскі буржуазны ўрад абараняе інтарэсы польскага абшарніка і праводзіць гвалтоўную нацыянальную палітыку супраць беларускага сялянства.

Адказам на гэта зьяўляецца рэвалюцыйная барацьба сялянства разам з рабочымі супраць панства, супраць буржуазіі, прычым гэта соцыяльная барацьба носіць востры нацыянальны характар.

II Зьезд Комуністычнай Рабочай партыі Польшы, які адбыўся ў жніўні 1923 году, пра гэту барацьбу кажа так: «Выключна сілай зброі далучаны да Польшчы землі Віленская, Горадзенская і Менская, дзе большасьць насельніцтва складае беларускае сялянства. Беларускі народ ня кіне змагацца за нацыянальнае аб'яднаньне з Савецкай Беларусьсю, дзе свой работніцка-сялянскі ўрад забясьпечвае вольнае нацыянальнае разьвіцьцё.

Барацьба за аб'яднаньне народу украінскага і беларускага—ёсьць разам барацьба клясавая мас сялянскіх за зямлю супраць сваіх спрадвечных прыгнятальнікаў—абшарнікаў польскіх.

Барацьба гэтых мас народных накіравана супроць панаваньня польскіх абшарнікаў і буржуазнай дзяржавы польскай на окупаваных землях»...

V Конгрэс Комуністычнага Інтэрнацыяналу (чэрвень-ліпень 1924 году), прыняўшы асобную пастанову па беларускім пытаньні, таксама аб гэтым гаворыць. У пункце 2 рэзолюцыі па украінскім пытаньні гаворыцца: «Украінскае (трэба разумець і беларускае) насельніцтва анэксіраваных Польшчай зямель, пераважна сялянскае, перажывае надзвычайнае соцыяльнае прыгнечаньне, дзякуючы чаму барацьба за нацыянальнае вызваленьне ў гэтых землях шчыльна зьвязана з барацьбой супраць зямляўласьнікаў, капіталістых, урадоўцаў».

Такім чынам, мы бачым, што нацыянальны рух беларускага сялянства ставіць сваёй мэтай тыя-ж самыя задачы, што стаяць і перад рабочымі Польшчы, і гэта ставарае, як кажа рэзолюцыя V Конгрэсу Комінтэрну, цьвёрды фундамант для цеснага саюзу сялянства з пролетарыятам гэтых краін у супольнай барацьбе супраць соцыяльнага і нацыянальнага прыгнечаньня.

Нацыянальная барацьба ў Заходняй Беларусі адбываецца пад кіраўніцтвам Комуністычнае партыі і ідзе пад лёзунгам аб'яднаньне Заходняй Беларусі з Савецкай. Падставай для гэтага ёсьць тое, што Савецкая Беларусь зьяўляецца прыкладам, як пад кіраўніцтвам Компартыі вырашаюцца ўсе нацыянальныя і социяльныя пытаньні для Беларусі пры Савецкай уладзе, і тое, *што орыентацыя на Савецкую Беларусь* абазначае надзею рабочых і сялян Заходняй Беларусі на ўзброеную дапамогу з боку СССР.

На чале гэтай рэволюцыйнай барацьбы стаіць Комуністычная партыя Заходняй Беларусі, якая вядзе за сабою ўсе рэволюцыйныя сілы Заходняй Беларусі. Компартыя Заходняй Беларусі лічыць, што нацыянальнае вызваленьне магчыма толькі праз перамогу над буржуазіяй і што толькі шляхам аб'яднаньня рэволюцыйнай барацьбы сялянства з барацьбой рабочых ды шляхам аб'яднаньня барацьбы Заходняй Беларусі з рэволюцыйнай барацьбой усёй Польшчы магчыма дасягнуць перамогі над буржуазіяй. Вось чаму III Конфэрэнцыя Компартыі Заходняй Беларусі кажа:

> «Прымаючы пад увагу, што нацыянальнае вызваленьне магчыма толькі пасьля перамогі социяльнай рэволюцыі ва ўсёй Польшчы, і стоячы за вырашэньне нацыянальнага пытаньня на аснове ленінскага прынцыпу права нацый на самавызначэньне аж да аддзяленьня, што ў конкрэтных умовах Заходняй Беларусі абазначае далучэньне яе да БССР, партыя павінна накіраваць нацыянальнае нездаволеньне мас, як і ўсю рэволюцыйную энэргію, на зьнішчэньне ўлады польскай буржуазіі і стварэньне рабоча-сялянскай улады ў Польшчы, зьвязваючы вызваленча-рэволюцыйную барацьбу з рэволюцыйным рухам пролетарыяту і сялянства ўсёй Польшчы».

Іначай падыходзяць да вырашэньня беларускага нацыянальнага пытаньня ў Заходняй Беларусі прадстаўнікі беларускіх нацыяналістычных дробна-буржуазных, мяшчанскіх колаў.

III Конфэрэнцыя Комуністычнае партыі Заходняй Беларусі дае наступную ацэнку паступовай зьмене настрояў і дыфэрэнцыяцыі сярод гэтых груп.

> «Беларускі нацыянальны рух характарызуецца тым, што бадай пры поўнай адсутнасьці беларускай буйной буржуазіі і беларускіх абшарнікаў, слабасьці беларускай гарадзкой дробнай буржуазіі, беларускія нацыяналістычныя дробна-буржуазныя партыі і групоўкі, ня маючы для

сабе пэўнай базы па гарадох, імкнуцца знайсьці апірышча на вёсцы і вызначаюцца надзвычайным хістаньнем і бяспрынцыповасьцю сваіх палітычных арыентацый.

Сярод беларускай гарадзкой дробнай буржуазіі, інтэлігенцыі ды іх партый заўважаецца падвойная арыентацыя: адна частка імкнецца да таго, каб як дапасаваць свае палітычныя пляцформы да інтарэсаў розных слаёў сялянства; дэмагогічна высоўваючы на словах рэволюцыйныя лёзунгі, фактычна імкнецца заваяваць пад свой уплыў сялян, каб супроцьставіць іх пролетарыяту і павесьці іх на поваду буржуазіі, выкарыстаўшы іх для свайго згодніцтва з польскім урадам.

Нязначная частка беларускай інтэлігенцыі, купленая тымі ці іншымі падарункамі польскага ўраду (Аляксюк, Паўлюкевіч ды іншыя), відавочна знаходзіцца на службе ў польскай буржуазіі і вядзе варожую супроцьсавецкую контр-рэволюцыйную агітацыю.

Сярод другой часткі беларускай дробнай буржуазіі і інтэлігенцыі адбываецца процэс рэволюцыянізаваньня і ўсё большага ўзмацненьня сымпатый да вызваленчай рэволюцыйнай барацьбы рабоча-сялянскіх мас Зах. Беларусі.

Прычынай гэтага зьяўляецца, з аднаго боку, непасрэдная сувязь з рэволюцыйнай вёскай, з якой вышла беларуская інтэлігенцыя, а з другога—нацыянальная палітыка польскага ўраду. Зачыненьне беларускіх школ, недапушчэньне беларуск. інтэлігенцыі на службу ў органы самаўраду і дзяржаўныя ўстановы, звальненьне са службы чыгуначнікаў і паштова-тэлеграфных служачых беларусаў стварае вялікую масу беспрацоўнай беларускай інтэлігенцыі. Існаваньне побач БССР, дзе маладая беларуская інтэлігенцыя знаходзіць месца для сваёй працы, прысьпяшае процэс рэволюцыянізаваньня беларускай інтэлігенцыі ў Зах. Беларусі.

Агрэсыўная палітыка польскага ўраду змусіла беларускую дробную буржуазію, якая йшла пад лёзунгам «незалежнасьці», перайсьці ў опозыцыю польскаму ўраду. Гэта выразна выявілася ў часе выбараў у Віленскі сойм.

У 1922 годзе ў часе выбараў у Польскі сойм беларускія дробна-буржуазныя і сялянскія партыі ўваходзяць у блёск з дробна-буржуазнымі, сялянскімі і буржуазнымі партыямі іншых нацыянальных меншасьцяй Польшчы,

выступаючы на выбарах з праграмай аўтономіі Заходняй Беларусі, разумеючы аўтономію не як дапаможную зброю ў барацьбе з польскім імпэрыялізмам, але як канчатковае вырашэньне нацыянальнага пытаньня ў буржуазнай Польшчы і надзел сялянства зямлёй бяз выкупу.

Першым крокам Бел. Пас. Клюбу ў Сойме была спроба згоды з урадам генэрала Сікорскага. Узрост рэволюцыйных настрояў сярод беларускіх мас Зах. Беларусі, поўная адсутнасьць надзеі атрымаць якія-колечы ўступкі з боку польскай буржуазіі, змусіла Бел. Пас. Клюб перайсьці ў опозыцыю і завастрыць сваю тактыку ў стасунку да польскага ўраду. Супярэчнасьць інтарэсаў розных сялянскіх слаёў, прадстаўленых у Бел. Клюбе, давяло да расслаеньня і стварэньня розных політычных груповак унутры яго. Элемэнты, якія зьяўляюцца выказьнікамі соцыяльных і нацыянальных інтарэсаў шырокіх мас рэволюцыйнага сялянства ды інтэлігенцыі, аформляюцца спачатку ў соцыялістычную фракцыю ўнутры клюбу, а пасьля зусім парываюць з яго згодніцкай часткай, стварыўшы беларускую рабоча-сялянскую грамаду, стаўшую на пляцформе саюзу рабочае клясы з сялянствам».

У сучасны момант на тэрыторыі Зах. Беларусі існуюць такія беларускія нацыянальныя організацыі.

1. Беларуская Сялянска-Работніцкая Грамада. Стварылася яна ў траўні 1925 году. Грамада зьяўляецца радыкальнай рэволюцыйнай організацыяй, якая дамагаецца сялянска-работніцкага ўраду, самавызначэньня народаў і злучэньня ўсіх беларускіх зямель у незалежнай Рэспубліцы пад уладай рабочых і сялян. Зямля сялянам бяз выкупу, скасаваньне асадніцтва, пераложэньне падаткаў на заможныя клясы, абарона ўсіх рабочых законаў, выбарныя самаўрады, скарачэньне службы ў войску, замена арміі міліцыяй, скасаваньне політычнай поліцыі, змаганьне за поўную свабоду друку, сходаў, слова, за свабоду політычных і экономічных організацый для сялян, работнікаў і працоўнае інтэлігенцыі ды іншыя політычныя вольнасьці: выбарнасьць судоў і іх незалежнасьць ад політычнай поліцыі, бясплатнае навучаньне ў школах на роднай мове, увядзеньне роднае мовы ў установах, свабода сумленьня і аддзяленьне царквы ад дзяржавы, супроць нацыянальнага ўціску і руйнаваньня краіны,—вось аб якіх задачах гаворыць програма Грамады. За кароткі час свайго існаваньня Грамада заваявала сабе надзвычайную популярнасьць як у вёсцы, так і ў

гарадох Заходняй Беларусі. У канцы 1926 г. Грамада налічала каля 100.000 сяброў, прычым было шмат выпадкаў, калі цэлыя вёскі запісваліся ў Грамаду.

Грамада хацела лёяльна карыстацца для сваёй працы тымі правамі, якія быццам дае польская конституцыя.

Програма Грамады пра гэта кажа так: «Ідучы да сваіх мэтаў, Б. С.-Р. Грамада карыстаецца шляхам легальнай, законнай барацьбы на аснове конституцыі і права». Статут Грамады быў зацьверджаны ў урадовых установах Польшчы.

Аднак, популярнасьць Грамады сярод насельніцтва Заходняй Беларусі спалохала ўрад Пілсудзкага.

Уночы з 14 на 15 сьнежня 1927 г. па загадзя падрыхтаванаму пляну пачаўся разгром Грамады польскай паліцыяй. Арыштавалі сяброў Грамады—дэпутатаў польскага Сойму: Тарашкевіча, Рака-Міхайлоўскага, Валошына, Мятлу.

4 лютага пленум Сойму выдаў гэтых дэпутатаў суду для прыцягненьня іх да адказнасьці.

21 сакавіка міністар унутраных спраў абвесьціў Грамаду забароненай.

Па ўсёй Беларусі былі зробленыператраскі і масавыя арышты. Газэта Грамады ў большасьці конфіскуецца. Так польскі ўрад думае прыдушыць рэволюцыйны рух у Заходняй Беларусі.

Блізкай да Грамады організацыяй зьяўляецца «Таварыства Беларускае Школы», залегалізаванае ў міністэрстве ўнутраных спраў Польшчы 27 красавіка 1926 году. Таварыства ставіць «адзінай задачай разьвіцьцё беларускіх школ і беларускае асьветы наогул». Старшыня Цэнтральнай Беларускай Школьнай Рады—выканаўчага органу Таварыства—Р. Астроўскі сядзіць у турме ў Вронках разам з беларускімі дэпутатамі.

2. Беларускі Сялянскі Саюз. Партыя організавана ў другой палове 1926 году пасламі Сойму Ярэмічам і Рагуляй. «Сялянскі Саюз» зьяўляецца організацыяй дробнабуржуазных інтэлігентаў, якія ў сваёй чыннасьці хочуць абаперціся на шырокія слаі беларускага сялянства, а перад усім на сярэдняе сялянства, дапасоўваючы нібыта да яго інтарэсаў сваю пляцформу. Сваю тактыку Ярэміч і Рагуля тлумачаць так: «Пакуль мы ня маем свайго гаспадарства, дык усе беларусы прадстаўляюць як-бы адну вялікую партыю, першай і адзінай мэтай каторай ёсьць адраджэньне і вызваленьне свайго народу. Дзеля гэтага прынамсі бліжэйшыя кірункі павінны супольна

організаваць сваю працу або хоць-бы яе да некаторай меры ўзгодніць» («Сялянская Ніва» № 31, 30 верасьня 1926 году).

Галоўную ўвагу Сялянскі Саюз зварачае на заваяваньне ўплываў сярод сялянства. Правадыры Сялянскага Саюзу прадстаўляюць сабе сялянства, як адзіную клясу, якая мае агульныя інтарэсы, процілежныя ня толькі клясавым інтарэсам абшарнікаў і буржуазіі, але і клясавым інтарэсам пролетарыяту. Сялянскі Саюз дэмагогічна выкідае крайнія лёзунгі па зямельным пытаньні (зямля бяз выкупу і г. д.). Але ў той-жа час Сялянскі Саюз нацкоўвае беднага і сярэдняга селяніна Зах. Беларусі супраць сялян ды рабочых Польшчы і гэтым об'ектыўна піхае гэтую частку ў лягер кулакоў, буржуазіі. Сялянскі Саюз вядзе самае няпрыстойнае цкаваньне Савецкай Беларусі, чым сам ясна гаворыць аб сваёй палітычнай орыентацыі. Сялянскі Саюз стаіць на позыцыі буржуазнае дзяржаўнасьці і ідзе на згоду з польскім буржуазным урадам.

Уплывы Сялянскага Саюзу сярод сялянства зусім нязначныя і яго імкненьні стаць на месца Грамады вынікаў жадных не даюць.

Каб пад выглядам культурнай працы пашыраць уплывы Сялянскага Саюзу, апошнім створаны ў Вільні «Беларускі Інстытут Культуры і Гаспадаркі», які організуе свае аддзелы на мясцох. Сялянскі саюз выдае газэту «Сялянская Ніва».

3. Беларуская Хрысьціянская Дэмократыя ксяндза А. Станкевіча, каб выкарыстаць абуджэньне соцыяльнай і нацыянальнай сьвядомасьці сярод каталіцкай часткі беларускага насельніцтва (сялянства), ідзе да яго пад рэлігійнай маскай. Беларускія хадэкі стаяць на позыцыі буржуазнае дэмократыі, патрабуюць захаваньня ўсіх палітычных праў касьцёлу, прынцыпова супраць аддзяленьня царквы ад дзяржавы. Высоўваючы лёзунгі абароны соцыяльных і нацыянальных праў беларускага сялянства, хадэкі адрываюць яго ад саюзу з пролетарыятам і накіроўваюць на саюз з буржуазіяй. Беларускія хадэкі знаходзяцца ў сувязі з літоўскімі хадэкамі. У апошнія дні Віленскі арцыбіскуп Яблжыкоўскі запрапанаваў кс. Станкевічу кінуць палітычную чыннасьць, і ў адказ на гэта кс. Станкевіч адмовіўся ад пасады віцэ-прэзэса Беларускай Хадэцыі. Зараз ёй кіруюць Стэповіч, Каруза і Шуковіч.

Беларуская Хадэцыя карыстаецца некаторым уплывам сярод каталікоў-беларусаў. Хадэцыяй выдаецца лацінская газэта «Беларуская Крыніца».

4. Беларуская Рада—Беларуская Нацыянальная Партыя.

Політычная організацыя, яўна дэфэнзыўнага продажнага характару, організавалася ў 1924 годзе пад назвай «Тымчасовая Беларуская Рада».

27-га чэрвеня 1926 году быў скліканы вядомым кіраўніком Рады «доктарам Паўлюкевічам» зьезд прадстаўнікоў «беларускага насельніцтва». На гэтым зьезьдзе штукмайстар Паўлюкевіч абраў сабе не часовую, а сталую «Беларускую Раду».

22 траўня 1927 году ў Вільні адбылася «Конфэрэнцыя прадстаўнікоў паасобных лёкальных груп Беларускай Нацыянальнай Рады з паветаў Наваградчыны, Віленшчыны, Гораднеешчыны», на якой было пастаўлена і вырашана пытаньне аб утварэньні Беларускай Нацыянальнай Партыі. Аб характары гэтай «Партыі» лепш за ўсё гаворыць яе програма. Пункт 1 програмы гаворыць: «БНП лічыць сваім ідэалам незалежнасьць злучаных зямель беларускага народу». Пункт 2: «Стоячы на грунце польскай дзяржаўнасьці, БНП дамагаецца шырскай тэрыторыяльнай і культурнай аўтономіі зямель Заходняй Беларусі».

Пункт 5: «БНП змагаецца за вызваленьне зямель Усходняй Беларусі з-пад улады Комуністычнай партыі і імкнецца да злучэньня Ўсходняй Беларусі з Заходняй».

Пункт 3: «Лічачы, што ўся сіла народу ёсьць у яго нацыянальнай сьвядомасьці і еднасьці ўсіх грамадзян, БНП выстаўляе прынцып нацыянальны ў процівагу соцыяльнаму ды лічыць, што клясавая барацьба разьбівае нацыянальную еднасьць, і імкнецца да згоды і нацыянальнай еднасьці ўсяго беларускага народу, каб селянін, інтэлігент і работнік разам і згодна працавалі пад адзіным нацыянальным сьцягам над адраджэньнем і будаваньнем Беларусі».

З гэтых пунктаў, якія мы дзеля большай выразнасьці перераставілі, ясна відаць, што новая партыя ствараецца для барацьбы супроць Савецкае Беларусі, прычым яна ставіць сваёй мэтай уцягнуць у гэту барацьбу беларускія масы на падставе нацыянальнай еднасьці.

Далей у програме ёсьць яшчэ прыгажэйшыя пункты. Гаворыцца, напрыклад, што партыя стаіць за перадачу бясплатна зямлі сялянству, але ў той-жа час прызнаецца магчымым і набываньне зямлі за грошы з прычыны таго, як гаворыць п. 9 програмы, «што за час змаганьня за бясплатны надзел зямлёй беларускага сялянства, уся дзяржаўная і буйная прыватная

зямля можа быць распродана і распарцэлявана і можа зусім ня трапіць да беларускага сялянства».

А пункт 7 праграмы гаворыць, што набываньне зямлі за грошы павінна адбывацца пры дапамозе крэдыту на 50 год з боку дзяржаўных банкаў.

Адным словам, польскія абшарнікі могуць спакойна спаць пад абаронай новай партыі.

За старшыню гэтай партыі застаўся ізноў Паўлюкевіч.

Гэта арганізацыя ў сваёй газэце «Беларускае Слова» ня здымае наступных лёзунгаў: «Нацыянальнае адраджэньне. Тэрыторыяльная і культурна-нацыянальная аўтономія. Зямля сялянам на падставе ўласнасьці. Шырокі дэмократызм. Барацьба з комунізмам. Нацыянальная царква. Краёвая згода. Далучэньне Ўсходняй Беларусі да Заходняй».

Практыка працы гэтай «арганізацыі» сьведчыць, што: 1) жаднае арганізацыі ў сэнсе ўплываў сярод насельніцтва тут няма, а ёсьць платныя адзінкі польскае дэфэнзывы; 2) гэта «арганізацыя» існуе для таго, каб провоцыраваць і выкрываць усялякую праяву рэволюцыйнага вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі. Адзначаюцца з Балаховічам адносіны прыязныя; 3) гэта «арганізацыя» створана польскай дэфэнзывай, каб мець у патрэбных выпадках спрыяючы голас «беларускага народу» і асабліва каб весьці барацьбу супраць Савецкай Беларусі.

З якіх сяброў і супрацоўнікаў складаецца «арганізацыя» лепш за ўсё відаць з таго, што Каверда, забіўшы тав. Войкава,—пахаджэньня «тымчасоварадаўскага».

У контры «Школьнай Радзе» Паўлюкевіч стварыў таварыства «Прасьвета». «Радай» выдаецца газэта «Беларускае Слова».

Польскі ўрад вядзе падвойную політыку, каб зламаць рэволюцыйны рух у Заходн. Беларусі. З аднаго боку, ён ужывае рэпрэсіі, каб зьнішчыць рэволюцыйныя арганізацыі, каб не дапусьціць да зьмены існуючага экономічнага і політычнага ладу, а з другога—ён імкнецца ўсялякімі спосабамі знайсьці грунт для згоды з дробнай буржуазіяй і інтэлігенцыяй Заходняй Беларусі. Найбольш яскравы прыклад гэтай політыкі мы маем у апошнія дні: з аднаго боку, разгром Грамады, арышты яе правадыроў, а з другога—нарады з беларускімі дзеячамі аб выданьні кніг, падтрыманьне некаторых часопісаў (вядома, тых, што стаяць на грунце польскай дзяржаўнасьці), інтэрв'ю аб мерапрыемствах польскага ўраду адносна гаспадарчага разьвіцьця Зах. Беларусі і г. д.

Але мы добра ведаем, што ўсе ўрады Польшчы, у тым ліку і буржуазна-фашысцкі ўрад Пілсудзкага, ня могуць даць беларускім арбочым і сялянам таго, чаго яны вымагаюць. Адгэтуль вынікае, што той рэволюцыйны рух у Зах. Беларусі, які зьяўляецца выяўленьнем барацьбы рабочых і сялян за сваё соцыяльнае і нацыянальнае вызваленьне, будзе толькі прыдушаны польскай буржуазіяй, можа быць ёю часова спынены, але ня зьнікае, як ня могуць зьнікнуць клясавыя супярэчнасьці і нацыянальнае прыгнечаньне пры панаваньні буржуазіі.

Беларусы ў Латвіі. Латыская ўрадовая статыстыка 1920 году налічае ў Латвіі каля 70.000 беларусаў, г. зн. каля 4,29 проц. усяго насельніцтва.

Паводле свайго соцыяльнага стану гэта ў большасьці малазямельнае, беднае, малапісьменнае сялянства.

Першую працу па арганізацыі беларускай меншасьці ў Латвіі пачало весьці культурна-асьветнае таварыства «Бацькаўшчына», заснованае ў 1921 годзе К. Езавітавым.

Гэта арганізацыя захапіла, галоўным чынам, інтэлігенцкія колы беларускай меншасьці як у горадзе, так і на вёсцы, дзе яна мела каля дзесятка сваіх аддзяленьняў. Работа яе цягнулася з вясны 21 году да беларускага процэсу ў 1924-25 годзе, калі таварыства было ліквідавана. Замест зачыненага таварыства «Бацькаўшчына» ўтварылася некалькі новых суполак сярод латвійскіх беларусаў.

Як толькі выявілася, што каля старога таварыства «Бацькаўшчына» згрупаваліся і аб'ядналіся беларускія дэмократычныя элемэнты, больш правыя групы пачалі шукаць шляхоў, каб арганізаваць сваю асобную арганізацыю.

Вынікам гэтага напрамку было—стварэньне ў Рызе культурнаасьветнага таварыства «Рунь». Старшынёй гэтага таварыства зьяўляецца адзін быўш. інспэктар пачатковых школ Віндаўскага павету Ян Шчорс. Па палітычных поглядах яго можна прыраўнаваць да расійскіх кадэтаў. Ён шукае сувязі з правымі латыскімі партыямі. Увесь курс яго працы заўсёды накіраваны на дэманстраваньне яго лёяльнасьці перад уладай. Разам з Шчорсам працуе Ян Цецера. Ён ня ведае беларускае мовы, на ўсіх дакумантах лічыцца латышом, добра ведае латыскую мову і да ўваходу ў «Рунь» лічыў сябе за латыша, а зараз называе сябе «бальтыйцам», якімсьці «беларуса-латышом». Працуе ён над тым, каб схіліць беларусаў у бок бальтыцкай орыентацыі і каб зьвязаць іх з правымі латыскімі партыямі.

Праца таварыства «Рунь» вядзецца пакуль што ў Рызе, дый то не ахапіла ўсяго рыскага беларускага насельніцтва. Дэмократычныя беларускія элемэнты згрупаваліся навакол другога культурна-асьветнага таварыства «Беларуская Хата». Гэтым таварыствам кіруе настаўнік рыскай беларускай пачатковай школы Мікола Дзямідаў.

Дзямідаў па сваіх палітычных настроях чалавек нясталы. Каля году ён працуе ў сацыял-дэмократычнай партыі. Быў старшынёй 8-га Рыскага раёну гэтай партыі.

Таварыства «Беларуская Хата» мае свае аддзяленьні ў Люцыне і Дзьвінску. Яно яднае навакол сябе інтэлігенцыю і рабочых, прычым апошніх мала.

Пасьля выхаду з турмы К. Езавітава ў Латвіі стварылася першае беларускае палітычна-грамадзкае таварыства «Беларусаў-выбаршчыкаў».

Гэта таварыства ставіць сваёй задачай аб'яднаць беларускае сялянства, рабочых і працоўную інтэлігенцыю на нацыянальна-соцыяльным грунце і выхаваць палітычых працаўнікоў з сялян і працоўных. Таварыства паказала ўжо вялікую актыўнасьць, мае шэраг аддзяленьняў, аб'яднала навакол сябе, галоўным чынам, сялянства і сельскую працоўную інтэлігенцыю, а таксама мае значную колькасьць рабочых.

Латыскі ўрад адносіцца да беларускіх арганізацый у залежнасьці ад інтарэсаў буржуазнае Латвіі. У першы пэрыод латыскі ўрад дапамагаў працы і разьвіцьцю беларускіх арганізацый, бо яму было выгадней сярод сваіх грамадзян мець лёяльных беларусаў, як палякаў, якія цягнуць да Польшчы, або расійцаў, якія цягнуць да Расіі. Латвійскі ўрад думаў, што калі ён будзе дапамагаць беларускаму руху, дык гэта будзе рабіць беларусаў прыхільнікамі сучаснай Латвіі. Аднак, пасьля першага пашырэньня тэрыторыі Савецкай Беларусі ў 1924 годзе, калі з боку латыскіх беларусаў выявіліся прыхільныя адносіны да Савецкага Менску, латыскі ўрад павярнуў кола ў другі бок—пачаў зачыняць беларускія арганізацыі, наладзіў працэс супроць шэрагу дзеячоў, засадзіў іх у турму. Руская вулічная газэта ў Рызе «Вечернее Время» ўжо цешылася з прычыны «провала белорусского движения» (18-XII—24 г. № 233).

Аднак, ня гледзячы на стараньні латыскай ахранкі, абвінавачаньняў было мала і заарыштаваных мусілі з турмы выпусьціць.

Цяпер для беларусаў у Латвіі пачалася нібы новая эра: новы міністар асьветы Латвіі, поэта Райніс, заяўляе аб сваіх

спрыяючых адносінах да беларускага руху і абяцае дапамогу ў культурнай працы.

У Латвіі выходзіць беларуская газэта «Голас беларуса».

Літва. У сучаснай Літве налічаецца каля 6.000 беларускага насельніцтва, што складае 0,26 проц. усяго насельніцтва Літвы. З гэтага відаць, што вялікіх уплываў на жыцьцё Літвы і політыку літоўскага ўраду беларускае пытаньне не павінна рабіць. Аднак, сапраўды мы бачым іншае.

Літоўскія нацыяналістычныя партыі і організацыі лічаць, што Літва павінна быць вялікай дзяржавай, і што для гэтага трэба да Літвы далучыць усе тэрыторыі «Быўшага Вялікага Княства Літоўскага». На падставе гэтага, літоўская дэлегацыя дамагалася і дабілася ў часе маскоўскіх савецка-літоўскіх мірных перамаўленьняў 1920 году прызнаньня за Літвой Горадзеншчыны і Віленшчыны. Гэтыя беларускія паводле нацыянальнага складу тэрыторыі літоўскія «вучаныя» перарабляюць у літоўскія, стварыўшы «тэорыю», што беларусы названых тэрыторый—зьбеларусізаваныя літоўцы. Найбольш адважныя сярод літоўскіх нацыяналістых лічаць, што граніц 1920 году мала для Літвы, а таму патрабуюць далучэньня да Літвы часткі беларускіх тэрыторый ад сучаснай Польшчы і сучаснай Латвіі.

Аднак, Польшча, напусьціўшы ў 1920 г. на Літву «узбунтаваўшагася» генэрала Жэлігоўскага, захапіла землі Горадзеншчыны і Віленшчыны, склікала Віленскі сойм, які зрабіў пастанову аб далучэньні Сярэдняй Літвы з Вільняй да Польшчы, і дамагалася таго, што Ліга Народаў 14-га сакавіка 1923 году прызнала Вільню за Польшчай.

Спрэчныя пытаньні паміж Польшчай і Літвой і цяпер ня вырашаны.

Адсюль відаць, што літоўскія організацыі і ўрад у сваім імкненьні далучыць да Літвы значны лік беларускіх тэрыторый вымушаны лічыцца з беларускім пытаньнем.

Вельмі цікава прасачыць хронолёгічна факты, якія характарызуюць літоўска-беларускія адносіны. У 1915 годзе 19-га сьнежня ў Вільні была створана членамі літоўскіх, беларускіх, польскіх і яўрэйскіх організацый конфэдэрацыя Вялікага Княства Літоўскага, «абы Літоўскія і Беларускія землі, каторыя здаўна прыналежалі да Вялікага Княства Літоўскага... станавілі пры новых варунках гістарычных неразьдзельнае цела на фундаманце незалежнасьці Літвы і Беларусі, як суцэльнае дзяржавы...»

У 1918 годзе 15-27 кастрычніка была зроблена ўмова паміж Віленскай Беларускай Радай і Прэзыдыумам Літоўскай Тарыбы, на падставе якой Літоўская Тарыба брала на сябе абавязак бараніць незачэпнасьць заходніх беларускіх зямель з Беластокам і Бельскам, забясьпечыць аўтономнасьць беларускіх тэрыторый, беларускую мову, як дзяржаўную, сродкі, удзел у Літоўскай Тарыбе, беларускае міністэрства, школьную інспэкцыю і г. д.

У падзяку за гэта беларускія нацыяналістыя склікалі беларускі Горадзенскі зьезд, які пастанавіў аб далучэньні Горадзеншчыны да Літвы. Беларускае міністэрства пры Літоўскім урадзе пачало заклікаць добраахвотнікаў у беларускія аддзелы Літоўскай арміі для барацьбы за незалежнасьць Літвы.

У 1919 г. формальныя зносіны паміж абодвума бакамі былі нарушаны ў Парыжы на Вэрсальскай конфэрэнцыі, дзе абодва бакі, Літоўскі і Беларускі, ня сышліся па пытаньні дзяржаўнай незалежнасьці Вільні.

1920 г о д. Пасьля захопу Вільні Жэлігоўскім і падпісаньня Рыскага мірнага трактату паміж літоўскім і беларускім «БНР'аўскім урадам» быў падпісаны формальны дагавор 11-га кастрычніка 1920 году. На падставе гэтага дагавору «Беларускі ўрад» браў на сябе абавязак у выпадку плебісцыту на Віленшчыне дабіцца таго, каб беларускае насельніцтва галасавала за Літву, а Літоўскі ўрад абавязваўся політычна і матар'яльна дапамагаць беларусам. Дагавор прадугледжваў організацыю ў Літве беларускага асобнага батальёну, як пачатку будучай Літоўска-Беларускай арміі, гаварыў пра адчыненьне курсаў для беларускіх настаўнікаў, з якіх вышаў-бы кадр працаўнікоў для Віленшчыны; ставіў пытаньне аб узмацненьні рэволюцыйных баявых організацый побач з літоўскім саюзам стральцоў і г. д.

Аднак, сьвята згоды было нядоўгае. Беларускія нацыяналістычныя дзеячы шчыра працавалі на карысьць Літвы супраць Польшчы, за што польскі ўрад выслаў частку беларускіх дзеячоў з Вільні ў Коўну. Калі-ж сталі вядомы вынікі выбараў у Віленскі сойм, і асабліва, калі, ня гледзячы на актыўнае падтрыманьне з боку Літвы беларускага партызанскага руху ў Заходняй Беларусі перад разглядам пытаньня аб Вільні ў Лізе Нацый, Ліга Нацый не зьвярнула ўвагу на гэты рух і пакінула Вільню за Польшчай, літоўскі ўрад адмовіўся выконваць дагавор.

Гэты дагавор літоўскі ўрад заключыў таму, што хацеў выкарыстаць нацыянал-дэмократычныя элемэнты беларускага руху, каб пры іх дапамозе дабіцца далучэньня Вільні і Горадні да Літвы. Беларускія-ж нацыянал-дэмократычныя дзеячы, ня маючы ніякіх уплываў сярод шырокіх мас беларускага насельніцтва, меліся вырашыць пытаньне аб беларускай дзяржаўнасьці праз дапамогу з боку Літвы. Таму на практыцы ўвесь час былі непаразуменьні паміж літоўскімі і беларускімі групамі.

Беларускае міністэрства пры Літоўскім урадзе атрымлівала сродкі толькі на пэнсію нязначнаму ліку супрацоўнікаў. З вялікіх плянаў шырокай беларускай працы нічога ня вышла, бо літоўцы не давалі грошай. Літоўцы лічылі, што праца ковенскіх беларусаў можа ісьці толькі ў межах літоўска-савецкага дагавору 1920 году, а беларусы выходзілі з таго, што іх уплывы трэба пашыраць на ўсю этнографічную Заходнюю Беларусь.

Нарэшце, у канцы 1923 году літоўскі ўрад зрабіў шэраг пературасак сярод беларусаў, ліквідаваў Беларускае міністэрства, пачаў судовую справу супраць прадстаўнікоў «беларускага ўраду БНР» за незаконнае карыстаньне назвай прадстаўніка Беларускай Рэспублікі і незаконных выдач беларускіх пашпартоў.

На 1924 год грошай на Беларускае міністэрства літоўскі ўрад ня даў. Усе беларускія справы ўзяў на сябе міністар замежных спраў Літвы, пакінуўшы для супрацоўніцтва пры сабе па беларускім пытаньні Ластоўскага і Дзюшэўскага.

Міністар замежных спраў і беларускіх спраў Літвы Бальваноўскі даў інтэрв'ю ў газэту «Эхо» 28-га сьнежня 1923 году, у якім заявіў, што «белорусская политика в настоящее время является отвлеченной и бесплодной». У сувязі з гэтым ў Коўні былі ліквідаваны наступныя беларускія організацыі: «Беларуская Грамада ў Коўні», «Рада сялян-беларусаў у Літве», «Беларускі Жаночы Гурток». Дзеячы гэтых організацый пакінулі Літву.

Усе апошнія гады справа не разьвівалася і абмяжоўвалася выданьнем некалькіх кніжак і часопісу. Толькі час-часам, у залежнасьці ад міжнароднай палітычнай сітуацыі з абодвух бакоў, літоўскага і беларускага, зьяўляюцца думкі аб супольнай працы супраць Польшчы.

Ч э х а - С л а в а к і я. Дзякуючы таму, што чэха-славацкі ўрад у сваім імкненьні зрабіцца агульна-славянскім цэнтрам

дае стыпэндыі беларускім, украінскім і рускім эмігрантам, вучням і вучаным, у Прагу Чэскую зьехалася шмат беларускай моладзі, а таксама беларускіх нацыянал-дэмократычных дзеячоў, якія і складаюць у Празе Колёнію беларускіх эмігрантаў.

Амэрыка. Як вядома, у Амэрыцы, галоўным чынам у Паўночна-Амерыканскіх Злучаных Штатах, ёсьць шмат эмігрантаў з Беларусі—рабочых ды інш. У апошнія гады беларускія нацыяналістычныя організацыі зьвярнулі сваю ўвагу на амэрыканскіх беларусаў, паслалі туды з Літвы, Латвіі, Польшчы сваіх прадстаўнікоў, каб пачаць працу ў кірунку зьбіраньня грошай для Беларусі, уплываў на амэрыканскую грамадзкую думку ў спрыяючы для беларускага нацыяналістычнага руху бок і г. д.

## Беларуская політычная эміграцыя.

Варожыя Савецкай уладзе беларускія нацыяналістычныя дзеячы і організацыі, выехаўшы з Менску, заселі ў Літве, Чэха-Славакіі, Польшчы і вялі паранейшаму барацьбу супраць Саветаў.

Сярод такіх організацый найбольшую актыўнасьць выявілі Беларуская партыя соцыялістых-рэволюцыянэраў і «Ўрад Беларускай Народнай Рэспублікі». На чыннасьці гэтых організацый мы і спынімся.

Беларуская партыя соцыялістых-рэволюцыянэраў стварылася ў 1918 годзе шляхам выйсьця з Беларускай Соцыялістычнай Грамады. Галоўным разыходжаньнем між Грамадой і с.-р. было пытаньне аб адносінах да нямецкай окупацыі. Калі правая частка Грамады стала на шлях тэлеграмы да Вільгельма, дык левая частка пайшла супраць гэтага і вышла з Грамады. Выразнай прынцыповай лініі ў беларускіх с.-р. няма. Адно, што больш-менш ясна ў позыцыі с.-р.— гэта: варожыя адносіны да Савецкай Беларусі, барацьба за буржуазна-дэмократычную дзяржаўную незалежнасьць Беларусі. Аднак, і тут мы бачым увесь час хістаньні, адсутнасьць адзінай лініі ня толькі сярод сяброў партыі, але і сярод яе кіраўнікоў. Прасочым важнейшыя этапы жыцьця партыі, і гэта будзе найлепшай яе характарыстыкай.

У 1919 годзе перад польскай окупацыяй беларускія с.-р. сядзелі ў падпольлі і вялі барацьбу супраць Савецкай Беларусі.

20 красавіка 1920 г., г. зн. калі Менск быў у польскай окупацыі, на імя Цэнтральнага Камітэту Расійскай Комуністыч-

най партыі быў паданы даклад сябрам ЦК Беларускай партыі социялістых-рэволюцыянэраў Яноўскай-Бадуновай П. А., у якім яна высьвятляе стан Беларусі ў окупацыі, позыцыю сваёй партыі і гаворыць аб супольнай барацьбе і ўзаемнай дапамозе.

У гэтым дакладзе, між іншым, гаворыцца, што партыя беларускіх с.-р. стаіць на пляцформе дыктатуры пролетарыяту і незалежнасьці Савецкай Рэспублікі.

Аб II Інтэрнацыянале гаворыцца, што ён ня можа аб'яднаць навакол сябе рэволюцыйных соцыялістычных партый і што III Інтэрнацыянал зьяўляецца адзіным рэволюцыйным аб'яднаньнем усіх партый, якія вядуць барацьбу з капіталізмам. У заключэньне была просьба аб грашовай дапамозе.

Здавалася-б, што позыцыя добрая, амаль комуністычная. Аднак, другі сябра ЦК, с.-р. Тамаш Грыб, праўда пазнавата, расшыфраваў, што тое, што было напісана Яноўскай-Бадуновай, трэба разумець інача́й. Ён кажа: «У сакавіку 1920 году ў Менску быў організаваны «Цэнтральны Беларускі паўстанцкі камітэт... які вёў адкрытую барацьбу з польскімі окупацыйнымі войскамі, высоўваючы лёзунг—«ні польскіх паноў, ні маскоўскіх камісараў» [1]). Маскоўскія камісары, як вядома, ёсьць камісары Савецкага ўраду або дыктатуры пролетарыяту, і мы бачым, што ў той час, як адзін сябра ЦК клянецца дыктатурай пролетарыяту, другі кляне гэтую самую дыктатуру.

Ліпень 1920 году прынёс вызваленьне Беларусі ад белапалякаў. Комуністычная партыя Беларусі стаяла на чале барацьбы працоўных за вызваленьне і хацела ўцягнуць у гэту барацьбу як мага большы лік беларускіх працаўнікоў. Калі 1 жніўня 1920 г. ствараўся Беларускі Рэволюцыйны Камітэт, дык быўшым у Менску беларускім с.-р. было прапанована ўвайсьці ў яго склад. Аднак, яны на гэта не згадзіліся, бо, паводле заявы трэцяга сябра ЦК беларускіх с.-р. Мамонькі, яны стаяць на позыцыі Беларускай Народнай Рэспублікі, а не Савецкай.

Кароткі час легальнай працы беларускіх с.-р. у 1920 годзе пры Савецкай уладзе, калі яны мелі газэту «Змаганьне», клюб быў імі выкарыстаны для контр-рэволюцыйнай, супрацьсавецкай працы. Выбары ў Саветы паказалі, што за імі ніхто ня ідзе. Тады, бачачы, што далейшая праца ў Савецкай Беларусі будзе для іх немагчыма, яны часткова перабраліся за

---

[1]) „Знамя борьбы". Орган заграничной делегации левых социалистов-революционеров и союза с.-р. максималистов. № 1, 20 марта 1924 года. Белоруссия. Томаш Гриб.

мяжу, а часткова засталіся ў Савецкай Беларусі, кінуўшы сваю партыйную працу. Тая частка беларускіх с.-р., што засталася, увайшла ў практычую працу Савецкай Беларусі, пачала шчыра працаваць і нарэшце 6-7 чэрвеня ў 1924 годзе склікала конфэрэнцыю партыі, на якой было пастаноўлена ліквідаваць партыю.

Выехаўшая заграніцу частка беларускіх с.-р. ня спыніла сваёй чыннасьці. Праўда, лік с.-р.-эмігрантаў быў ўвесь час нязначны, але гэта не зьмяншала іх прэтэнзіі на монополію прадстаўніцтва ўсяго рэволюцыйнага руху Беларусі. Ня маючы пад сабой ніякага грунту, бо ўплываў сярод мас у іх ня было, беларускія с.-р. вялі сваю працу шляхам дэкляроцый і прадстаўніцтва ў розных замежных організацыях.

30 жніўня 1922 году беларускія с.-р. паслалі мэморандум Венскаму Соцыялістычнаму аб'яднаньню, ці так званаму Двухспаловаму Інтэрнацыяналу, з просьбай аб дапамозе беларускім с.-р. у барацьбе за «Бацькаўшчыну». У гэтай заяве гаворыцца, што, па думцы беларускіх с.-р., «паміж Савецкай Расіяй і Польшчай у адносінах да Беларусі існуе быццам напісаная згода аб узаемаадносінах». Падпісалі мэморандум А. Карабач і В. Пракулевіч.

26 верасьня таго-ж году беларускія с.-р. разам з іншымі падпісваюць протэст супраць суду над расійскімі с.-р.

Наогул адносіны замежных беларускіх с.-р. да Саветаў увесь час варожыя.

Беларускія с.-р., колькасьць якіх зьменшылася літаральна да паловы дзясятка, кінуліся было ў II Інтэрнацыянал, які яны раней хаялі. Але іх не прынялі.

Затое беларускіх с.-р. прынялі ў Міжнароднае Інформацыйнае Бюро, якое стварылася 15 ліпня 1923 г. ў Франкфурце на Майне.

Каб зразумець характар гэтага бюро, досыць пазнаёміцца з яго складам:

Кіраўніцтва даручана—Ледэбуру.

Увайшлі: ад соц.-комуністых Францыі—Поль Луі і Эдмонд Нойман.

Незалежных соц.-дэмократаў Нямеччыны—т. Лібкнэхт і Вігман.

Левых с.-р. і саюзу с.-р. максімалістых
Расіі . . . . . . . . . . Штэйнбэрг.
„Бунд" Польшчы . . . . . . . . Эрліх.
Рэволюцыйных соцыялістых (народнікаў) Літвы . . А. Беркунас.
Украінскіх с.-р. . . . . . . . . Коберскі, Стахів.
Беларускіх с.-р. . . . . . . . . . Бадунова.

Адным словам, усе, хто сядзіць паміж двума крэсламі і ідзе супраць Савецкай улады, як дыктатуры пролетарыяту, уваходзіць у гэта Бюро.

У 1925 годзе ў беларускіх с.-р. была магчымасьць яшчэ раз выявіць свае адносіны да Савецкай Беларусі ў часе 2-й політычнай нарады ў Бэрліне, калі была вынесена пастанова аб ліквідацыі «ўраду БНР» на карысьць Савецкай Беларусі. Але і тут беларускія с.-р. засталіся вернымі сваёй контр-рэволюцыйнай сутнасьці і, замест дапамогі Савецкай Беларусі, пайшлі па шляху провокацыі. Апошнія весткі гавораць аб тым, што нібы польскія ўрадовыя ўстановы вядуць перамаўленьні з сябрам ЦК няіснуючай ужо партыі беларускіх соцыялістых-рэволюцыянэраў, Язэп Мамонька, аб супрацоўніцтве навакол газ. «Беларускі Дзень», якая выдаецца на грошы з крыніц дэфэнзыўных.

«Урад БНР». Як вядома, так званы Ўсебеларускі конгрэс 1917 году за сваю контр-рэволюцыйнасьць і яўную варожасьць да Саветаў быў распушчаны Саветам Народных Камісараў Заходняй Вобласьці і Фронту. Аднак, пасьля конгрэсу засталася Рада конгрэсу, якая, засеўшы ў падпольлі, пачала барацьбу супроць Саветаў. Вось як пра гэта кажа ў мэморандуме ад 20-га студзеня 1920 г. да ўсіх буржуазных урадаў Амэрыкі і Эўропы «шэф вайскова-дыплёматычнай місіі Беларускай Народнай Рэспублікі ў Латвіі і Эстоніі палкоўнік К. Езавітаў»: «Пачынаючы з першых дзён свайго ўтварэньня, а іменна—з 17-га сьнежня 1917 году, «Урад БНР» стаў на шлях адкрытай і бязьлітаснай барацьбы з бальшавікамі. На тэрыторыі Беларусі і розных канцох Расіі, ня гледзячы на перашкоды з боку бальшавікоў, створаны беларускія аддзелы, якія паступова сьцягваліся да гораду Менску, дзе на чале з генэралам ад інфантэрыі—Кандратовічам працаваў Цэнтральны Беларускі Вайсковы Штаб».

Гэта прызнаньне вельмі цікава, бо яно кладзе канец усялякім непаразуменьням аб характары і задачах тых беларускіх груп, што ядналіся навакол ідэі «Беларускай Народнай Рэспублікі». Калі ў лютым 1918 году Савецкай уладзе давялося адыйсьці ад Менску, дык у першы-ж дзень выплылі наповерх

жыцьця беларускія вайсковыя аддзелы пад камандай К. Езавітава, якія, разам з польскімі легіянэрамі, дапамагалі лавіць бальшавікоў.

Немцы адабралі зброю ад польскіх легіянэраў і беларускіх аддзелаў.

Пад аховай нямецкіх окупантаў была склікана ў Менску «Рада Ўсебеларускага Конгрэсу» з прадстаўнікамі адроджаных земстваў, гарадзкіх самаўрадаў і нацыянальных меншасьцяй.

Рада шукала падтрыманьня з боку.

10-га сакавіка Рада пастанавіла пасла́ць прывітальную тэлеграму Вільгельму II з падзякай за вызваленьне ад бальшавікоў і з просьбай аб дапамозе.

25 сакавіка Рада абвесьціла Беларусь незалежнай дэмократычнай Рэспублікай, Беларускай Народнай Республікай БНР, і заявіла аб разрыве з Расіяй.

Гэтых крокаў Рады не сьцярпелі нават соцыял-згодніцкія партыі—Бунд, беларускія соцыялістыя-рэволюцыянэры і выйшлі з складу Рады. «Рада Конгрэсу» прыняла назву Рады Беларускай Народнай Рэспублікі і назначыла ўрад пад назвай—Народнага Сакратарыяту з Я. Варонкай на чале.

Нямецкая рэволюцыя прысьпешыла вызваленьне Беларусі з-пад нямецкай окупацыі.

Разам з немцамі ўцякалі з Менску і «БНР'аўцы».

Клясавая буржуазная сутнасьць ідэолёгаў «БНР» яшчэ раз яскрава выявілася ў час абвешчаньня Беларускай Савецкай Соцыялістычнай Рэспублікі 1 сьнежня 1919 г. Здавалася-б, што гэтым абвешчаньнем незалежнасьці Беларусі, дзяржаўнасьць якой будуецца на падставе саюзу рабочых і сялян, павінны былі задаволіцца тыя, хто на ўвесь сьвет крычаў аб беларускім народзе, аб «незалежнасьці» і г. д.

Аднак толькі нязначная часта «радаўцаў» стала на шлях прызнаньня Савецкай Беларусі (сярод іх можна адзначыць д-ра Сераду, быўшага старшынёй 1-га Ўсебеларускага Конгрэсу). Што-ж да ядра «радаўскіх» дзеячоў, дык яны з яшчэ большай упартасьцю пачалі весьці барацьбу супроць Саветаў.

Здараецца, кажуць: варожасьць «радаўцаў» да Саветаў тлумачыцца тым, што нібы яны ня верылі ў шчырасьць Савецкай улады, лічылі незалежнасьць Савецкай Беларусі толькі політычным манэўрам і г. д. Але тэта ня так.

В. Каліноўскі (псэўдонім А. Луцкевіча) у кніжцы «Kwesta Wschodnia a Białoruś».(Варшава, 1920 г.) піша: «Гэты акт (абвешчаньне Савецкай Беларусі) выклікаў надзвычайнае

ўражаньне сярод шырокіх мас насельніцтва Беларусі... І гэта яшчэ больш узмоцніла становішча беларускіх дзяржаўнікаў, бо перанесла былыя спрэчкі аб прызнаньні або няпрызнаньні дзяржаўнасьці Беларусі на грунт дылемы: канстытуцыйнасьць ці зьезд Саветаў, устрой дэмакратычны ці бальшавіцкая сыстэма». Значыць, варожасьць да Саветаў і Савецкай Беларусі тлумачыцца тым, што «Ўрад БНР» марыў аб буржуазнай дэмакратычнасьці, бо яго сэрцу ня мілы былі Саветы рабочых, сялянскіх і салдацкіх дэпутатаў.

Сярод часткі беларускіх «незалежнікаў» яшчэ раней ставілася пытаньне аб злучэньні літоўска-беларускіх сіл у барацьбе за незалежнасьць Літвы і Беларусі. 15-28 кастрычніка 1918 году была зроблена ўмова паміж Віленскай Беларускай Радай і Літоўскай Тарыбай аб узаемадапамозе. Гэта было тым больш патрэбна і стала магчымым, бо рабілася вачавідным, што надзеі на дапамогу з боку польскае дэмократыі не даюць добрых вынікаў: польская буржуазія, дабіўшыся аднаўленьня буржуазнае польскае дзяржавы, захапілася імкненьнем аднавіць Вялікую Польшчу ў межах 1772 г., зн. далучэньнем беларускіх і літоўскіх тэрыторый. Была, такім чынам, пагроза з боку польскага імпэрыялізму Літве і Беларусі, і таму была падстава для аб'яднаньня буржуазна-дэмократычных колаў Літвы і Беларусі.

У 1918 г. «Ўрад БНР» пераехаў у Коўну.

Чыннасьць «Ураду» за гэты час была накіравана на тое, каб як-небудзь умацавацца і знайсьці дапамогу для барацьбы супраць Савецкай Беларусі. Добры малюнак чыннасьці «Ўраду» за гэты час дае справаздачны даклад «шэфу дыплёматычнай місіі ў Латвіі і Эстоніі палкоўніка К. Езавітава».

«Місія,—гаворыцца ў дакладзе,—па даручэньні Ўраду была занята навязваньнем стасунку з урадам Расіі ў справах вызнаньня незалежнасьці Беларусі. У гэтых мэтах вяліся непасрэдныя гутаркі з поўнамоцным Заходнім урадам графа Ліанозава, гутаркі з Савецкім Урадам Расіі. Гутаркі з Ліанозавым, якія вяліся ў часе найбольшых вайсковых посьпехаў яго арміі, хаця і выявілі прыхільнасьць да нас некаторых міністраў, але ў цэлым не прывялі да конкрэтнага прызнаньня Беларусі».

У другім месцы мы чытаем: «Што датычыцца адносін да Вялікарасіі, то, з аднаго боку, сярод беларусаў няма зусім бальшавікоў, і беларусы вядуць барацьбу супраць вялікарускіх бальшавікоў з самага пачатку, а з другога боку, Беларусь не прызнае праў за ўрадамі Калчака, Дэнікіна, Юдзеніча на ўмеш-

ваньне ў беларускія справы, і свае адносіны да іх вызначае ў залежнасьці ад прызнаньня імі новых дзяржаў».

Усюль, дзе зьяўляліся контр-рэволюцыйныя цэнтры, былі прадстаўнікі «Ўраду БНР», якія свае адносіны да контр-рэволюцыі ставілі толькі ў залежнасьць ад прызнаньня ці няпрызнаньня БНР.

Кожная політыка мае сваім працягам узброеную сілу. «Урад БНР» таксама шукае ўзброенай сілы.

Булак-Балаховіч робіцца беларускім патрыётам і ідзе на службу да «Ўраду БНР».

Той самы даклад К. Езавітава гаворыць: «добра наладжаная ў лістападзе справа, прывёўшая да стварэньня асобнага атраду БНР генэрала Булак-Балаховіча, прыняўшага і беларускую форму, і беларускі настрой і з а п а л і ў ш а г а с я б е л а р у с к і м п а т р ы ё т ы з м а м, вельмі добра ішла ўвесь сьнежань і пачатак студзеня 1920 году.

Ня гледзячы на тое, што місія ня мела грошай на вайсковыя выдаткі, хаця на гэтыя выдаткі ўрад асыгнаваў пры пасылцы місіі поўмільёна нямецкіх марак, але потым іх ня даў..., удалося згуртаваць некалькі тысяч людзей на чужой тэрыторыі і за чужы кошт абмундыраваць іх у нацыянальную форму, распропагандаваць іх нацыянальнае пачуцьцё і сапраўды зрабіць беларускі атрад».

Усё было готова, каб ісьці на Полацак супраць саветаў, была выпушчана паштовая марка асобнага аддзелу БНР, загатоўлены проект папяровых грошай, атрыманы ад амэрыканскай місіі мэдыкамэнты і абсталяваны паходны лазарэт. Не хапіла «некалькіх сот нямецкіх марак».

«Булак-Балаховіч у поісках грошай у магчымасьці захаваць атрад пачаў гутарыць з Польскім урадам аб прыняцьці атраду на польскую службу, што і было зроблена»,—з сумам гаворыць дакладчык.

Гэта ўсё вельмі характэрна, хаця трэба мець на ўвазе, што на дакладзе зроблена такая рэзолюцыя «Старшыні Савету міністраў БНР»: «У дакладзе многа самахвальства і мала рэальных даных. Самы тон дакладу бахвальскі і няпрыстойны. В. Ластоўскі».

Окупацыя беларускіх тэрыторый з Менскам польскім войскам адзначылася адозвай Пілсудзкага «да грамадзян колішняга В. Княства Літоўскага», у якім мы, між іншым, чытаем: «Польскія войскі, якія я прывёў з сабой, каб скінуць панаваньне гвалту і насільства, каб скінуць уласьць, ня згодную з воляй

насяленьня краю,—войска гэтае нясе ўсім вам вызваленьне і свабоду».

У зьвязку з гэтымі падзеямі, падняліся настроі беларускіх нацыяналістычных груп, з ухілам полёнофільскім, у пераконаньнях якіх ляжыць думка «калі не Беларусь, дык Польшча».

Справа ў тым, што Пілсудзкі, які адбівае настроі найбольш нацыяналістычных колаў польскай буйнай і дробнай буржуазіі, зьяўляецца ідэолёгам адраджэньня «Вялікай Польшчы ад мора да мора». Шмат хто думае, што за адзін з шляхоў да зьдзейсьненьня гэтых мар Пілсудзкі лічыць Фэдэрацыйную Польшчу з Беларусьсю і Літвой, як аўтономнымі часткамі ў яе складзе. Сам Пілсудзкі, трэба сказаць, ясна пра гэта нідзе не казаў. Але ён ніколі і не пярэчыў, калі другія кажуць, што ён так думае. Гэта звычайны мэтод Пілсудзкага.

І вось, шмат хто з тых беларускіх дзеячоў, што страцілі веру ў шчырасьць польскай дэмократыі адносна разьвязаньня беларускага пытаньня, доўгі час верылі ў асобу Пілсудзкага. Нават найбольш асьцярожны і, трэба сказаць, найбольш дзельны ды разумны з групы «незалежнікаў» А. Луцкевіч, паддаўшыся гэтым настроям, зрабіў спробу тэорэтычна ўгрунтаваць думку аб патрэбе для Польшчы разьвязаць беларускае пытаньне шляхам дапамогі стварэньню Беларускай Дэмократычнай Дзяржавы.

Разважаньні В. Каліноўскага (А. Луцкевіча) у кніжцы «Kwestja Wschodnia a Białoruś» ідуць наступным парадкам: Прычына сучаснае вайны—рынкі збыту, сыравіна. Вэрсальскі мір ня выключыў магчымасьці новае вайны. Польшчы трэба гэта мець на ўвазе і рыхтавацца да новае вайны. Якім-жа шляхам? Саюз з немцамі немагчымы, бо гэта абмяжуе Польшчу на ролю дастаўшчыка сыравіны, на ролю нямецкай колёніі. Зруйнованая Расія таксама ня можа быць саюзьнікам Польшчы. Адсюль вынікае патрэба «ўтварэньня ўласнае сілы, досыць значнай, каб адбіваць усялякія замахі як з Усходу, так і з Захаду».

Для гэтага трэба, каб Польшча пераняла ад Расіі ролю славянскага цэнтру; Польшча павінна зрабіцца асяродкам, навакол якога маглі-б аб'яднацца, папершае, былыя землі Расійскае дзяржавы паміж Бальтыкай і Чорным морам, а далей, пры спрыяючых умовах, Чэха-Славакія, Паўднёвая Славія ды іншыя.

Вось чаму трэба Польшчы падумаць і аб Беларусі. Беларускае пытаньне за гэты час набыло міжнародны характар. Таму «справа беларуская ёсьць для панства Польскага так важ-

най, што каб яе зусім ня было, то трэба было-б утварыць». У падзяку за гэта «Беларусь пойдзе рука ў руку з тым, хто ў хвілі найбольш важнай дасьць ёй дапамогу».

Такім чынам даводзілася, што Польшча, як дзяржава, зацікаўлена ў стварэньні беларускае дзяржаўнасьці і ў аддзяленьні Беларусі ад Расіі.

У кастрычніку—сьнежні 1919 г. ў Менску была склікана сэсія Рады з прадстаўнікамі беларускіх арганізацый.

Калі Польская ўлада давала дазвол на склíканьне Рады, дык перад гэтым яе запэўнілі, што Рада вынесе пастанову аб фэдэрацыі з Польшчай. Аднак, панаваньне польскіх окупантаў за гэты час досыць яскрава паказала ўсю няшчырасьць польскай улады. Дэлегаты з месц сталі ў опозыцыю полёнофільскай частцы «радаўскай верхавінкі». Быў абраны новы савет народных міністраў з В. Ластоўскім на чале. А. Луцкевіч быў далікатна інтэрнаваны ў Варшаве, куды яго выклікалі для абгаварэньня пытаньняў аб фэдэрацыі і дзе толькі пасьмяяліся з яго плянаў.

Правая частка Рады абвесьціла незаконным новы ўрад і, сабраўшыся асобна, абрала так званую «Найвышэйшую Раду» з надзеяй пры дапамозе Пілсудзкага «вызваліць беларускі народ і стварыць аўтономную Беларусь у межах Польшчы 1772 году».

«Савет народных міністраў» быў часткай арыштаваным, часткай выехаў у Коўну.

«Найвышэйшая Рада» стварыла «Беларускую Вайсковую Камісію», каб арганізаваць беларускія палкі польскага войска для барацьбы супраць Чырвонае арміі, якая ў гэты час пачала свой наступ на польскім фронце.

Разам з польскімі окупантамі выкаціліся з Менску найбольш актыўныя сябры «Найвышэйшай Рады» і «Беларускай Вайсковай Камісіі».

Ужо пасьля падпісаньня савецка-польскага дагавору аб сканчэньні ваенных боек Польшча выпусьціла супраць Беларусі Булак-Балаховіча, які разам з Савінкавым і Аляксюком пайшлі вызваляць Беларусь ад бальшавікоў. Польскі ўрад думаў, што Булак-Балаховіч адыграе на Беларусі тую ролю, якую адыграў Жэлігоўскі ў Вільні. Булак-Балаховічу 10 лістапада 1920 году ўдалося забраць Мазыр, дайсьці да Рэчыцы. Беларускі палітычны камітэт з Аляксюком і Дзергачом-Адамовічам на чале выпусьцілі адозву, што «бацька Балаховіч» нясе вызваленьне Беларусі. Усюды, дзе ішоў Балаховіч, прайшла паласа пагро-

маў, забойстваў, гвалтаў, пажараў. Мазыршчына добра памятае гэты час. Аднак сіламі Чырвонае арміі пры дапамозе беларускіх рабочых і сялян банды Балаховіча пад канец лістапада 1920 г. былі разьбіты і выгнаны за Савецкую мяжу.

Далейшая палітыка польскага ўраду на «Крэсах Усходніх» ясна паказала праўдзівы твар польскай буржуазіі і ў значнай меры паслабіла полёнофільскую хвалю сярод беларускіх нацыяналістых. Польская орыентацыя нявыпраўдала надзей беларускіх нацыяналістых.

Галоўная праца «Ўраду БНР» ізноў пераносіцца ў Літву, з якой 13 кастрычніка 1920 году была зроблена ўмова аб супрацоўніцтве.

Каб высьветліць агульны погляд розных беларускіх організацый на сытуацыю, а таксама далейшыя задачы працы, 28 верасьня 1921 году ў Празе Чэскай была склікана першая *беларуская нацыянальна-політычная нарада.*

Галоўная роля на гэтай нарадзе належала «Ўраду БНР» і з партый—беларускім с.-р. Гэта нарада зрабіла шэраг пастаноў як програмнага, так і тактычнага зьместу.

У рэзолюцыі нарады аб дзяржаўным будаўніцтве Беларусі гаворыцца: «Беларусь зьяўляецца краінай працоўнага беларускага сялянства, рабочых і працоўнай інтэлігенцыі, для чаго Беларусь павінна быць дзяржавай працоўнага народу».

Далей, зазначыўшы, што трэба адмовіцца ад розных орыентацый і ўзяць орыентацыю на працоўны беларускі народ, рэзолюцыя заўважае, «што адным законадаўчым органам Беларусі зьяўляецца Рада БНР, што адзінай законнай уладай Беларусі зьяўляецца «Ўрад БНР», маючы мандат ад Рады БНР.

Мы бачым, што гэта нарада, зазначыўшая, што орыентацыі нічога добрага не нясуць і што трэба ўзяць орыентацыю на працоўны народ, засталася на грунце барацьбы супраць Саветаў і Савецкай Беларусі.

У той час, калі ўжо існавала Савецкая Беларусь, політычная нарада прызнае адзіным цэнтрам і адзінай уладай—«Ўрад БНР». У далейшых рэзолюцыях гаворыцца, што Беларусь знаходзіцца пад уладай окупантаў, прычым улада белапалякаў у Зах. Беларусі прыраўноўваецца да Савецкай улады Савецкай Беларусі. Нарада выказвае спачуваньне слуцкім паўстанцам, якія былі ашуканы Паўлюкевічам і Беларускай Вайсковай Камісіяй, і ў часе савецка-польскай вайны пайшлі ў польскае войска супраць Чырвонай арміі, а потым уліліся ў банды

Б.-Балаховіча. Праская палітычная нарада зьявілася сыгналам для далейшай барацьбы супраць Саветаў.

Але і гэта нарада не магла даць сілы для пашырэньня ўплываў і працы Ўраду БНР. Пачаўся канчатковы распад эміграцыі. Старшыня савету міністраў В. Ластоўскі, стаўшы цьвёрда на шлях згоды з Літвой, падпісаў у Генуі ў 1922 г. заяву аб далучэньні Вільні да Літвы. Гэта, між іншым, зьявілася прычынай і паслухмянай службы. Калі пасьля вырашэньня Лігай На-

Але гэта вельмі не спадабалася Літоўскаму ураду. Літоўскі ўрад патрабаваў за грошы, якія ён выдаваў «Ураду БНР», вернай і паслухмянай службы. Калі пасьля вырашэньня Лігай Нацый віленскага пытаньня патрэба ў гэтай службе мінула, дык Літоўскі ўрад адмовіўся выконваць умову 1920 г., абмежаваўся тым, што пакінуў пры міністру замежных спраў двух супрацоўнікаў па беларускім пытаньні. В. Ластоўскі і К. Дзюшэўскі ў якасьці такіх супрацоўнікаў, каб дагадзіць літоўскаму нацыялістычнаму ураду, утварылі новую тэрыторыю, што Беларусі няма, а ёсьць Крывія, і што Крывія зусім блізкая да Літвы.

Так сумна скончыліся надзеі беларускіх літоўскафілаў.

1924 г. прынёс значнае ўзмацненьне Савецкай Беларусі. Весткі аб культурных і экономічных дасягненьнях Савецкай Беларусі пачалі выходзіць далёка за Савецкую мяжу. 6-7 чэрвеня беларускія с.-р. ў Менску пастанавілі ліквідаваць сваю партыю. Усё гэта рабіла надзвычайнае ўражаньне на беларускую інтэлігенцыю, уносіла новыя настроі і ў шэрагі «БНР'аўцаў». Імкненьне ў Сав. Беларусь рабілася агульным.

Аднак, не хацелася «Ўраду БНР» адразу здавацца.

2-га сьнежня 1924 году старшыня Рады Беларускай Народнай Рэспублікі П. Крычэўскі паслаў ноту Старшыні Конфэрэнцыі паслоў Эрріо. У гэтай ноце гаворыцца наступнае: барацьба супраць бальшавізму магчыма толькі на нацыянальнай глебе. Заспакаеньне Ўсходняй Эўропы магчыма, калі дзяржавы Эўропы прызнаюць незалежнасьць беларускай народнай рэспублікі. Гэта прызнаньне мела-б вынікам таксама далучэньне да БНР Савецкай Беларускай Рэспублікі, дзякуючы чаму як для Эўропы, так і для Польшчы было-б лягчэй весьці барацьбу супраць чырвонай дыктатуры Масквы. Далей ідзе просьба не вырашаць віленскага пытаньня бяз удзелу «Ўраду БНР».

У гэты-ж час было падана яшчэ некалькі падобных мэмарандумаў, дакладаў у Лігу Нацый. Аднак, ня гледзячы на зусім ясную пропозыцыю з боку «Ўраду БНР» прадацца Лізе Нацый

для барацьбы з бальшавікамі, як нам вядома, адказаў «Урад» не атрымаў. Надзея на «справядлівасьць» Лігі Нацый таксама ня спраўдзілася.

Орыентацыі ўсе былі спрабаваны, грошы ў «Урада БНР» вышлі. Нават дапамога з боку Чэха-Славакіі рабілася ўсё меншай ды меншай. Беларускі народ гэты час у Савецкай Беларусі рабіў усё новыя посьпехі ў сваім будаўніцтве і разьвіцьці.

Трэба было быць або ашуканцам, або непапраўным ворагам народу, каб гэтага ня бачыць.

15-га кастрычніка 1925 г. ў Бэрліне адбылася 2-ая палітычная беларуская нарада, у парадак дню якой былі пастаўлены пытаньні:

1. Аб агульным палітычным стане Беларусі.
2. Аб так званай «крывіцкай пропагандзе».
3. Аб беларуска-літоўскіх адносінах.
4. Аб сусьветным конгрэсе беларусаведаў у Менску.

Нарада прызнала «крывіцкую пропаганду» за шкодную інтарэсам беларускага нацыянальнага адраджэньня; прызнала, што адносіны Літвы да беларускай справы зьяўляюцца няшчырымі, бо «літоўская палітыка» ўвесь час імкнулася і надалей імкнецца разглядаць беларусаў толькі як службовую сабе сілу ў спрэчцы з Польшчаю за Вільню, а таму нарада заявіла супраць гэтага протэст, пастанавіла, што справа Вільні можа быць вырашана толькі праз рэфэрэндум. Нарада зганіла тых, хто згаджаецца супрацоўнічаць з літоўскім урадам.

Самая важная пастанова нарады—гэта аб агульным палітычным стане Беларусі. Падаем яе цалкам: «Заслухаўшы даклад Палітычнай Сэкцыі аб агульным палітычным становішчы Беларусі, нарада констатуе: падзел, замацаваны Рыскім трактатам, да сяго дню рэжа жывое цела адзінага беларускага народу. Нарада сьведчыць, што яна, як і ўвесь народ, ня лічыцца з гэтым падзелам, як з актам міжнародна-праўным, і заклікае ўсе сьвядомыя беларускія сілы далей змагацца за аб'яднаньне ўсяе Беларусі ў адзінае дзяржаўнае цэлае.

Нарада констатуе, што валаданьне Польшчай над Зах. Беларусьсю ёсьць акт гвалтоўнай окупацыі. Дзяржаўных праў Польшчы на захапленьне абшары нарада не прызнае. Нарада рашуча протэстуе супраць нячуваных зьдзекаў, якія творыць польская ўлада над безабаронным беларускім жыхарствам.

Разам з тым нарада вызнае, што на Ўсходніх абшарах Беларусі створана Беларуская дзяржава ў форме Беларускай Ра-

давай Рэспублікі. Нарада вызнае справядлівым, каб да гэтай рэспублікі былі далучаны, згодна волі мясцовага жыхарства, беларускія часткі, як, прыкладам Гомель і іншыя ўсходнія паветы.

Нарада вызнае, што «надзвычайную важнасьць мае імкненьне Радавай Беларусі да зьдзейсьненьня нацыянальна-дзяржаўнага ідэалу беларускага народу і, вызначаючы Менск, як цэнтр Беларускага адраджэньня, лічыць усялякія спробы актыўнай барацьбы супроць яго здрадай справе вызваленчага беларускага руху».

Пастановы нарады падпісалі: А. Цьвікевіч, К. Езавітаў, І. Пракулевіч, А. Галавінскі і Л. Заяц.

15-га ж кастрычніка адбылося пасяджэньне Рады народных міністраў БНР, на якім прынята такая пастанова: «У зьвязку з сучасным становішчам Беларусі, Заходняя часьць якой знаходзіцца пад окупацыяй Польшчы, а Ўсходняя творыць Беларускую Савецкую Рэспубліку ў складзе Соцыялістычнага Савецкага Саюзу ў мэтах аб'яднаньня ўсіх сіл народу *для яго поўнага нацыянальна-соцыяльнага вызваленьня* ў поўным паразуменьні з краявымі беларускімі організацыямі,— пастанавілі абвесьціць ад сёнешняга дню Ўрад БНР зьліквідаваным і спыніўшым сваю дзейнасьць».

Дадаткова да гэтага была прынята такая пастанова: «У сьвядомасьці таго, што ўлада сялян і работнікаў, замацаваная ў Менску—сталіцы Радавай Беларусі—запраўдна імкнецца адрадзіць Беларускі Народ культурна, экономічна і дзяржаўна, што Радавая Беларусь ёсьць адзіная рэальная сіла, якая можа вызваліць Заходнюю Беларусь ад польскага іга, у поўным паразуменьні з краявымі організацыямі, пастанавілі: спыніць існаваньне Ўраду БНР і прызнаць Менск адзіным цэнтрам нацыянальна-дзяржаўнага адраджэньня Беларусі».

Так паступова прышлі беларускія эміграцкія групы да прызнаньня Савецкай Беларусі.

Шэраг былых удзельнікаў «Ураду БНР» цяпер добра і шчыра працуе ў Савецкай Беларусі.

## ЗЬМЕСТ

## Заўважаныя памылкі.

| *Стар.:* | *Радок:* | *Надрукавана:* | *Трэба чытаць:* |
|---|---|---|---|
| 7 | 2 зьнізу | працоўныя | праўныя |
| 9 | 15 „ | па | на |
| 20 | 11 зьверху | паачлося | пачалося |
| 22 | 1 „ | вучаны | вучоны |
| 27 | 8 „ | ПППС | ППС |
| 37 | 5 зьнізу | абвясьці | абвясьцілі |
| 41 | 20 зьверху | Конгрэсе. | Коңгрэсе |
| 73 | 2 і 3 зьнізу | беларусаў—78,3 проц., яўрэяў—8,3 проц. | беларусаў—78,1 проц., яўрэяў—8,1 проц. |
| 74 | 5 зьверху | *палякаў—2,3 проц.,* | палякаў—2 проц., |
| 74 | 7 „ | беларусаў—52,9 проц., | беларусаў—52,2 проц., |
| 82 | 9 „ | аддзел, латышоў | аддзел. Латышоў |
| 82 | 1 зьнізу | 8,3 проц., | 8,1 проц., |
| 89 | 14 „ | 5,3 % | 5,7 % |
| 91 | 16 зьверху | 7.000 | каля 6.000 |
| 91 | 17 „ | 47 проц. | 39 проц. |
| 106 | 15 зьнізу | рамках | руках |
| 106 | 6 „ | 1.000 | 100 |
| 115 | 2 „ | лацінская | лацінікай |
| 118 | 3 зьверху | арбочым | рабочым |
| 132 | 3 зьнізу | ашуканы | арганізаваны |
| 133 | 7 і 8 зьверху | Гэта, між іншым, зьявілася прычынай і паслухмянай служ-бы. Калі пасьля вы-рашэньня Лігай На- | Гэта, між іншым, зьявілася прычынай адстаўкі Ластоўска-га і замены яго Цьвікевічам. |
| 133 | 17 „ | тэрыторыю, | тэорыю, |